ISSN 0320-7544

# Беларусь

1989 9 609





Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№9 (609)
ВЕРАСЕНЬ
1989 г.

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: момант сустрэчы футбольных каманд «Дынама» (Мінск) і «Дынама» (Кіеў). У нападзенні — Сяргей Гоцманаў (злева).

Фота Дзмітрыя ЛУПАЧА.

Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 13.07.89.
Падпісана да друку 23.08.89.
АТ 05317.
Фармат 70×108 1/8.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 12.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т. 20 050 экз.
Зак. 298.

Адрас рэдакцыі:
220600, Мінск, ГСП,
вуліца Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 12 машынапісных старонак.

220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Ордэна
Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.





Фядора Данілаўна Конюхава.

# НА КАГО МА

**ВЕСТКА аб незвычайных здольнасцях бабулі Фядоры з Магілёўшчыны, пра яе крынічкі з «жывой» вадой абляцела ўсю Беларусь і выйшла далёка за яе межы, прымусіла тысячы людзей спяшацца ў Мінск, дамагацца прыёму ў простай сялянкі, якой у выглядзе эксперыменту дазволілі практыкаваць у адной з бальніц.**
**Для многіх спакутаваных, знявераных у здольнасцях айчыннай медыцыны людзей гэта — апошняя надзея.**
**І самае цікавае, што некаторых хворых бабуля Фядора сапраўды ставіць на ногі.**
**Што гэта — магутная сіла гіпнозу або чараўніцтва, здольнасць уплываць сваім біяполем на біяполе іншага чалавека або звычайнае шарлатанства?**
**З'ява гэта трывожыла розумы не аднаго пакалення, неаднаразова абмяркоўвалася ў прэсе і таму патрабуе неадкладнага і дэталёвага навуковага вывучэння.**
**І тлумачэння, якому б мы, урэшце, паверылі.**
**Пра гэта яшчэ раз сведчыць рэпартаж, прапанаваны вашай увазе.**

# Бабуля Фядора

Далоні ў Фядоры, як два гарачыя прасы. Нібыта і не глядзіць на цябе зусім, а руку пакладзе якраз на хворае месца. Раптам стане горача, і боль адыдзе. Пройдзе пара хвілін — і гатовы дыягназ, які часцей за ўсё супадае з урачэбным. Але бывае, што Фядора Данілаўна — адзіны чалавек, які вызначае яго: урачы, абследаваўшы хворага, да адзінай высновы не прыйшлі.

— Хвароба Бехцерава, рассеяны склероз, міяпатыя,— называе захворванні жанчына, якая ніколі не чытала падручнікаў па анатоміі і фізіялогіі. «Ці магчыма такое?»— спытаецца ўрач і не паверыць простай сялянцы з Магілёўшчыны, якая, дарэчы, заўсёды была багатая на экстрасенсаў. Але нам давялося пачуць і іншае. Урач са шматгадовым стажам, убачыўшы, як у 4-й клінічнай бальніцы Мінска пасля сеанса Фядоры адзінаццацігадовая дзяўчынка ўстала з насілак і пайшла, сказала: «Чаго варты пасля гэтага мой дыплом? Пяць гадоў я лячыла дзіця, а істотнай дапамогі не аказала. Чаму ж нас не вучаць гэтаму ў інстытуце?»

Фядора не дае лякарстваў, не робіць масажу, іншы раз нават не датыкаецца да чалавека, а яму лягчэй. Сама яна тлумачыць свае дзеянні проста:

— Настройваешся на біяполе таго, хто сядзіць побач, і адразу адчуваеш яго боль на сабе. Ен доўжыцца нейкія долі секунды, але ты паспяваеш зразумець, дзе «забуксавала». У целе чалавека — сем асноўных энергетычных зон, і адна з іх можа «гультайнічаць». Пераразмеркаваўшы энергію, адразу ўключаеш яе. Бледнае, змарнелае дзіця, маці сцвярджае: парок сэрца. Але вось адкрыта грудная зона, знята спазма, кроў струменіць па жылах. Шчокі дзяўчынкі паружавелі — ніякага пароку і не было.

Спрачацца з Фядорай недарэчна: усярэдзіне яна бачыць гэтак жа, як і звонку. Вось толькі ўрачы аперыруюць паняццямі «мышцы», «нервовая і крываносная сістэма», а Фядора ў асноўным толькі адным — «энергетыка».

— Чаму да некаторых людзей вы нават не датыкаецеся, толькі гутарыце з імі?

— Калі я адчуваю, што ад чалавека лёгенька б'е токам, я не маю права да яго датыкацца. Гэта Карма. Умешвацца нельга.

— Атрымліваецца, вы, як і мудрацы Усходу, прытрымліваецеся тэорыі, што чалавек жыве не адно жыццё. І ў новым абавязкова расплачваецца за старыя грахі. Гэта і ёсць, на іх думку, Карма, або закон вышэйшай справядлівасці, пра які ў народзе склалі прымаўку: «Што пасееш, тое і пажнеш».

— Не зусім так. Мы часта здзіўляемся, чаму акадэмік у адпачынку становіцца печнікам і майструе сябрам каміны, а актрыса цудоўна шые. Людзі гавораць: захапляецца. А на самай справе — гэта памяць пра назапашаныя веды, уменне, атрыманае ў ранейшым жыцці.

— А вам не здаецца, што не ўмешвацца ў Карму ўсё ж неміласэрна? Чалавек жа пакутуе...

— Але калі вы ў мінулым жыцці забілі чалавека, то ў гэтым павінны пакутаваць з-за гэтага. Іншага шляху росту духу няма. І плаціць будзеце адразу, з пялёнак. Пакуты Кармы вызначыць лёгка. Як правіла, усе аналізы цудоўныя, рэнтген нічога не паказвае, урачы не могуць вызначыць дыягназу, а ў чалавека ці ў дзіцяці абсалютна ўсё баліць. Пра такія захворванні ўрачы амаль нічога не ведаюць. Яны толькі апісаны, рэцэптаў жа лячэння няма.

— А СНІД, гэта што па-вашаму?

— Расплата за разбэшчанасць. І хварэць на яго будуць толькі амаральныя людзі, для якіх няма нічога святога, для якіх выпадковыя сувязі — звыклая рэч.

— А выпадак захворвання дзяцей у Элісце і Валгаградзе? У чым правініліся яны?

— Іх згубіла разбэшчанасць дарослых. І гэтым дарослым яшчэ давядзецца адказваць за ўсё.

— Значыць, не рабі нічога кепскага, каб не наклікаць на сябе непрыемнасцей у будучым?

— Значыць, так. Толькі вось словы мае для тысяч людзей — містыка. Іншы раз маці носіць дзіця пад сэрцам і думае пра яго не як пра найдаражэйшую істоту, а як пра ворага і тым самым фарміруе яго ўнутраны воблік, нават скарачае



● Цесна ў калідорах 10-й клінічнай бальніцы.

# ...ЛІЦЦА ХВОРАМУ?



яму жыццё. Іншы раз стаіць над сынам, у якога не рашаецца задачка, і крычыць: «Скаціна! Асёл! Паразіт!». І дзіця сапраўды пачынае разважаць не лепш, чым асёл. Расплата за ўчынкі неабавязкова адкладваецца на будучыню. Яна можа прыйсці і сёння. Або што такое гіпноз? Для мяне гэта проста абмен энергіямі. Адзін чалавек мае высокія энергіі, другі з-за свайго ладу жыцця і мыслення — нізкія. Мозг другога чалавека не можа прыняць высокіх энергій першага, таму ён трапляе ў стан, падобны на сон, які адрозніваецца ад звычайнага сну тым, што чалавек усё ўспрымае.

Шмат загадак у прыродзе і космасе, і трэба спяшацца іх разгадаць. З вывучэннем нябачных энергій мы недаравальна спазніліся, а ўсё ж у свеце пабудавана менавіта на іх. Напэўна, таму ў прыродзе ўсё так гарманічна — слабы заўсёды побач з дужым. Зыходзячы з гэтага, мяркую, што нашы бальніцы арганізаваны няправільна. Хворых павінны акружаць здаровыя людзі, толькі тады лякарствы ім дапамогуць. Так рабілі ў Старажытнай Грэцыі. А мы змяшчаем хворых побач з хворымі, яны энергетычна заражаюць адзін аднаго. І гэта заражэнне мацнейшае за бактэрый, яно іншы раз і забіць можа. А ўрачы пры анатаміраванні не выявяць ніякага захворвання.

Баюся, што нікога не пераканаю, але паўтараю: мы адказныя за сваё мысленне. У соцень жа людзей у галаве, як у кошыку для смецця, думкі бязладна наскокваюць адна на адну, прыгнятаючы не толькі ўласны арганізм, але і навакольных. Мне часта паўтараюць, што гэта трэба даказаць. А па-мойму, зрабіць гэта лёгка. Вазьміце руку blízкага чалавека. Намацайце пульс і папрасіце падумаць пра ўласнае дзіця, потым — пра што-небудзь непрыемнае, пра свайго ворага, нарэшце,— пра любімага чалавека, пра маці. Вас здзівіць змена рытму пульсу на працягу некалькіх секунд. Вось і зрабіце вывад. Вучоным пакуль не стае часу гэта зрабіць. У іх іншыя, не менш важныя праблемы, у асноўным вакол чалавека. А трэба было б вывучаць яго самога. Тады многае змянілася б у нашым жыцці...

Гутарку вяла **Лілія ЛАМСАДЗЕ.**







● **У калідоры 4-й клінічнай бальніцы Фядору ўжо чакалі...**
● **Дыягназ у палявых умовах.**
● **Якая яна, Фядора!**
● **Здымкі сюжэта для праграмы «Здароўе» Беларускага тэлебачання.**
● **Чарга за... вадой.**

**Фота Аляксандра ШАБЛЮКА.**

# НА КАГО МАЛІЦЦА ХВОРАМУ?

## З ПАЗІЦЫІ ЎРАЧА-ПРАКТЫКА

Апошнім часам сродкі масавай інфармацыі напоўнены матэрыяламі аб нетрадыцыйных метадах лячэння. Паняццямі «экстрасенс», «біяполе» лёгка аперыруюць нават дзіцячыя выданні. Інтарэс журналістаў, хворых да эфектыўнага лячэння біяполем лёгка зразумець, калі ўлічыць гаротны стан айчыннай медыцыны. Зараз нікога не здзіўляе прымяненне мануальнай тэрапіі, іглатэрапіі, лячэнне травамі — усе гэтыя метады прыйшлі ў афіцыйную медыцыну з народнай. Яны вывучаны спецыялістамі, якія распрацавалі дакладныя рэкамендацыі па іх прымяненні. Магчыма, недалёкі той час, калі вучоныя гэтак жа дасканала вывучаць прыроду біяполя, яго здольнасць уплываць на арганізм чалавека, а візіт да ўчастковага экстрасенса будзе гэткай жа звычайнай з'явай, як сёння кансультацыя ў педыятра або стаматолага.

Магчыма. Але на сённяшні дзень метады лячэння экстрасенсаў, якіх у народзе называюць «лекарамі», «бабкамі», з'яўляюцца малавывучанымі і загадкавымі, бо ім няма прэцэдэнту, а факты цудадзейнага і хуткага выздараўлення некаторых хворых асабіста ў мяне выклікаюць недавер. Як медык і матэрыяліст, я прывык верыць толькі фактам і ўласным вачам і карыстацца толькі добра праверанымі сродкамі.

Узяцца ж за пяро мяне прымусіў выпадак, сведкам якога я быў. Коратка пра сябе: я — малодшы навуковы супрацоўнік НДІ неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі з дзесяцігадовым стажам работы, зарплата 150 рублёў.

У нейрахірургічным аддзяленні 5-й клінічнай бальніцы, дзе я працую, знаходзіўся на лячэнні васемнаццацігадовы Аляксандр Н. з дыягназам «пухліна мазжачка», якога рыхтавалі да тэрміновай аперацыі. Аднак далейшыя падзеі прымусілі скалануцца ўсё аддзяленне — ад хворых да ўрачоў. У аддзяленні з'явілася Конюхава Фядора Данілаўна, усемагутная «бабка Фядора». Паабяцаўшы бацькам вылечыць сына, яна прымусіла іх забраць маладога чалавека дадому. Бацькоў можна было зразумець. Зусім жа нядаўна ў газеце «Советская Белоруссия» ад 1 студзеня 1989 года ў артыкуле Л. Ламсадзе сцвярджалася, што бабка Фядора вылечвае пухліны мазжачка.

У час «сеанса» каля ложка хворага Конюхаву неаднаразова папярэджвалі аб магчымых выніках адтэрміноўкі аперацыі (пухліны гэтай лакалізацыі часта прыводзяць да нечаканай смерці, з-за аклюзіі ліквcovых шляхоў). Дарэчы, тым, хто начытаўся пра «цуды» лекаркі, магу паведаміць, што Фядора Данілаўна прыкладвала рукі зусім не да той часткі галавы, дзе была пухліна. Калі ўрачы зрабілі ёй заўвагу, яна, крыху збянтэжыўшыся, адказала, што яна «перагоніць увесь бруд у адно месца», каб, маўляў, лягчэй было выдаліць пухліну...

— Ну, а калі ён памрэ? — спыталіся мы ў Фядоры Данілаўны.

— Тады я лягу ў труну разам з ім,— вельмі эфектна адказала яна.

Саша памёр ўвечары таго ж дня, раптоўна, як мы і меркавалі. У тое ж імгненне Ф. Д. Конюхава знікла з кватэры. Гору падманутых бацькоў ужо нічым не дапаможаш, а вось выратаваць іншых хворых яшчэ можна. Мы ў гэта верым, таму і напісалі ўсе разам пісьмо ў «Советскую Белоруссию», з «лёгкай» рукі якой з'явілася рэкламная публікацыя пра «бабку» Фядору, дзякуючы якой Міністэрства аховы здароўя БССР вырашыла дазволіць ёй прымяняць свае метады для лячэння дзяцей і эпілептыкаў. Звярнуліся мы і ў пракуратуру БССР. І вось 7 мая 1989 г. у «Советской Белоруссии» з'явіўся трыадзіны адказ: рэкламна-ўзнёслы артыкул усё той жа Л. Ламсадзе, памяркоўны каментарый начальніка Галоўнага ўпраўлення медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя БССР А. А. Зарына і адказ пракуратуры. Прачытаўшы гэту падборку, прыходзіш да высновы, што некаму вельмі патрэбна, каб «бабка» Фядора ні ў чым не была вінаватай, каб людзі і надалей, не атрымаўшы неабходнай медыцынскай дапамогі, звярталіся да мясцовых лекараў і як мага менш пыталіся: «Чаму ў нас дагэтуль няма аднаразовых шпрыцоў? Якое ў нас становішча з нітратамі і радыяцыяй?»

Гэта, вядома, эмоцыі. А калі гаварыць па сутнасці справы, то ў адказе пракуратуры ёсць грубыя недакладнасці, якія цалкам скажаюць тое, што адбывалася. Напрыклад, пухліна прызнана неаперабельнай (цікава, кім?), у той час як нейрахірургі выдаляюць гэтыя пухліны і больш як 50 працэнтаў хворых ачуньваюць пасля аперацыі. У адказе прыводзяцца і іншыя, спрэчныя з медыцынскага пункту гледжання, факты, аднак справа не ў іх. Галоўнае ў тым, што ў хворага быў рэальны шанс не толькі выжыць, але і паправіцца! Фядора Данілаўна Конюхава і яе спонсары пазбавілі васемнаццацігадовага студэнта гэтага шансу.

Хацелася б, каб усе, хто меў дачыненне да гэтага сумнага выпадку, зрабілі адпаведныя вывады. Аднак урок не пайшоў ім на карысць. Фядора Данілаўна працягвае лячыць людзей, прычым без разбору, як з сумам сцвярджае А. Зарын. Гарантыі, што заўтра яна не возьмецца лячыць апендыцыт і грыжу, цукровы дыябет і СНІД, няма. Гэта страшна!

У друку эпохі перабудовы з'явілася шмат артыкулаў пра нашу, з дазволу сказаць, ахову здароўя. Чэргі ў паліклініках, загружанасць медыцынскага персаналу, адсутнасць лякарстваў і абсталявання — усё гэта праўда. Але праўда і іншае: гэта не асобныя недапрацоўкі і памылкі медыцынскіх работнікаў, гэта застарэлая (70-гадовая), занядбаная хвароба ўсёй нашай сістэмы аховы здароўя. І, на мой погляд, трэба не рэкламаваць неправераныя, а часам і шкодныя метады лячэння, а зрабіць усё, каб высветліць прычыны нашага катастрафічнага адставання ад развітых (і не вельмі) краін у галіне аховы здароўя. Як і ўся гісторыя нашай краіны, гісторыя айчыннай медыцыны перапоўнена лозунгамі-міфамі аб яе «бясплатнасці», «даступнасці», «прафілактычнай скіраванасці» і г. д. Як чалавек кампетэнтны магу сцвярджаць: гэта ўсё блеф. Гэткі ж блеф, як і наша звыклая дэкларацыя «ўсё лепшае — дзецям» і пяцьдзесят другое месца па дзіцячай смяротнасці ў свеце, якое мы «пачэсна» займаем ззаду некаторых афрыканскіх краін.

У краіне зараз намецілася здаровая тэндэнцыя вырашаць праблемы перабудовы, пачынаючы з палітычных і эканамічных пераўтварэнняў. І гэта правільна. Але ж гэтыя пераўтварэнні разлічаны на многія гады, а людзі, нашы суайчыннікі, суседзі, сваякі, хварэюць сёння, паміраюць ад невылечных, а галоўнае — ад вылечных хвароб. Яны не могуць чакаць, ім патрэбна неадкладная дапамога. Патрэбны неадкладныя карэнныя пераўтварэнні ў ахове здароўя. А да таго часу, пакуль міласэрнасць па сацыяльнаму статусу будзе прыраўноўвацца да сферы паслуг, а ўрач па зарплаце — да некваліфікаванага работніка, занятага фізічнай працай, мы будзем мець такую ахову здароўя, якая прымусіць нас маліцца на «цудатворцаў».

Ігар ЛЮБІШЧАЎ,
нейрахірург.





Змітрок МАРОЗАЎ

ОЖНЫ ГОД тысячы выпускнікоў школ па накіраванню калгасаў і саўгасаў становяцца студэнтамі вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў. Яшчэ больш моладзі паступае ў сельскія прафесійна-тэхнічныя вучылішчы. І не было б ніякіх пытанняў, калі б усе тыя дыпламаваныя аграномы, інжынеры, заатэхнікі пасля заканчэння тэрміну навучання, вярнуўшыся ў свае гаспадаркі, засталіся ў іх працаваць. На жаль, застаюцца далёка не ўсе. А гэта азначае, што фактар арыентацыі на Гаспадара не спрацоўвае да канца.

А ці так ужо і многа ў нас сапраўдных гаспадароў?

Можна было б прывесці даволі шмат прыкладаў па-сапраўднаму ашчадных адносін да роднай зямлі і ўсяго таго, што яна трымае на сваіх грудзях, поіць і гоіць жыватворнымі сокамі жыцця, дапамагае выстаяць пад бяздумным наступам асобных «гаспадарчыкаў», якія, узброіўшыся сучаснымі ведамі і тэхнічнымі сродкамі ў азартнай пагоні за таннымі прыбыткамі, а нярэдка — за лёгкай славай, пакідаюць пасля сябе (сваім жа дзецям!) голыя пянькі і глыбокія кар'еры, пакрамсаныя жалезнымі тракамі і масіўнымі коламі шматлікіх трактароў лужкі і пожні.

ВЫБАР будучай прафесіі — своеасаблівы псіхалагічны пералом — у жыцці многіх вясковых юнакоў і дзяўчат адбываецца ў восьмым класе. Часцей за ўсё школа гэтае пытанне вырашае адназначна: маеш добрыя адзнакі — ідзі ў дзевяты клас, а калі не цягнеш на «прахадны» бал — збірайся ў прафесійна-тэхнічнае вучылішча. Добра, калі выпускнік ужо ведае, чаму ён будзе навучацца ў тым ПТВ, яшчэ лепш, калі далейшая вучоба будзе спрыяць абранай прафесіі. А што, калі не ведае?.. Усё роўна ў ПТВ! І сапраўды, куды ж ты падзенешся, калі назад у школу не бяруць, а ў калгасе непаўналетніх не прымаюць — статут калгаса не дазваляе!

«Дзіўная рэч атрымоўваецца. Рэформа прадугледжвае, каб школа была дадатковым падраздзяленнем калгаса ці саўгаса, а на практыцы ажыццявіць гэтае патрабаванне амаль немагчыма. Вось і застаецца нам, педагогам, арыентаваць вучняў больш на словах, бо нават дасканалае веданне трактара, не падмацаванае актыўным удзелам у канкрэтным вытворчым працэсе, для спасціжэння прафесіі механізатара амаль нічога не дае». Гэтую шчырую споведзь-боль я пачуў ад Васіля Пятровіча Молчана, дырэктара Жажэлкаўскай школы, што ў Смалявіцкім раёне.

Відаць, цалкам згодны з меркаваннем педагога механізатар калгаса імя Ільіча Бялыніцкага раёна Аляксей Цвыр. Таму і навучыў сваіх непаўналетніх сыноў яшчэ да паступлення ў прафесійна-тэхнічнае вучылішча не толькі кіраваць рознымі маркамі гусенічных і калёсных трактароў, але і выконваць шматлікія тэхналагічныя аперацыі на сяўбе і ў час жніва. Прычым не на абмежаваным па памерах кавалачку зямлі вучэбна-вытворчага камбіната, а на калгасным полі. Ці ж гэта не лепшы прыклад хлебаробскай педагогікі? Усё тут ёсць: і прафесійная вучоба, і дачыненне да спраў і клопатаў роднага калгаса, і ўменне гаспадарыць. Вось чаму сёння неабходна даручаць вучням тэхніку і зямлю, прычым не толькі тую, што «замацавана» за вучэбна-вытворчым камбінатам, агароджаную частаколам ведамаснасці і рамкамі пэўнай праграмы вучэбнага працэсу, а зямлю — спадчыну, з вёскамі, палямі і лугамі, пашамі і жывёлагадоўчымі фермамі, каб юнакі і дзяўчаты як мага хутчэй змаглі вызначыць свой жыццёвы выбар.

Тады сама па сабе адпадзе патрэба ў «валавых», як след не вывераных часам наборах у сельскія прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, што ў сваю чаргу дазволіць у значнай меры скараціць прыток выпадковых людзей у сельскагаспадарчую вытворчасць.

Мінулі часы агульшчыны і славутага ахопу.

Сёння ўсе фактары паскарэння: сацыяльныя, эканамічныя, навукова-тэхнічныя і г. д., бадай, як ніколі раней, прадукцыйна і паўнакроўна працуюць на чалавека і для чалавека. А значыць і чалавек павінен быць узаемна ўдзячны — працаваць з адпаведнай самааддачай.

На жаль, там-сям па-ранейшаму бадзёра і рапартоўна яшчэ называюцца лічбы: колькі выпускнікоў школ атрымалі пасведчанні аб прафесіях механізатара і жывёлавода за час навучання ў вучэбна-вытворчым камбінаце, колькі чалавек накіравана па камсамольскіх пуцёўках у сельскія прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, і зусім рэдка пачуеш пра галоўнае — а ці многа з іх засталося працаваць па абранай прафесіі праз год, праз два гады, праз тры гады...

А гаварыць аб гэтым трэба разумна, тактоўна, без гучнай пахвальбы, з паглядам у перспектыву.

Якой будзе перспектыва сучаснай вёскі — залежыць гэта ў першую чаргу ад моладзі. Менавіта ў адносінах да маладой змены найбольш ярка і паўнакроўна выяўляецца сёння асоба сапраўднага гаспадара. Калі не хапае грашовых сродкаў, іх без асаблівых перашкод можа прадаставіць банк, будаўнічыя матэрыялы, угнаенні, тэхніку з пэўнымі цяжкасцямі таксама можна знайсці. А вось чалавека, які адарваўся ад роднай зямлі, вярнуць назад надзвычай складана, скажу больш — практычна немагчыма.

Відаць, добра ведаў гэтую на першы погляд прапісную ісціну Міхась Аляксандравіч Карміт, калі некалькі гадоў таму назад прымаў калгас «Рассвет», які быў у ліку самых адстаючых гаспадарак у Нясвіжскім раёне. Усяго сем гадоў мінула. За гэты час у калгасе пабудаваны 40 кватэр, сталоўка на 50 месц, дзіцячы сад, Дом культуры, адрамантаваны дарогі, зроблены асфальтаваныя пад'езды да ферм, значна палепшыліся ўмовы працы ў жывёлагадоўлі. Пераўтварэнні ў сацыяльнай сферы стварылі якасна новыя ўмовы для паляпшэння эканамічных паказчыкаў гаспадаркі. Сёння калгас «Рассвет» у ліку лепшых не толькі ў раёне, але і ў вобласці. Ды не толькі аб мільённых прыбытках дбае М. А. Карміт. Клопат аб людзях — па-ранейшаму на першым месцы. Мінула два гады, як у калгасе адкрылі швейны цэх. Вялікіх грошай у касу гаспадаркі ён не дае. Затое шмат дзяўчат пасля заканчэння школы не ўцякаюць у гарады ў пошуках «чыстай» работы, а застаюцца ў калгасе, балазе швейны цэх пад бокам.

Ствараюцца маладыя сем'і, нараджаюцца дзеці. Жыццё не затухае, а ўзнаўляецца з новай сілай. Паспяхова вырашаецца праблема амаладжэння калектыву. Дастаткова прывесці лічбы. Сёння з 478 калгаснікаў 103 маюць узрост да 30 гадоў. Пяць гадоў таму назад моладзі ў гаспадарцы было толькі 56 чалавек.

Калі працаваў у раёне, добра ведаў адну дзяўчыну. Пасля школы яна закончыла ПТВ і прыйшла працаваць у родны саўгас. Даручылі ёй старэнькі Т-40. Нехта са старых механізатараў аднойчы неабачліва сказаў: «Не дзявочая гэта справа — на трактары працаваць. Во пабачыце, пакруціць яна гайкі ды і кіне сваю «ляльку».

Толькі не спраўдзіліся тыя словы. І што цікава — пачала маладая трактарыстка наступаць на пяты сваім больш вопытным і спрактыкаваным калегам і нават абганяць іх. Праз год — другі стала яна адным з лепшых механізатараў у раёне. Поспехі дзяўчыны заўважылі. Прызвычаіліся выклікаць яе на розныя пленумы, пасяджэнні, злёты. Пасыпаліся граматы, ганаровыя значкі, дыпломы.

Нехта параіў: «Раз ты, як кажуць, на людзях, то трэба табе вучыцца». І накіравалі лепшую маладую трактарыстку раёна ў сельскагаспадарчы тэхнікум вучыцца на агранома.

Калі ласка, толькі не падумайце нічога благога. Я зусім не супраць вучобы — яшчэ нікому яна не шкодзіла. Нават апошняму дурню! Але хто дасць гарантыю, што, назаўсёды згубіўшы ў сабе кваліфікацыю майстра-механізатара, мая знаёмая набудзе адпаведнае майстэрства ў аграноміі?

Але давайце крыху пачакаем. Хутка дзяўчына атрымае дыплом.

А раз аграномія — гэта навука аб законах узаемадзеяння чалавека і зямлі, менавіта яны, гэтыя законы і павінны выявіць твой розум і веды! А людзі скажуць! Вось, вам і разгадка загадкі: стане былая трактарыстка сапраўдным аграномам ці не?

чаму вас толькі ў тых акадэміях ды інстытутах вучаць?» Такое не зусім прыемнае пытанне-папрок давялося неаднойчы пачуць і мне ў першыя месяцы сваёй працы, у тым ліку і ад старэйшага механізатара калгаса «Рэвалюцыя» Быхаўскага раёна кавалера ордэна Леніна Івана Пазнякова, калі я не змог наладзіць сеялку на патрэбны высеў пры дапамозе... запалкі!

Менавіта так, пры дапамозе звычайнай запалкі і гаечнага ключа Пазнякоў паказаў мне, як адрэгуляваць катушкі высевальных апаратаў. Не буду засяроджваць вашу ўвагу на гэтай няхітрай маніпуляцыі, нічога новага ў аграноміі ўсё роўна не адкрыю. А калі вам вельмі карціць усё ж даведацца, як гэта робіцца, спытайцеся ў любога вясковага агранома ці брыгадзіра, а яшчэ лепш — у механізатара. У іх гэта атрымаецца не горш, а можа, нават і лепш, чым у мяне.

«Не можа такога быць! — чую, як пярэчыць мне студэнт чацвёртага курса сельскагаспадарчай акадэміі.— Нас вучаць, што для таго, каб адрэгуляваць сеялку на патрэбную норму высеву, трэба паставіць яе на роўную пляцоўку, насыпаць у латкі адпаведную разліку колькасць зерня, а пасля гэтага пакруціць кола агрэгата, пакуль насенне не высыплецца на посцілку. Потым...»

Хопіць, дарагі мой калега. Калі б я быў выкладчыкам, абавязкова б паставіў вам «выдатна». Ды як былы агранам не зраблю гэтага, бо некалі сам атрымаў за такую ж рэгуліроўку два балы. Падумай лепш сам, які трактарыст будзе чакаць, пакуль мы знойдзем тую роўную пляцоўку, каб падважыць, а пасля, засыпаўшы зерне, цярпліва пракручваць кола. Час прыспешвае, бо сяўба! Пры дапамозе запалкі, гаечнага ключа і ўласнага майстэрства ён зробіць тую ж аперацыю, прытым намнога хутчэй і не горш, чым мы з табой па навуцы.

Адсюль такая вось замова: калі ты сапраўдны вясковы спецыяліст, умей зрабіць усё — і запрэгчы каня, і адрэгуляваць складаны механізм. Гэта аб'ектыўная неабходнасць, і ад яе нікуды не падзенешся. А каб неабходнасць стала явай жыцця, ад кожнага маладога спецыяліста патрабуецца максімум самааддачы ў працы і настойлівы творчы пошук.

Шматлікія сустрэчы і размовы з кіраўнікамі гаспадарак, сціплымі вясковымі працаўнікамі кожны раз пацвярджаюць адну маю думку: усе яны хочуць бачыць у сучасным спецыялісце не толькі ўмелага тэхнолага, але разам з тым — разумнага стратэга, які павінен не толькі аператыўна ставіць тактычныя задачы брыгадзірам і загадчыкам ферм, але таксама, і гэта сёння, бадай, галоўнае — своечасова і якасна аналізаваць зробленае. Каб можна было з упэўненасцю глядзець у новы дзень.

А ці кожны малады спецыяліст мае час засяродзіцца на вырашэнні задач Перспектывы?

«Менавіта для гэтага часу якраз і не хапае,— паскардзіўся мне пры сустрэчы мой даўні сябар Міхась Няўмержыцкі, які працуе старшынёй калгаса на Гомельшчыне.— А прычыны гэтай хранічнай хваробы — ранейшыя: шматлікія выклікі ў розныя раённыя інстанцыі на патрэбныя і непатрэбныя нарады, падрыхтоўка зводак і інфармацый, якія для калгаса не маюць ніякага практычнага значэння, бясконцая цякучка. Усё гэта адбівае ад справы, а таму нярэдка яшчэ здараецца, што малады чалавек расчароўваец-

# ВЯРТАЦЦА ДА

ца ў абранай прафесіі, губляе сваю кваліфікацыю».

Так, вельмі балюча, калі губляецца здольны, удумлівы спецыяліст. Трывожна, калі гаспадарку пакідае «дыпламаваная пасрэднасць».

І зусім кепска, калі ні першы, ні другі не бачаць перад сабой перспектывы.

Дарэчы, калі ўжо гаворка зайшла менавіта аб перспектыве, то трэба зазначыць, што «дыпламаваная пасрэднасць» звычайна разглядае яе толькі ў адным аспекце — у аспекце асабістай выгады.

Гардэробшчыкі, сантэхнікі, электрыкі, супрацоўнікі пры розных навуковых установах — вось далёка не поўны пералік прафесій толькі маіх знаёмых, якія маюць дыплом «сельгасніка». Большасць з іх нядрэнна ўладкаваліся, маюць неблагі заробак. (Са слоў некаторых з іх «прыварак» нават пераўзыходзіць памеры асноўнай платы за працу.)

І нікога з іх ніколечкі не хвалюе, што на дзяржаўнай дадзеную і ўзаконеную дыпломам адукацыю і кваліфікацыю патрэбна было б як след папрацаваць. Ды і пра што тут казаць, калі многія з іх ужо даўно забылі дарогу ў родную вёску, асляпішы ад бляску крышталю ў сваіх «кватэрах-норах», аглухшы ад гулу заморскіх магнітафонаў.

Дарэчы, недалёка ад гэтай непрывабнай катэгорыі адышлі і так званыя «летуны». Качуе такі гораспецыяліст з гаспадаркі ў гаспадарку, ніяк не можа затрымацца на адным месцы. Усё яму не так: то пасада дрэнная, то аклад малы, то кватэра не мае гарадскіх выгод. І што самае дзіўнае, дзе такі «лятун» ні з'явіцца, яго ўсюды сустракаюць ледзь не з абдымкамі, усюды на яго ёсць попыт. Толькі ён гэтага не цэніць і не заўважае. Галоўнае для яго — уласная кішэня.

На розных сходах, пасяджэннях, на старонках нашай перыёдыкі, у прыватных размовах мы задаём сабе адны і тыя ж пытанні: адкуль такое імкненне да лёгкага хлеба ў маладых юнакоў і дзяўчат, якія толькі-толькі распачынаюць самастойна жыць? Якая глеба спрыяе буйному росту лапушыстага пустазелля карыслівасці і нажывы ў юных душах?

Над вырашэннем гэтых пытанняў сёння настойліва працуюць і школа, і сацыёлагі, і шматлікія грамадскія арганізацыі, а таксама — гаспадарнікі.

І ўсё ж ці не тоіцца жаданы адказ у нашых «добранькіх» адносінах да такіх вось дыпламаваных маладзёнаў, якія, страціўшы свой грамадзянскі гонар, карыстаюцца правам (дарэчы, дзяржаваі дадзеным правам!) уладкоўвацца на працу ў кожным новым месцы па дыплому (бо ёсць спецыяльнасць) або не па спецыяльнасці (бо ёсць дыплом аб вышэйшай адукацыі!).

Попыт у кадрах вызначаецца панаццем стабільнасці. А стабільнасць — катэгорыя гаспадарчая. Пра тое не пашкодзіла б успомніць некаторым нашым гаспадарнікам, якія, далікатна кажучы, «няўважлівымі» адносінамі да гэтага пытання ў апошнія гады спрыялі абясцэньванню, своеасаблівай дэвальвацыі маладога спецыяліста.

Асабіста мяне заўсёды абурае стэрэатып псіхалогіі такіх вось «кіраўнікоў». «Звальняецца малады спецыяліст? Калі ласка, знайду іншага! Вунь іх колькі штогод з акадэмій ды інстытутаў выпускаюць!»

У дадзеным выпадку мы маем не проста абыякавасць, мы сутыкаемся з абыякавасцю ў квадраце, бо памянуты тып кіраўнікоў сам сябе вызваліў ад ускладзеных дзяржавай на ягоныя плечы абавязкаў — выхаваць з дыпламаванай асобы асобу гаспадарчую, замацаваць і паглыбіць у ёй лепшыя чалавечыя якасці. Гэта таксама безгаспадарчасць. Прычым — безгаспадарчасць духоўная! І тут, на мой погляд, вельмі важна адпаведным гаспадарчым і ідэалагічным органам дапамагчы такому кіраўніку прывесці ў парадак гаспадарку сваёй душы, а потым патрабаваць ад яго аддачы на неабсяжным палетку надзвычай нялёгкай, складанай і адказнай работы з людзьмі.

Агульная ў нас зямля, агульны боль і клопат аб ёй. Але ж, разам з тым, у кожнага яна свая. І калі кожны гэтак жа, як аб сабе, хварэе і клапоціцца аб зямлі,— тады агульнае становіцца сваім.

А гэта заўсёды каштуе вялікіх душэўных намаганняў, штодзённай карпатлівай працы. Інакш і быць не можа. Без нялёгкай працы над сабой нават таленавіты аграном не можа стаць Аграномам, здольны заатэхнік — Заатэхнікам, кемлівы інжынер — Інжынерам.

Менавіта сёння, калі ў грамадстве ствараюцца ўсе неабходныя ўмовы для творчага развіцця і ўдасканалення здольнасцей асобы кожнага чалавека, ад перабудовы свядомасці і дзейнасці вясковага спецыяліста, бадай, як ніколі раней залежыць і перабудова на якасна новым, больш высокім узроўні ўсіх сфер вясковага жыцця: эканамічнай, вытворчай, сацыяльнай і г. д.

Разам з тым усё часцей мяне трывожыць адно і тое ж пытанне: ці не замнога апошнім часам у нас з'явілася «агульненькіх!», прыгладжаных, прылізаных, акругленых інжынераў, аграномаў, заатэхнікаў і г. д.?

Адкуль яны бяруцца? Дзе карані гэтай надзвычай складанай і супярэчлівай праблемы? Дарэмна шукаць іх у горадзе — на асфальце і бетоне ўсё роўна нічога не расце, нават пустазелле. Такім чынам, давядзецца нам зноў вяртацца на грэшную зямлю, у той жа калгас ці саўгас, гаворачы прасцей, да вытокаў.

З

НАЁМЫ выкладчык культасветвучылішча ў адной даволі палкай спрэчцы іранічна папракнуў мяне: «Вось вы, гаспадарнікі, увесь час гаворыце пра дэфіцыт культуры ў вёсцы, вінаваціце ў гэтым культасветвучылішчы, інстытуты культуры. Вядома, сваёй долі віны з сябе мы не здымаем. Ды толькі паслухай, што я табе скажу: каго вы нам накіроўваеце на вучобу, такую і культуру маеце на вёсцы».

Цікава, а каго калгасы і саўгасы накіроўваюць на вучобу ў сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы? Сёння адказ на гэтае пытанне гучыць адназначна: менш здольную моладзь, або пераважна тых юнакоў і дзяўчат, якія не вытрымалі конкурсаў пры паступленні ў гандлёвыя, тэхналагічныя, політэхнічныя, педагагічныя і іншыя прэстыжныя ВНУ і тэхнікумы. Вядома, сярод іх трапляецца шмат людзей выпадковых, далёкіх ад вясковых клопатаў і праблем. Адсюль і «праславутая шэрасць», дэфіцыт культуры і шмат якія іншыя хібы ў вясковым укладзе жыцця.

Сёння перад школай і гаспадаркамі, камсамольскімі і партыйнымі камітэтамі, перад усёй грамадскасцю на поўны рост узнялася вельмі далікатная сацыяльная праблема. Сутнасць яе ў нежаданні найбольш здольнай часткі выпускнікоў школ паступаць у сельскагаспадарчыя ўстановы. Напэўна, выйсце з дадзенага становішча ёсць, прычым не адно. На мой погляд, трэба як мага хутчэй падняць прафесійны прэстыж сельскагаспадарчых спецыяльнасцей: заатэхніка, агранома, інжынера, гэтак жа, як і механізатара, даяркі і брыгадзіра. Адразу прадбачу, што мой апанент — культасветработнік, са здзіўленнем выпаліць: «Кажаш, падняць прэстыж? Я рукамі і нагамі галасую «за». Толькі чамусьці не разумею — што гэтаму замінае? Ёсць жа ў нас акрамя агромністага аграпрома Камітэт па народнай адукацыі і шэраг іншых кантор. Няхай сабе яны і падымаюць!».

Э, не, дарагі калега, пры такім падыходзе справу з месца не зрушыш. У Асноўных напрамках перабудовы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі ў краіне падкрэсліваецца неабходнасць павароту ад масавага навучання да ўзмацнення індывідуальнага падыходу, развіцця творчых здольнасцей будучых спецыялістаў. Вядома, што змалку творчыя здольнасці ў чалавека развіваюцца ў першую чаргу ва ўзаемадзеянні з роднай прыродай. Вось чаму пры вырашэнні пытання аб прэстыжнасці вясковых прафесій усім нам, ад міністра да старшыні калгаса, відаць, зноў (які ўжо раз!) давядзецца звярнуцца да роднай, салёнай ад поту і крыві нашых далёкіх і блізкіх продкаў зямлі, карацей кажучы, да вытокаў.

**Фота А. Рудчанкі.**



# ВЫТОКАЎ

# І НЕСАКРЭТНАЕ —

*Разважанні над некаторымі статыстычнымі данымі, якія нядаўна пазбавіліся грыфа «для службовага карыстання», але захавалі сумнавядомы арэол «інфармацыі для выбраных».*



Афармленне Уладзіміра КРУГЛОВА.

## І. «СКАЖЫЦЕ, КАЛІ ЛАСКА...»

Перада мной — паведамленне Дзяржкамстата СССР аб папярэдніх выніках Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1989 года. Не думаю, што папярэднія падлікі будуць істотна адрозніваецца ад канчатковых лічбаў. Галоўнае мы даведаліся ўжо некалькі месяцаў назад:

— Усяго нас, грамадзян БССР, цяпер на 200 тысяч больш, чым напярэдадні 1986 года, калі з'явіўся на свет 10-мільённы жыхар рэспублікі.

— Рост насельніцтва рэспублікі за 1979—1989 гг. склаў 7 працэнтаў. Паказчык вельмі нізкі ў параўнанні з большасцю саюзных рэспублік. Аднак многія беларускія гарады — Мінск, Барысаў, Магілёў, Гродна, Мазыр проста дзіву даюцца: для іх гэты паказчык проста ашаламляльны — у два, тры, пяць разоў больш «важкі», чым у папярэднія гады. У Брэсце, да прыкладу, колькасць насельніцтва ўзрасла на 45 працэнтаў. Нечакана? Добра гэта ці дрэнна? Так і было задумана? Пакінем пакуль гэтыя пытанні. Адзначым толькі: за гэтыя 10 гадоў роўна на 10 працэнтаў зменшылася сельскае насельніцтва Беларусі.

Такім чынам, вёскі пусцелі, гарады раслі. Нараджальнасць у нас нізкая, дзіцячая смяротнасць — высокая. Чэргі на жыллё не змяншаюцца, інтэрнаты па-ранейшаму перапоўнены. Расце злачыннасць, павялічваецца таварны голад... Вось гэта, відаць, і ўсё, што мы самі пра сябе ведаем, дакладней, заўважаем. Калі не прыгадваць тут праблемы аховы здароўя, культурнага развіцця, кааператыўнага руху... Калі не гаварыць пра складаны працэс дэмакратызацыі.

Калі не гаварыць!

Але гаварыць менавіта пра гэта — самы час. Маральная, сацыяльная статыстыка і галоснасць, развіццё дэмакратыі — зусім не розныя тэмы. Гэта адно цэлае, непарыўнае, без якога ісці наперад усё роўна, што пракладваць шлях у тайзе без компаса і карты.

Сёння мы ўжо не можам задавальняцца толькі тым, што вось, маўляў, нас зноў «палічылі», цяпер усе ведаюць, як нас многа. Не, нам цяпер трэба ведаць, якія мы, як мы жывём. Нас не задавальняе, да прыкладу, паведамленне аб колькасці жылой плошчы, якую займае сярэдні чалавек. (Хаця і гэта таксама трэба ведаць.) Жылой плошчы, дарэчы, у нас даўно, паводле справаздач, добры пакой на кожнага — 10—15 квадратных метраў. Але... Нехта адзін займае чатырохпакаёвую кватэру, а недзе чацвёра туляцца ў каюце трэцяга класа на старым пасажырскім параходзе. Гэта і ёсць галоўны прынцып статыстыкі — усё дзяліць на ўсіх, у той час як жыццё дзеліць усё па сваіх законах.

І ўсё ж, якімі мы выглядаем у люстэрку скрупулёзнай статыстыкі, для нас усё яшчэ вялікі «сакрэт». Для нагляднасці прапаную кароценькі тэст з цікавых лічбаў. Тых лічбаў, ведаць якія карысна і неабходна.

Умовы тэста простыя: калі з сямі пытанняў (а такіх пытанняў можна задаць і семсот) вы адразу адкажаце на тры або нават чатыры, вы проста эрудыт, прафесійны статыстык або замежны шпіён. Ва ўсякім разе, вы — чалавек незвычайны. А звычайнаму чалавеку таксама хацелася б ведаць:

— Які сярэдні ўзрост беларускага селяніна і гараджаніна?

— Сярэдняя зарплата па краіне — гэта вядома. А якая ў БССР?

— Колькі грошай трацім мы за год на лякарствы і на спіртное?

— Колькі чалавек за дзень, месяц або год прыцягваюцца ў рэспубліцы да крымінальнай або адміністрацыйнай адказнасці?

— Колькі грошай выплачана летась за вымушаныя прагулы?

— Якая дынаміка росту або зніжэння нераскрытых забойстваў?

— Ці шмат у нас алкаголікаў?

— Колькі псіхічнахворых уяўляюць грамадскую небяспеку?

— Колькі прастытутак у нас зарэгістравана?

Вось такі «тэст». Правільныя адказы я, вядома, прывяду, але трохі пазней. А пакуль — некалькі суб'ектыўных заўваг пра тое, як некаторыя «рассакрэчаныя» звесткі да гэтага часу «ўхіляюцца» ад з'яўлення на трыбунах галоснасці.

Работнікам статыстыкі зараз няма асаблівай неабходнасці «маніпуліраваць» лічбамі, хаваць іх у незгаральныя сейфы ад позіркаў суграмадзян. Але паспрабуйце дзеля эксперыменту набраць адпаведны нумар тэлефона і спытаць, да прыкладу, колькі ўсё ж квадратных метраў плошчы на кожнага мы пабудавалі, і ў адказ пачуеце:

— Ніякіх даведак па тэлефоне не даём!

Перакананы, менавіта так і адкажуць. Не засмучайцеся. Мне гэтак жа адказалі. Што рабіць — у людзей інструкцыя і яны на службе. І рады б дапамагчы журналісту, але права такога не маюць. Затое я атрымаў ад іх свежую інструкцыю, што мне неабходна рабіць, каб атрымаць «лічбу»:

— Трэба ўзяць пісьмо ад рэдакцыі з адпаведнай просьбай да нашага начальства. Там паперу разгледзяць. Потым вас запросяць. Вы пакажаце пасведчанне. А тады ўжо нам дадуць каманду даць вам звесткі...

— Але ж я іх апублікую!

— Калі ласка. Але толькі пасля таго, як пакажаце пасведчанне.

Паказаць пасведчанне няцяжка. Цяжка зразумець логіку, паводле якой, каб даведацца **несакрэтныя** статыстычныя даныя, неабходна прасіць, ездзіць, прадстаўляцца...

Разумею і цалкам падзяляю раздражненне супрацоўнікаў статупраўлення:

— Калі кожны пачне прасіць даведкі!

Але ж не кожны, далёка не кожны ведае адрас і нават тэлефон тых, хто «ведае ўсё»! Але калі раптам і пачнуць энергічна цікавіцца звесткамі розныя людзі (у што, прызнацца, нават сёння цяжка паверыць), то ці трэба засмучацца спецыялістам-статыстыкам? Не, ім пры такім павароце падзей радавацца больш натуральна, чым раздражняцца. Хоць бы з той прычыны, што інтарэс, які абуджаецца ў людзей і да сваёй гісторыі, і да гісторыі сучаснасці, толькі падкрэслівае веліч статыстыкі.

Шмат наведвальнікаў і тэлефонных званкоў? Так, гэта — цудоўна і... кепска адначасова. Растлумачу. Цікавасць народа да «сухіх лічбаў» — цудоўна. Але калі існуе небяспека для паважанай установы «патануць» у «шторме» запытанняў і просьбаў даць даведку аб колькасці нечага — вось гэта ўжо дрэнна. Гэта азначае, што ў грамадзян знікае імунітэт да дэфіцыту інфармацыі, а ліквідаваць гэты дэфіцыт ніхто не спяшаецца.

Наступная «крамольная» думка аўтара, відаць, падасца не новай усім, хто трымаў калі-небудзь у руках газеты пачатку стагоддзя.

Газеты, часопісы, даведнікі часоў юнацтва XX стагоддзя паведамлялі: на колькі дзён у горадзе засталося мукі (каб не было ажыятажу пры з'яўленні панічных чутак), хто прызначаны прыставам і колькі вёдзер гарэлкі выпіта ў губерні за свята, а таксама якія сумныя вынікі штодзённай выпіўкі зарэгістраваны... Публікаваліся спісы дэзерціраў і важных камісій, ні для кога не была сакрэтам наяўнасць лякарстваў у аптэках...

А я ўчора не змог высветліць, колькі грошай (у сельскай мясцовасці і ў гарадах) людзі трацяць на лякарствы, гарэлку, адпачынак. Мне сказалі:

— Дакладных звестак па гэтых пытаннях статыстыка рэспублікі не мае.

Вось у гэта цяжка паверыць. Хутчэй — «не распаўсюджвае» служба свае веды.

Не разумею, чаму б не выдаваць для свабоднага продажу, не публікаваць у звычайнай перыёдыцы, не паведамляць па радыё і тэлебачанні ўсе несакрэтныя «прыкметы дня», «крывыя росту» і «крывыя падзення» эканомікі, жыццёвага ўзроўню, злачыннасці, маралі, здароўя?.. І чаму існуюць тэлефоны, гардаведкі або службы надвор'я, але няма даведачных тэлефонаў службы статыстыкі? Які эканамічны эфект мог бы даць тэлефон «службы статыстычнай даведкі», да прыкладу, зніклі ў магазінах соль і запалкі. Хочацца ведаць:

— Гэта — надоўга?

І ў адказ — кампетэнтнае тлумачэнне рэальнай сітуацыі, дакладны прагноз. Аўтарытэтная крыніца інфармацыі здольна аператыўна супакоіць панікёраў... зрабіць панічнае тое, што са спазненнем на некалькі дзён супрацьпастаўляюць ёй эшалоны, фургоны, караблі... Транспарт дастаўляе ў горад Эверэсты солі, калі тысячы сямей ужо закупілі яе на два гады наперад. Таму што ніхто ім у свой час не сказаў—пераканаўча!— колькі ж солі ў горадзе, у рэспубліцы, у краіне, на складах, колькі яе здабываецца.

## II. «МНОГА, МАЛА, МАЕ МЕСЦА І — ДАСТАТКОВА»

А ці ведаеце вы, што «Полицейские ведомости» былі вельмі папулярнай газетай? Яе чыталі ўсе— жандары і прафесары, злачынцы і «бацькі» гарадоў. Там змяшчалася крымінальная, маральная статыстычная «аператыўка».

Астранамічны (у параўнанні з іншымі ведамаснымі шматтыражкамі) тыраж сённяшняй газеты МУС БССР «На страже Октября» ў многім тлумачыцца якраз публікацыямі з такімі «лічбамі», якіх нідзе больш не знойдзеш. А лічбы гэтыя — для ўсіх адкрытыя даныя!

Падпісацца ж на газету могуць далёка не ўсе. Пры вялікім — вялізным! — тыражы «На страже Октября» застаецца выданнем не для свабоднага продажу ў кіёсках. Вось ужо і вайсковая «Во славу Родины» ляжыць пад шклом побач з «Сельской газетой», «Звяздой» і іншымі масавымі выданнямі, а яе «міліцэйская» сястра дагэтуль старанна абходзіць паштовыя скрыні тых, хто — «нядобранадзейны».

На гэтым фоне нашым часопісам, газетам, бюлетэням натуральна (замест канкрэтных даных) аперыраваць словамі:

— у рэспубліцы расце колькасць прастытутак;

— самагоншчыкаў не становіцца меней;

— мае месца хабарніцтва;

— павялічваецца жаночая злачыннасць;

— некалькі супрацоўнікаў міліцыі трапілі пад суд;

— мноства жыхароў Беларусі канчаюць жыццё самагубствам.

І ўсё ж, на мой погляд, даволі прытрымлівацца гэтай несімпатычнай і, шчыра кажучы, не лепшай традыцыі савецкай журналістыкі. Тым больш, што ў журналістыцы цяпер з'явілася магчымасць (праўда, нячаста) атрымліваць і самыя цяжкія, страшныя «рассакрэчаныя» даныя.

Прашу чытача падрыхтавацца да таго, што зараз я пачну называць «сухія і сумныя лічбы», не загортваючы іх у цэлафан эпітэтаў і сінонімаў. У пэўным сэнсе гэта эксперымент, бо аўтару хацелася б даведацца (з вашых допісаў, вядома), якое ўражанне робіць на вас праўдзівая інфармацыя і ці дапамагае яна стварыць сацыяльны партрэт часу ў вашым уяўленні.

Такім чынам, за ўвесь мінулы год у Мінску адбылося 243 дробных хуліганскія учынкі. Магчыма, іх было намнога больш, але зарэгістравана роўна 243. На два дробных хуліганствы меней, чым у 1987 годзе.

Барацьба з непрацоўнымі даходамі працягваецца і становіцца ўсё больш маштабнай. За карыслівыя злачынствы (крадзеж, рабунак, махлярства, спекуляцыю) у 1988 годзе ў Мінску прыцягнуты да адказнасці 1.271 грамадзянін (у 1987 годзе 1.118).

Па арганізаванай злачыннасці прыкметных сацыялагічных і крымінальных даследаванняў да апошняга часу не праводзілася. Таму тут наогул — «белая пляма». Толькі вось не ведаю, як суаднесці гэта з прызнаннем пракурора сталіцы:

— 14 працэнтаў усіх злачынстваў, здзейсненых у Мінску за 1988 год, к канцу сакавіка гэтага года не было выкрыта.

Вядома, гэта не самы дрэнны «працэнт». Ужо з ім можна паступова ісці да гарантаванай няўхільнасці пакарання.

Варта задумацца і яшчэ над адным «сенсацыйным» паведамленнем УУС Мінгарвыканкома для журналістаў, якія пішуць на «прававыя» тэмы:

— пяцьдзесят працэнтаў злачынстваў, якія здзяйсняюць непаўналетнія, групавыя.

І ўжо зусім як нешта доўгачаканае ў падмацаванне маіх назіранняў прагучала для мяне на сустрэчы з самымі інфармаванымі супрацоўнікамі нашай пракуратуры, міліцыі і ўпраўлення юстыцыі паведамленне:

— кааператыўныя цэны складаюць 300—900 працэнтаў ад дзяржаўных цэн;

— незаконныя звальненні ёсць. Летась толькі ў Мінску 21 тысяча рублёў была выплачана людзям за вымушаныя прагулы;

— здараецца, што сем'і незаконна высяляюць, пазбаўляюць жылой плошчы. Прафсаюзы абараняюць людзей дрэнна, ляніва. 55 працэнтаў іскаў аб высяленні па сталіцы БССР засталіся за апошні час без задавальнення;

— надзвычай забруджваюць навакольнае асяроддзе нашы трактарабудаўнікі. Дзесяткі прадпрыемстваў працягваюць скідваць бруд у Свіслач;

— кожны дзесяты старшыня кааператыва асабіста сутыкаўся з рэкетам;

— дзесяць працэнтаў з усіх мінскіх спекулянтаў — камсамольцы, каля 45 працэнтаў — жанчыны.

Тут можна было б працягваць абвяшчаць звесткі нечаканыя або, наадварот, пра якія ўсе здагадваліся. Але паглядзім зараз на дакумент, які мае поўнае права на галоснасць, але які не спяшаецца рэгулярна з'яўляцца на старонках перыёдыкі. Гэты дакумент — звычайная аператыўная зводка сярэднестатыстычнага дня Мінска. Як яна выглядае? А вось так, да прыкладу:

— Скандал у гасцініцы. Для камандзіраваных месц не было, а для «гасцей з Поўдня» — знайшліся.

— Псіхічнахворы здзейсніў забойства.

— Жонка цяжка параніла мужа.

— Пяць кватэрных крадзяжоў здзейснілі падлеткі.

— Два крадзяжы з аўтамабіляў.

— Раскрыта разбойнае нападзенне, крадзеж матацыкла, тры крадзяжы лабавога шкла з «Жыгулёў».

— 65 мінчан і гасцей сталіцы дастаўлены ў выцвярэзнік.

— 466 вадзіцеляў мелі непрыемнасці (з рознай нагоды) з ДАІ.

— Згвалтавана вучаніца 9 класа.

— Самазабойства.

Наогул, «зводка» нават па гораду, а не тое што па рэспубліцы — дакумент вялікі. Але не такі ўжо вялікі, каб для яго не знайшлося месца ў газеце, у эфіры мясцовых радыёстанцый.

Апошнія ж «рассакрэчаныя» звесткі па Мінску, якія я змяшчаю тут, няўцешныя:

— 25 працэнтаў раней судзімых зноў здзяйсняюць злачынствы;

— у горадзе 5.872 дарослыя чалавекі, якія нідзе не працуюць і працаваць не збіраюцца;

— пачынаючы з 1984 года, колькасць нявыкрытых забойстваў змяншаецца (за выключэннем 1988 года, калі іх аказалася на 2 больш, чым у 1987 годзе).

## III. «А Ў МАШТАБЕ ЎСЁЙ РЭСПУБЛІКІ...»

Зала Дома літаратараў. На трыбуне — міністр унутраных спраў рэспублікі генерал В. А. Піскароў. Ён называе факты, у якія цяжка паверыць. Але лічбы дакладныя.

Перш чым я разгарну блакнот са стэнаграмай сустрэчы літаратараў Беларусі з міністрам МУС БССР, давайце яшчэ раз прыгадаем, колькі нас усяго. А нас — 10.200 тысяч чалавек. Сярэдняя зарплата ў нас — 207 рублёў з капейкамі. Сярэдні ўзрост жыхара БССР — 34,3 года. Сярэднестатыстычны гараджанін яшчэ маладзейшы — 31,3 года.

І ўсё ж «партрэт» далёка не завершаны. Дапоўніць яго могуць некаторыя штрыхі.

Аказваецца, паўтара мільёна з нас за 1988 год былі прыцягнуты да крымінальнай або адміністрацыйнай адказнасці. Кожны дзевяты са злачынцаў — непаўналетні.

Паражальная статыстыка!

Праўда, 700 тысяч «усяго толькі» парушылі правілы дарожнага руху, 350 тысяч — адказалі за п'янства, 25 тысяч — падпольныя самагоншчыкі.

Дарэчы, армія самагоншчыкаў не вельмі каб парадзела і пасля міліцэйскіх "акцый", ва ўсякім разе іх пастаянныя кліенты гэтага не адчулі. А наогул, як сказаў міністр, у нас вельмі многа алкаголікаў — 180 тысяч.

Трывожаць міліцыю лад жыцця і паводзіны тых, хто быў раней асуджаны. 18 тысяч псіхічнахворых нясуць не меншую небяспеку. Некаторыя з іх — патэнцыяльныя забойцы, некаторыя здзяйсняюць цяжкія злачынствы.

У нас 15 тысяч непаўналетніх правапарушальнікаў, 25 тысяч — «прафесійных» сямейных скандалістаў. Заўважым пры гэтым, што менавіта ў сем'ях з «цяжкай атмасферай» сёння здзяйсняецца 80 працэнтаў ад усіх забойстваў.

Магу вас парадаваць: прастытутак у нас зарэгістравана надзіва мала. Усяго — 1.000 чалавек. Праўда, назваць нават адваротную «жрыцу кахання» прастытуткай даволі складана. А падлічыць іх усіх — тым больш. Па-рознаму могуць шукаць дзяўчаты сваё шчасце, і хто можа ім забараніць (калі нават мама маўчыць) атрымліваць «падарункі» ад чарговага «жаніха»?

Гэтак жа цяжка назваць дармаеда дармаедам (у Беларусі іх выяўлена 13.527). Для грамадскасці і супрацоўнікаў міліцыі ў іх заўсёды напагатове «жалезны козыр»:

— А я працую — бутэлькі збіраю.

Або:

— Атрымаў спадчыну.

Магчымы і такі адказ:

— У бацькоў — пенсія, на яе і жывём усе разам. Я для іх у магазін хаджу, бялізну мыю, кватэру прыбіраю. Калі мне яшчэ і працаваць? Чаго прычапіліся?

САКРЭТНА

Заканчэнне на 32-й стар.

**Шмат гадоў працаваў Рыгор Бырда лесніком, а такога дзіка не бачыў. Гэта ж трэба — стракаты! «Трафей» прынеслі паляўнічыя, каб зрабіў чучала. Майстар галаву агледзеў, падумаў і ўзяўся за справу. І выйшла: як жывы пазірае са сцяны дзік.**

**А пасля прынясуць яму зайца, саву, лісу, ястраба, янота... Папросяць: «Зрабі «партрэт». Бырда не адмаўляе, разумее — ён адзіны ў гэтых краях майстар. І хоць не ведае, што гэта справа па-навуковаму называецца таксідэрміяй, робіць яе па навуцы. Таму яго экспанаты — доўгажыхары. Нехта з гасцей, упершыню трапіўшы ў гэты «заапарк», змоўкне зачараваны — прыгожа! Нехта ў неўразуменні пацісне плячамі — ці варта было захламляць хату? Нехта, ацэньваючы, прысвісне — ого, вось дык багацце! Сапраўды — багацце. Душы, таленту нястомных рук чалавека, які здолеў перадаць прыгажосць такой незвычайнай мовай, расказаць аб прыродзе гэтак нечакана і самабытна. Вось, напрыклад, венцаносны жураўель. Вельмі рэдкая птушка ў Беларусі. Падстрэліў яе няўдалы паляўнічы. Калі разабраўся, што да чаго, са слязамі прасіў Бырду зрабіць чучала. А чаплю прынёс пастух. Параненая, яна хадзіла каля кароў. Чайку даставіў сусед — да курэй прыбілася. Малінаўку сам здабыў — у ката адабраў. Сапраўдны птушыны хор! Для некага ён маўклівы. А для Рыгора Бырды, майстра з Гродзеншчыны,— шматгалосы. Як вясновы лес, у якім ён заўсёды быў гаспадаром і ніводнага разу — паляўнічым.**

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**



# «Заапарк» пад скідалем

# ПАЭЗІЯ

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

### Жаданне

За ноч пасівела зямля,
А шэрань лугі прысаліла,
І сосны, здаецца здаля,
Укрыліся срэбраным пылам.

Нібыта яшчэ не зіма,
А далеч у ціхай трывозе,
І восень сыходзіць сама
Па гулкай, настылай дарозе.

Настала чакання пара,
Спавітае сэрца ў кунегу,
Запахла пад вечар з двара
Іскрынкамі першага снегу.

Нябачная легла мяжа
На стыку сустрэч і
расстанняў,
Павольна знікае імжа,
І снег на світанні растане,

На сцежках лісты зашумяць
Самотных дубоў і акацый,
А мне б перайсці цераз гаць
І новай вясны дачакацца.

### На змярканні

За вокнамі снег,
І — лясы, і лясы,
У замеці знікла дарога...
Я думаю часта,
Што ў нашы часы
Да Ісціны так, як да Бога,
Ніяк не прабіцца,
Ніяк не дайсці,
Ніяк не паставіць хлусню
На калені.
Адзіны ратунак у нашым жыцці —
Забытая Праўда, Любоў і Сумленне.

За вокнамі снег, і — лясы,
і лясы,
І нехта блукае ўначы недалечка,
Гукае, і ледзьве чуваць галасы,
А я на змярканні запальваю
свечку.

### Павага

Мы развучыліся смяяцца
І паважаць саміх сябе,
Адданыя нялёгкай працы
І непатрэбнай «барацьбе».

За што я толькі не змагаўся?
За новы быт і за калгас,
Не сумняваўся, не вагаўся,
Бо ясна ўсё было для нас.

Заўжды было адзінадушша
Ад Брэста і да Калымы,
Ды толькі што такое душы,
Не ведалі з маленства мы.

А нешта горача смылела,
Сумненні мучылі спярша,
Пакуль не зразумеў нясмела,
Што ные ўсё-такі душа,

Што ёсць спагада і сумленне,
Што жорсткасць «барацьбы» міне.
Пакуль я думаў, на калені
Цішком паставілі мяне.

І так аблыталі хлуснёю,
Так апаганілі душу,
Што ўжо лічылася віною,
Чаму палёгкі не прашу.

Найбольшы грэшнік і злачынец
Трапляе ў пекла толькі раз,
А я аж двойчы без прычыны
Прайшоў яго ў кароткі час.

Нас болей пеклам не пужаюць
У час сумлення і надзей,
Нібыта нават паважаюць
Бядою мечаных людзей.

### Сатлелыя лісты

Твае лісты прапахлі лесам
І пылам жытняе красы,
Крутое рошчыны замесам
І кропляю скупой слязы.
А я паміж радкоў чытаю,
Чаго не напісала ты,
Бо я не той, і ты не тая,
Адны — сатлелыя лісты

З далёкай нашай маладосці,
З тае вясны, з тае зімы,
Калі ні крыўды і ні злосці
Яшчэ не разумелі мы.
Пытальнікі, шматкроп'і, кропкі,
Паперы колішняй памер
І почырк дробны і таропкі
Мяне хвалююць і цяпер.
Лісты, сатлелыя на зломах,
Сухі, збялелы васілёк
І слабы пах лясоў знаёмых
Хвалююць і цяпер здалёк.

Гартаю ў апусцелай хаце
З лістамі даўнія гады,
Шкадую і цяпер, што страціў
Твой адрас і твае сляды.

Куды, каму цяпер напішаш
Даўно запознены адказ?

І недалёка тая ціша,
Калі ніхто не ўспомніць нас.

✦

На скрыжаванні раніцы і ночы
Не аціхае неадольны боль,
І зноў пакуты новыя прарочыць,
І на старыя раны сыпле соль.

Пякельны боль маланкаю забліскаў,
Каб завяршыць над прорваю палёт.
Не ўратавацца мне, бо самы блізкі
Прабіць гатовы сэрца навылёт.

### Адбой

Я дажываю век на гэтым свеце,
А за спіною — доўгія гады.
Далёкія, нібыта зоркі, свецяць,
Пазнейшыя — пад попелам заўжды.

У цемры вечароў таежных
Дасюль у рэйку недзе б'юць
І стогнуць у прасторах снежных,
Дзе нават плакаць не даюць,

Дзе вар'яцеюць ад знямогі,
Дзе Каін правіць страшны суд,
А непралазныя дарогі
Вядуць з пакутаў да пакут.

Я не чакаў сабе збавення
І паратунку для душы.
Мяне трывожыла сумленне
Патрабаваннем: «Раскажы!».

І я паслухаўся загаду,
Расказваў так, як толькі мог...
Шумела замець лістападу,
І снег на ўсе дарогі лёг.

Прайшлі гады, і не прыкмеціў,
Як пабялілі галаву,
І не спасціг, чаму на свеце
Не толькі за сябе жыву,

Чаму пра ўсё сказаць не здолеў,
Пачаткі і канцы звязаць.
Выходзіць, што такую долю
Прасцей пражыць, чым расказаць.

Я, не заплюшчваючы вочы,
Спрачаюся з самім сабой,
І чую — у глухія ночы
Яшчэ і сёння б'юць адбой.

### Дарадцы

Нам ставілі ў прыклад «Малую
зямлю»,
На ёй заклікалі вучыцца майстэрству
І бралі за кожны радок па рублю,
Бо так дагаджалі свайму
міністэрству.

Масцітыя крытыкі і дактары,
Хоць час да святла і да праўды
імчыцца,
Не могуць ніяк аж да гэтай пары
Па-новаму думаць і жыць
навучыцца.

✦

Не падглядай праз шчыліну ў
дзвярах
Мае расчараванні і пакуты.
Ад позірку твайго калоціць страх,
Добразычлівец мой з аблічкам
Юды.

Мяне ты больш ужо не прадасі
За грош, за срэбранік, за
паўчырвонца,
Як ні старайся, рады не дасі
І ў змроку не схаваешся ад сонца.

Я ведаю,— не адзінокі ты,
Увішны і прысутны ўсюды,
Здаецца некаму, што ты святы,
Добразычлівец мой з абліччам
Юды.

### Трыбуна

*Нашу трыбуну рабілі нейкія невядомыя майстры з нейкага асаблівага дрэва і, напэўна, праклялі, зачаравалі яе. Яна адрозніваецца ад усіх трыбун тым, што на ёй ніхто не мог сказаць праўду.*

*А. ДАЎЖЭНКА.*
*«Дзённікі».*

Для ўсіх адну паставілі трыбуну —
Балбатуну, Заіку і Трыбуну.
Хоць не хапаў Трыбун сузор'яў
з неба,
А гаварыць умеў усё, што трэба
Начальству зверху і данізу,—
І верхаводу, і падлізу.
Меў невысокія чыны,
Бо быў, нібыта, не дурны:
Граміў «парадачкі Еўропы»,
А дома бачыў недахопы
На шахце, ў інстытуце, ў школе,
У паліклініцы і ў полі.
За іх яго душа балела,
Таму ішоў на сходы смела,
Хацеў, што думае, сказаць,
Народу вочы развязаць,
А толькі узыходзіў на трыбуну,
Як моташна рабілася Трыбуну
І песню запяваў старую:
«Абавязацельства бяру я
На новыя вышыні ўзняцца
Ў ідэалогіі і ў працы.
Дагнаць Амерыку за год
Здалее слаўны наш народ!».
На змену выйшаў заікасты:
«У нас і б-б-у-у-дні, б-быц-цам
свя-я-ты.
Ж-жыву шча-ас-л-і-іва, не га-рр-у-ю,
Бо на р-р-аб-о-це ўвесь га-р-р-у я».
Трыбун спытаўся нечакана:
— «Як сапраўды жывеш?»
— «Па-г-г-ана.
Ц-ця-г-г-ну з ав-ва-нсу д-да
зар-р-платы»,—
Адказваў ціха заікасты.
— «А як т-ваё ж-жыццё, Трыбун?»
— «Ат, каб яго спаліў пярун».
— «Чаго ж т-ты бр-рэшаш так
з-заўз-я-та?»
— «Трыбуна, браце, вінавата».

Фота **Віктара МІКАЛАЕВА.**

Цікавасць да гэтай, доўгія гады «закрытай» для вывучэння, краіны з'яўлялася ў кожнага, з кім даводзілася гаварыць перад паездкай. У некаторых яна была значнай і, як мне здавалася, не толькі пазнавальнай...

Вылет у Тэль-Авіў аказаўся і для нас не простым: за дзень да гэтага быў зменены маршрут пералёту і нам замест Бухарэста была дадзена магчымасць прызямліцца на міжземнаморскім востраве Кіпр. Пытанне ж аб вылеце было вырашана за тры гадзіны да рэйса Масква — Ларнака. Менавіта ў гэты час быў атрыманы з Міністэрства замежных спраў Ізраіля дазвол на выдачу дэлегацыі Саюза савецкіх таварыстваў дружбы ўязных віз. Часу адзначыць візы ў пашпартах ужо не было. Хочацца спадзявацца, што прычына затрымкі — шматлікія святы ў Ізраілі, якія супалі па часе з вылетам нашай дэлегацыі. Але ж, што, канечне, парадавала, служба аэрапорта Шарамецьева ўважліва аднеслася да няштатнай сітуацыі і дазволіла вылет, падкрэсліўшы, аднак, што гарантыі на ўязныя візы ў Ізраіль у нас няма.

Тым не меней, вечарам таго ж дня мы былі гасцінна сустрэты ў міжнародным порце Тэль-Авіва, зала прыёмаў якога, як нам і гаварылі раней, сваёй архітэктурай напамінала «райскія вароты». Праз нейкі час мы апынуліся ў квартале «Надзея» з характэрнымі старымі забудовамі арабскага Усходу, мноствам маленькіх рэстаранчыкаў, кафэ, крам і няхнанай колькасцю наведвальнікаў.

Знаёмства з «зямлёй запаветнай» пачалося раніцай другога дня па дарозе на Іерусалім.

Аўтастрада нібы разрэзала ўрадлівую даліну «Негеў» з роўнымі дагледжанымі пшанічнымі, кукурузнымі, бульбянымі палеткамі, мноствам духмяных трапічных садоў, цытрусавых, фінікавых дзялянак. Зямля ўроблена гаспадарлівымі рукамі. Пра яе дбаюць: пояць, падкормліваюць пастаянна. Дзве трэціх зямлі ў Ізраілі апрацоўваецца інтэнсіўным спосабам. Часам квадраты палёў нагадвалі пышныя ўчасткі дачных кааператываў. Клопат пра сябе зямля аплачвае шчодра: краіна забяспечвае сябе ўсёй неабходнай сельскагаспадарчай прадукцыяй, акрамя збожжа. Узровень жыцця дастаткова высокі. Колькасць і якасць прадуктаў гавораць самі за сябе. На фоне квітнеючай зеляніны, уздоўж пустэльных адгор'яў віднеюцца бедуінскія стаянкі, сялянскія пабудовы з падручнага матэрыялу, часам з лістоў каляровага пластыку розных форм.

Наперадзе нас чакаў Іерусалім, Масада — легендарная крэпасць цара Ірада, Мёртвае возера.

Іерусалім — чароўны беласнежны горад, раскіданы на маляўнічых пагорках. Казачны характар яму надаюць цэрквы, мячэці, сінагогі, новыя пабудовы, суцэльныя кварталы новых дамоў, тэрасы, якія толькі здалёк здаюцца аднолькавымі. Кімсьці было прынята мудрае рашэнне: будаваць новы Іерусалім толькі з мясцовага бялюткага каменю. Быццам з легенды расце непараўнальны ні з чым горад, прыцягваючы да сябе ўвагу сваёй глыбокай гісторыяй, а таксама сучаснай прыгажосцю не падобных адзін на аднаго сямі пагоркаў.

У Іерусаліме ясна праглядаюцца праблемы сённяшняга Ізраіля, галоўным чынам, палесцінская праблема: Усходні і Заходні Іеруса-



# АЛЕАНДРЫ І КАЛЮЧЫ ДРОТ



Фота аўтара.

**Арсен ВАНІЦКІ**

лім падзяляе сцяна, якая здаецца бясконцай,—дэмаркацыйная лінія. Менавіта каля гэтай лініі давялося гутарыць з пажылым іерусалімцам з пратэзам замест правай рукі, згубленай на зямлі Ізраіля. Да 1939 года ён жыў у беларускім горадзе Пінску. Гаворка была вельмі сціслай, але дакладнай. «Мілітарысцкая палітыка ізраільскай дзяржавы бідавочная. Удзел у вайне заахвочваецца. Мне, напрыклад, плацяць 1100 шэкеляў пенсіі як інваліду вайны,— гэта больш, чым атрымліваюць пасля звычайнай работы. Маю іншыя льготы. На заробак жыць неяк можна, але не вельмі...»

Гэта першае прызнанне. Такія ж, ці амаль такія ж, чулі мы потым ад соцень жыхароў Хайфа, Ака, Назарэта, вёсак і горных пасёлкаў.

Сапраўды, галоўная праблема краіны — ізраільска-арабскі канфлікт, акупацыя палесцінскіх тэрыторый.

Узаемаадносіны двух народаў Ізраіля не носяць звыклага характару. У паняцце «ізраільскі народ» палесцінцы нават не ўключаюцца. Іх проста завуць «рэлігійная меншасць». Экстрэмізм асобнай часткі яўрэйскага насельніцтва не дазваляе жыць нармальна ўсім людзям Блізкага Усходу. Галоўная прычына гэтага працэсу, як нам здалося, у тым, што сіяністы ўсяк стараюцца расшырыць сваю тэрыторыю, атрымаць новыя жыццёвыя прасторы. Цяперашняя тэрыторыя Ізраіля абмежавана дваццаццю тысячамі квадратных кіламетраў. Зямельная ўласнасць арабаў за апошнія гады зменшылася ў 16 разоў. Лепшыя землі адбіраюцца для ваенізаваных паселішчаў, дзяржаўных патрэб, канфіскацыя зямлі праводзіцца як на падставе законаў, так і адвольна.

Відаць, самым эмацыянальна насычаным для нас быў дзень, праведзены ў г. Ака і яго ўскраінах. Таварыскімі былі сустрэчы з выпускнікамі савецкіх ВНУ Ахмедам Саадам, Хамілем Індраусам, Акварам Жамалем, якія ў сваіх сэрцах збераглі добрыя ўспаміны аб часе, праведзеным у Ленінградзе і Мінску.

Стужка вузкай горнай дарогі прывяла нас у самую высакагорную вёску Бейтджан на сустрэчу з прадстаўнікамі абшчыны друзаў. Здавалася, што для многіх жыхароў вёскі гэта была першая сустрэча з савецкімі людзьмі, настолькі яны былі ўважлівыя да кожнага нашага слова. Помніцца, на пытанне, як разумець фразу «народ Ізраіля багацее не па днях, а па гадзінах», якую нам давялося прачытаць у часопісе «Круг», субяседнікі сумна адказалі: «Багацее, але толькі праблемамі». Гаворка была кароткай, нас ужо чакалі ў даліне «Слава вінаграду», дзе абшчына вёскі Маджадаль Курум наладзіла ў наш гонар цэлае свята. Гучалі на ім рускія, беларускія, арабскія мелодыі, сярод якіх вылучаліся народная песня «Мая Палесціна» і «Майскі вальс» Ігара Лучанка на словы Міхаіла Ясеня.

Былі некаторыя засмучэнні. Па дарозе ў даліну мы звярнулі ўвагу на дыхтоўныя вадаёмы. Прадстаўнікі мясцовай абшчыны не падзялілі нашага захаплення, паясніўшы, што копанкі зроблены на лепшых землях арабскай вёскі, палеткі ж яўрэйскай абшчыны абваднюоцца з дапамогаю схаванай пад зямлёй сістэмы. Жыхары вёскі Абугош расказвалі, што нават пры будаўніцтве дарогі, з мэтаю стварэння нязручнасцей, яе палатно адсоўвалі ад дамоў, якія належаць арабам-камуністам. Несправядлівасць афіцыйных улад Ізраіля ў адносінах да арабскага насельніцтва праяўляецца часта. Пяцьдзесят працэнтаў арабскай моладзі не заканчвае сярэдняй школы. Калі сярод вучняў пачатковых класаў дваццаць два працэнты дзяцей арабаў, дык у сярэдніх школах колькасць іх змяншаецца да адзінаццаці працэнтаў, у ВНУ — да пяці працэнтаў. У цэлым па краіне бюджэт прадугледжвае 49 шэкеляў на аднаго вучня, у арабскай жа школе расходуецца толькі 36.

У час нашага наведвання горада Назарэт у ім было неспакойна ў сувязі з новай антыарабскай акцыяй афіцыйных улад. 13 мая ў суседнім горадзе Нагорны праходзіў рашаючы футбольны матч на кубак краіны паміж мясцовай яўрэйскай і арабскай камандай г. Назарэта. Першы тайм ішоў нармальна. Аднак пасля двух забітых у вароты нагарыйскай каманды галоў падраздзяленне спецыяльнай паліцыі пачало кідаць на трыбуны і футбольнае поле гранаты са слёзатачывым газам, потым пачалася пабоі балельшчыкаў з Назарэта, арышты. Пра гэты факт расказвалі нам у рэдакцыі газеты «Адзінства». Гаворачы адкрыта, у нас узнікла нейкая кропля сумнення: а раптам балельшчыкі паводзілі сябе нястрымана. Нашы сумненні рассеяліся ў час гаворкі з намеснікам старшыні муніцыпалітэта г. Назарэта Сучэнь Фагумам, членам муніцыпалітэта Самілам Гатасам і іншымі таварышамі, якія прысутнічалі на матчы. «Ніякіх беспарадкаў не было. Гэта зараней падрыхтаваная расісцкая акцыя»,— сведчылі яны. «Калі я звярнуўся за дапамогай да паліцэйскага,— сказаў Фагум,— пачуў у адказ: «Заткніся, прэч адсюль».

Падобныя факты падштурхоўваюць яўрэйскае насельніцтва да пачуцця пераваг над іншымі.

Праяўленне фактаў шавінізму, расізму ў адносінах да арабскага насельніцтва Палесціны ўсё часцей прызнаецца не толькі арабамі, але і яўрэямі, што мысляць аб'ектыўна.

З абурэннем чыталі мы, да прыкладу, апублікаванае інтэрв'ю з дэпутатам кнесета Геулай Коэн, у якім на пытанне «Як, на ваш погляд, можна дабіцца міру з арабамі?» яна адказала: «Можна суіснаваць з тымі нешматлікімі арабамі, якія прымуць наш сіяністы падыход».

Навучанне дзяцей у школах Ізраіля раздзелена па нацыянальнай належнасці, практычна адсутнічаюць змешаныя шлюбы, вельмі абмежавана колькасць арабаў у выбарных органах, дзяржаўных установах. У горадзе Хайфа, як нам расказалі, арабскае насельніцтва дапускаецца на работу толькі на асобныя прадпрыемствы. Пад відам бяспекі для яго зачынены дзверы многіх сучасных прадпрыемстваў. Самы наўтульны, густа населены раён горада ў народзе завуць «палесцінскае гета». Арабскаму насельніцтву звычайна прапаноўваецца самая цяжкая работа. У сувязі з гэтым бытуе сумны жарт: бацька з гордасцю расказваў сыну ў час прагулкі па горадзе пра тое, што ён зрабіў для Ізраіля: «Вось той мост, які я пабудаваў,— паказваў ён,— вось — школа, вось — дом». «А што, бацька,— спытаў сын,— у маладосці ты быў арабам?!»

Чаго варта, да прыкладу, назва часопіснага артыкула: «Арабская жанчына — не сексуальны аб'ект для яўрэйскага мужчыны» і шэраг іншых прамых і ўскосных намёкаў на перавагу адных над другімі. Падобныя адносіны да іншага народа знайшлі сваё канцэнтраванае выражэнне на акупіраваных тэрыторыях Палесціны. Гэты працэс стаў асабліва абвостраны ў сувязі з інтыфадай — працягным паўстаннем палесцінцаў на акупіраванай тэрыторыі.

Дваццаць з лішнім гадоў акупацыі прывялі да таго, што маладыя хлопцы забіваюць нават дзяцей. У час паўстання загінула каля васьмісот, паранена тры з паловай тысячы палесцінцаў, столькі ж арыштавана. Балюча было слухаць словы Мухамеда Баракі: «Я быў у Хатыні. Тут таксама ёсць такая вёска». Гаворка ішла пра вёску Шарэра. Былы салдат ізраільскай арміі Ганс Лібрых расказваў, што бачыў, як ізраільскія салдаты рабавалі вёску. Палесцінцы былі сагнаны ў мячэць, першы паверх храма падпалілі. Тых, хто, ратуючыся, выскокваў,— расстрэльвалі.

Напярэдадні паездкі прыйшлося чытаць артыкулы карэспандэнта «Известий» Андрэя Стальскага «Па абодва бакі нябачнай граніцы», дзе параўноўваюцца сённяшнія абставіны на акупіраваных тэрыторыях Палесціны з фашысцкім гета. Узніклі сумненні. Пытанне, канечне, не адназначнае, дыскусійнае. Аднак менавіта такія высновы сёння робіць у артыкуле, апублікаваным у газеце «Давар», знакаміты ізраільскі пісьменнік Амуз Озз.

Кожны дзень абстаноўка ў Ізраілі становіцца ўсё больш складанай. Эканамічная сітуацыя пагаршаецца, нягледзячы на трохмільярдную дапамогу ЗША. Назіраецца працэс дэвальвацыі. Экстрэмізм і дэмагогія кіруючых колаў, як прызнаюць многія жыхары Ізраіля, штурхае людзей да радыкалізму. Пад уплывам інтыфады народ пераконваецца, што акупацыя не можа працягвацца вечна.

Узмацняюцца грамадскія зрухі антываеннага накірунку. Прадстаўнікі іх «Ёсць мера», «Даволі акупацыі», «Мір сёння», рух адмоўнікаў, не жадаючых служыць на акупіраваных тэрыторыях, выступаюць за перагаворы і стварэнне Палесцінскай дзяржавы, супраць дыскрымінацыі і прыгнечання палесцінцаў, дэспатызму на акупіраваных тэрыторыях, за аздараўленне палітычнага клімату ў Ізраілі.

У час сустрэчы нашай дэлегацыі з прадстаўнікамі гэтых арганізацый, якая адбылася па іх просьбе, мы яшчэ раз пачулі аб існаванні экстрэмісцкіх яўрэйскіх рухаў, Мегера Каханэ, былога генерала Рэхавам Цээві, якія выступаюць за высяленне арабаў з Ізраіля. Яны ж звярнуліся да нас з просьбай аб міжнароднай падтрымцы тых маладых яўрэяў, якія адмовіліся служыць на акупіраваных тэрыторыях і знаходзяцца ў турмах. Такіх ужо сотні. Іх называюць «вязнямі сумлення».

Нам давялося назіраць збор подпісаў за права адмаўляцца ад службы на акупіраваных тэрыторыях.

Асобна хочацца сказаць пра падзеі, што вельмі ўразілі нас. Размова ідзе пра мітынг, які адбыўся ў лесе імя Чырвонай Арміі, за 20 кіламетраў ад Іерусаліма, прысвечаны 44-годдзю Перамогі над гітлераўскім фашызмам. Гэта традыцыйнае свята арганізоўваецца рухам дружбы «Ізраіль — СССР».

У гэтым годзе яму актыўна садзейнічаў рух ветэранаў другой сусветнай вайны, іншыя дэмакратычныя, антыфашысцкія арганізацыі. Звярталі на сябе ўвагу лозунгі на яўрэйскай і арабскай мовах «Дружба з СССР — жыццёвы інтарэс Ізраіля», «Мір паміж Ізраілем і Палесцінай — гарантыя бяспекі Ізраіля», «Няхай спыніцца ўдзел Ізраіля ў праекце зорных войнаў», «За перабудову і новае мысленне!»

Гэтымі заклікамі былі прасякнуты і выступленні на мітынгу сакратара ЦК Кампартыі Ізраіля Ерама Гажанскага, мэра пасёлка Дзерхан Роджэ Хаціба, прадстаўніка камітэта «За паляпшэнне адносін з СССР» Хаіма Земдера, генеральнага сакратара арганізацыі былых воінаў, партызан і ахвяр нацызму Абрама Когана і іншых. Выразна назіралася пазіцыя: СССР — сябар двух народаў — арабскага і яўрэйскага, і ў гэтым закладзены гарантыі рашэння праблем на Блізкім Усходзе. Аратары гаварылі, што мілітарызацыя краіны пагаршае яе эканамічны стан. Што палітыка афіцыйных колаў Ізраіля — блізарукая. Што лідэры краіны павінны навучыцца думаць і дзейнічаць па-новаму.

Склалася ўяўленне, што дэмакратычныя сілы Ізраіля будуць настойліва змагацца за мір на Блізкім Усходзе. Звяртаў на сябе ўвагу філасофскі сказ, які неаднаразова гучаў у сувязі з падтрымкай вызваленчага руху палесцінскага народа: «Мы бачым святло ў канцы тунеля».

Па сутнасці, гэтыя ідэі былі і ў аснове дыялога паміж дэлегацыяй Саюза савецкіх таварыстваў дружбы і прадстаўнікамі антываенных грамадскіх рухаў. У ім удзельнічалі Мая Загавік, старшыня ініцыятыўнага камітэта за паляпшэнне адносін Ізраіля з СССР, Лаціф Доры, прадстаўнік руху «Ізраільска-палесцінскі дыялог», Соня Ідэльберг, прэзідэнт дэмакратычнага руху жанчын Ізраіля, Дан Вішніцэр, старшыня Ізраільскага камітэта міру, і іншыя. Яны былі аднадушныя ў тым, што дзяржава Ізраіль не была б створана без перамогі Савецкай Арміі над фашызмам і іншых актыўных дзеянняў СССР у гэтым працэсе. З болем у сэрцы гаварылі яны, што ізраільска-арабскія праблемы абвостраны сёння, як ніколі. М. Загавін сказала: «Няма сярод нас чалавека, які не пакутуе кожны дзень, адкрываючы газеты ці слухаючы апошнія навіны». Дан Вішніцэр горача гаварыў пра тое, што салдаты абароны вымушаны сёння выконваць агідную работу катаў.

Усё болей і болей жыхароў Ізраіля падтрымліваюць пазіцыю неабходнасці мірнага суіснавання дэмакратычнай Палесцінскай і дэмакратычнай Ізраільскай дзяржаў.

...На багатай зямлі многа кветак, мноства ружовых і белых суквеццяў алеандраў. Аднак вельмі часта кветкі перавіты калючым дротам. Ім увенчаны платы, абгароджаны палі і нават духоўныя місіі. Дрот быццам размотваецца ад калючых агародж шматлікіх воінскіх часцей, спецыяльных ваенізаваных пасяленняў. Ён яўна дысануе з прыгажосцю апетых легендамі біблейскіх мясцін, супярэчыць жыццесцвярджэнню. Калючы дрот — прыкмета вайны і размежавання. Тое, што адбываецца сёння ў краіне, не толькі трагедыя арабскіх народаў на акупіраваных землях Заходняга берага ракі Іардан, Усходняга Іерусаліма, сектара Газа. Гэта — трагедыя ізраільскага народа.

Мудра гавораць у Ізраілі пра тое, што ў краіне стомленыя людзі самі сябе перамагаюць. Кветкі не пасуюць да калючага дроту. Пара людской свядомасці рухацца наперадзе войнаў.

## 1. Будрык

З АБРАЗГАЛІ замкамі жалезныя дзверы, і ў камеру ўвайшоў чалавек. Ён ступіў баязліва, нехаця, не ведаючы, што рабіць далей. Сталага веку, мажны, самавіты, ён разгублена глядзеў у глыбіню камеры, нікога і нічога не бачачы. Усё ў ім было зляканае: галава з мяккаю чупрынаю засівелых валасоў, вочы з перапалохана адчайным бляскам, знямелая пакора дзябёлай фігуры, непрывычнай да бездапаможнасці.

Ён стаяў, у адной руцэ трымаючы хатулёк, відаць, спешна сабраны яму ў дарогу, з якога вытыркаў кончык вышыванага ручніка. Але не ручнік дзівіў вока развітальнаю спагадаю сям'і, а мяккае жоўтае футра зімовай шапкі, уваткнутай у хатулёк, відаць, у самую апошнюю хвіліну. Другая рука вымушана была трымаць паясніцу штаноў, каб яны не спаўзлі ўніз, бо гузікі і ў адзежыне, і ў бялізне былі выразаны.

Нас у камеры было чатыры чалавекі, і мы вельмі разумелі кожнага, хто сюды прыходзіў упершыню. На волі кожны ведаў, што ў турме сядзяць толькі злачынцы, ворагі народа. І калі сюды прыходзіў новы чалавек, то ён вельмі пільнаваўся, каб тут яго не справакавалі на якую нялюдскасць. Гэтакі страх чытаўся і ў вачах новага чалавека. Мы абступілі яго з роспытамі, што робіцца на волі, ці няма якіх свежых добрых навін? Ці не чутно пра якую новую амністыю? Нарэшце, ці ведае пра ўсё гэта Сталін?

Але чалавек стаяў ашаломлены. Здавалася, ён нават не разумее, пра што ў яго пытаюцца. Нарэшце староста камеры, палкоўнік медыцынскай службы Пазнанскі, у белай споднай сарочцы і ў вайсковых з чырвонымі кантамі штанах, якія вельмі не пасавалі да лямцавых тапак, надзетых басанож, зжаліўся над новым чалавекам. Ён адхіліў рукою просьбітаў:

— Перастаньце, хлопцы,— сказаў ён.— Хіба вы не бачыце, што яму не да вашых роспытаў? Паспееце. Дайце яму апамятацца.

— Я ні ў чым не вінаваты,— горача пажаліўся чалавек.— Упэўнены, што выйшла памылка. На першым жа допыце ўсё высветліцца і мяне выпусцяць.

— Дай божа,— сказаў Пазнанскі.— А пакуль што вось ваш ложак, прабачце, што каля парашы, але ж гэта лёс кожнага, хто прыходзіць апошнім. Зрэшты, нам хацелася б ведаць, як вас зваць-велічаць і хто вы?

— Будрык. Маё прозвішча Будрык. А раблю я кіраўніком спраў у Савеце Народных Камісараў Беларускай рэспублікі.

— Дзякую. Займайце сваю пасцель. Прывыкайце патроху.

Мужчыны разышліся па сваіх ложках. Кожны думаў пра новага чалавека. Нейкі ён незвычайны. З такой вялікай пасады і такі перапалоханы і збянтэжаны. І каб не вярэдзіць сябе лішнімі думкамі, мы папрасілі доктара Пазнанскага заняцца нашымі звычайнымі хітрошчамі. У яго была неверагодная памяць, ён пераказваў нам «Ганну Карэніну» Льва Талстога з літаральнай дакладнасцю, нават па раздзелах. Вядома, рабілася гэта тайком, неўпрыкмет, каб наглядчык, зірнуўшы ў акенца, мог падумаць, што мы проста жупім між сабою.

Будрык жа тым часам змагаўся са сваімі пакутамі, яму было вельмі цяжка, яго хіліў сон, дашчэнту знясіліў бясконцы вобыск. Вочы патухалі, галава падала на грудзі, увесь ён пачынаў неяк грузка асядаць тулавам. Прахопліваўся, спрабаваў апамятацца, але праз хвіліну зноў хіліўся і асядаў. Раптам як падкошаны зваліўся галавою ў падушку. І тут жа з бразгатам адчынілася жалезнае акенца ў дзвярах і наглядчыцкі голас строга нагадаў, што ўдзень спаць нельга.

Гэтак ён мучыўся да вечара. І калі ўжо была блізка пара, што можна нарэшце легчы ў пасцель, яго забралі на допыт.

Мы чакалі яго чатыры дні. Гэта нас вельмі трывожыла. На ўпляcканай камернай падушцы так і астаўся ўціснуты след яго галавы. Нам здавалася, што ён незвычайны. Займаў вялікую пасаду ў высокай установе, няйначай як быў камуністам, паважаным і аўтарытэтным — гэтак прывыкласе думаць пра людзей, якія намі кіравалі. І няйначай як быў адукаваны і інтэлігентны, гэта відаць было па яго разгубленасці і бездапаможнасці. І па вачах. У іх чытаўся страх ад нечаканага крушэння асноў жыцця,

Нарэшце, на пяты дзень неяк занадта хутка, трывожна і пагрозліва адчыніліся дзверы, і ў камеру ўпусцілі чалавека. Мы не адразу пазналі яго. Твар быў чужы: шэры, круглы, апухлы, у рудых і сініх нядобрых плямах, на ім толькі ўгадваліся вузкія шчыліны вачэй. Валасы мокра пазліпаныя. Пінжак страціў сваю святочную свежасць, па ім пайшлі брудна-каравыя лапіны.

Усё было ясна: чалавека адразу ж, з ходу, паставілі на самы страшны — канвеерны допыт. Гэта калі следчыя, пасадзіўшы цябе на край табурэта або, яшчэ страшней,— на ножку перакуленага табурэта, мяняючыся па чарзе або гуртам будуць біць, з усіх бакоў крычаць у вушы, каб ты падпісаў тое, чаго яны хочуць.

Допыт будзе цягнуцца запар некалькі дзён. І ты, зняможаны, без сну, без адпачынку, страціўшы адчуванне навакольнасці, часу, сэнсу падзей, аглушаны неверагоднасцю, што табе трэба стаць злачынцам,— зваліўся непрытомны на падлогу. Цябе абліюць халоднаю вадою, зноў пасадзяць на табурэт (або на яго ножку) і пакажуць сілу, каб ты, нарэшце, зразумеў, што ратунку няма.

Няйначай як пасля гэтакай апрацоўкі Будрыка і прывялі ў камеру. Колькі хвілін ён стаяў, стараючыся ўсё нешта зразумець. І не паспеў яшчэ сесці на сваю пасцель, як тут жа зноў адчыніліся дзверы і наглядчык крыкнуў:

— Будрык! З рэчамі! На выхад!

Больш яго ніколі, ніхто і нідзе не чуў і не бачыў. Апошняя спешная дарога яго была, мабыць, у Курапаты.

## 2. Бэла Кун

У ЛАГЕРНАЙ бухгалтэрыі існаваў, ды, мабыць, існуе і цяпер, дакумент, які завецца арматурнай ведамасцю. Гэта вялікі, здвоены аркуш паперы, адмыслова разграфлены ўдоўж і ўпоперак. Злева ў ім пішацца імя-прозвішча зняволенага, а зверху ўніз, у вузенькіх графках праcтаўляецца ўсё тое, у што абуты-адзеты зняволены: бушлат, целагрэйка, штаны, сарочка, споднікі, рукавіцы, шапка, чаравікі ці валёнкі і г. д. Куды б зняволены ні перасылаўся, разам з ім, як за чалавекам скарбовым, пойдзе і арматурная ведамасць.

На той час я рабіў у цэнтральнай бухгалтэрыі лагера. Яна была за зонаю. Пад канвоем, а часамі з сабакамі, нашу брыгаду вадзілі на работу ў так званы штаб.

Я быў бухгалтарам агульнага аддзела. У гэтым аддзеле звычайна завяршаецца справаздача гаспадарчай дзейнасці — тут робіцца бухгалтарскі баланс. І вось аднаго разу пры дакументах чацвёртага лагпункта аказаўся вялізны пук арматурных ведамасцей. Значыцца, на той лагпункт прыйшоў этап новых людзей. Гэта заўсёды цікава — адкуль жа прыйшоў этап? Што за людзі? Можа там ёсць землякі ці нават знаёмыя? Я пачаў гартаць гэтыя ведамасці, перачытваючы прозвішчы, аркуш за аркушам. І вось аж не паверыў сваім вачам: Бэла Кун! Божа, як жа так? Сусветна вядомы рэвалюцыянер і — раптам у лагеры? Воін, дзеяч Камінтэрна і — контрык? Што ж гэта такое! Для майго пакалення гэтае імя было як легенда. Падумаць толькі: у 1916 годзе, у першую сусветную вайну Бэла Кун пападае ў рускі палон і — становіцца камуністам. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі сустракаецца з Леніным, гэта кладзе адбітак на ўсё жыццё. З палонных салдат ён фарміруе інтэрнацыянальныя атрады і перадае іх у дапамогу Чырвонай Арміі. Удзельнічае ў абароне Петраграда, у баях пад Нарваю, у ліквідацыі эсэраўскага мяцяжу ў Маскве. На нейкі час нелегальна вяртаецца ў Венгрыю, засноўвае там камуністычную партыю; не без яго ўдзелу абвяшчаецца і Венгерская савецкая рэспубліка. Пасля яе задушэння вяртаецца ў Савецкі Саюз. З няменшай энергіяй потым пойдзе яго дзейнасць у Камінтэрне. Папраўдзе, легенда. Няма ніякага дзіва, што мне захацелася ўбачыць яго.

Знайшоўшы прычыну, што некаторыя весткі ў справаздачах патрабуюць удакладнення, я напісаў рапарт галоўнаму бухгалтару лагпункта Зміцеру Грышко з просьбаю паслаць мяне на адзін дзень у камандзіроўку на чацвёрты лагпункт. Назаўтра ж з канвоем я быў туды перапраўлены.

Не магу, каб не прызнацца, што сэрца маё білася моцна, калі ў зоне я падыходзіў да нізкага, доўгага, шэра-цёмнага барака з дашчаным спадзістым дахам. Я хацеў уявіць, як убачуся з чалавекам,— і не мог. Сіліўся ўспомніць, ці не бачыў яго калі на здымках,— і таксама не мог. Але чамусьці не знікала ўпэўненасць, што аблічча яго мне вядома.

Цёмна-шэры барак стаіць на зямлі магутна, упэўнена. Адчыняю дзверы — тамбур. Адчыняю другія — налева і направа на ўсю даўжыню барака ідуць двух'ярусныя нары. Пярэдні край іх асветлены з акон, што ўрэзаны ў даху, як фрамугі. Цішыня. Людзей — ні душы. Усе на рабоце. Нават днявальны некуды, мабыць, адбег.

Але ўглядаюся ў левы бок: не, відно, што



# РАЖЫТАЕ

чалавек колькі ляжыць і зверху, і знізу, відны панакрываныя вынашанымі шэрымі бавоўнянымі коўдрамі іх ногі. Значыцца, тыя, што не маглі пайсці на работу, хворыя. Вызваленыя лекпомам.

Углядаюся ў правы, блізшы канец барака, і мне здаецца, што там, у самым канцы, на верхніх нарах нехта сядзіць. Шыбаю туды: праўда — чалавек. Знізу пытаюся:

— Прабачце, дарагі таварыш, я шукаю чалавека, якога завуць Бэла Кун. Ці ведаеце вы яго? Дзе яго шукаць?

— А я і ёсць Бэла Кун,— адказвае чалавек на чысцюткай рускай мове.

Ну тут ужо ясна, што па драўляных прыступках, прыбітых да слупа, мне давялося залезці на нары. Расказаць, хто я, як даznаўся, што сюды прыйшоў этап, чаму захацеў пабачыцца.

Бэла Кун сядзеў на чорным сенніку не па-нашаму: скрыжаваўшы ногі па-ўсходняму, ці, як кажуць, па-турэцку, што мяне здзівіла, бо я не чуў, каб у Венгрыі было заведзена гэтак сядзець. У чорным свойскім пінжаку, з каротка пастрыганымі (невядома адкуль і як імгненна ўспомненымі) вусікамі на круглявым добрым твары. Гэта мяне абнадзеіла.

Бегла я растлумачыў, хто я і чаму яго ведаю. Не з літаратуры як рэвалюцыйнага дзеяча, а ад жывых людзей, яго вучняў і паслядоўнікаў. Я — з Мінска, колішні беларускі пісьменнік, але таксама даўно знявolены ў лагер, хоць і не вінаваты, наадварот, у душы лічу сябе камуністам. Недзе на пачатку трыццатых гадоў да нас у Мінск прыязджалі ў госці венгерскія пісьменнікі Антал Гідаш (мы яго звалі пасвойму — Анатоль), Матэ Залка і Бэла Іллеш. Цікавыя, дружныя, слаўныя хлопцы. Мы разам з імі выступалі на літаратурных вечарах, паказвалі ім сваю Беларусь.

— Як жа пажывае ваш Янка Купала? — раптам здзівіў мяне гэтакім запытаннем Бэла Кун.

Я не ведаў, што адказаць. У лагеры мы былі пазбаўлены ўсякай грамадзянскай інфармацыі, чытаць газет не мелі права. Што рабілася ў свеце, я ведаў толькі з выпадковых чутак. Але скора пераканаўся, што і Бэла Кун жыве мінулым. Ён ахвоча перакінуўся на тэму, больш блізкую яму. Сказаў, што памятае, як на Заходнім фронце Тухачэўскі «даў прыкурыць пану Пілсудскаму». Мне стала весялей, бо я сам трохі памятаў тыя часы і мог абазвацца на гаворку. Памятаў і акупацыю нашага краю, і пажары. Потым, у час ужо мірны, памятаў, як пад Мінскам, за Койданаўскім трактам, на папаровых палетках з нейкай нагоды праходзіў вайсковы парад і самы галоўны начальнік, што прымаў той парад, на сваім высокім цёмна-гнядым кані заўсёды відзён быў паперадзе ўсіх. Вельмі прыгожае гэта відовішча, калі глядзіш здалёк, як конь зліваецца ў адно з седаком. Тады ў нас гаварылі, што гэта таксама быў Тухачэўскі.

У барак зайшоў днявальны, чалавек пажылы, барадаты, у часта прашыванай целагрэйцы. Кульгавы, адна нага не згіналася. Ён пранёс у дальшы канец два новыя бярозавыя венікі, палажыў іх пад нары, відаць, у тым канцы было і яго прытулішча. Падышоў да нас, пачуўшы, што Бэла Кун з некім гаворыць. Паглядзеў на мяне, хітнуў галавою, убачыўшы, што чалавек чужы. Як гэта чуйна напомніла мне даўнасць у родных мясцінах, калі нават невядомыя людзі, сустрэўшыся ў дарозе, дадуць адзін аднаму дабрыдзень.

Як толькі днявальны пайшоў, Бэла Кун здзівіў мяне новаю нечаканасцю. Аказваецца, ён ведаў аднаго з нашых першых дзяржаўных дзеячаў, Язэпа Адамовіча. Я здагадаўся, што гэта было вельмі даўняе знаёмства, няйначай як недзе з першых рэвалюцыйных часоў.

Пішучы цяпер пра гэта, я не мог, каб не зазірнуць у нашу энцыклапедыю. І праўда, Адамовіч служыў яшчэ ў царскай арміі, быў унтэр-афіцэрам, узнагароджаны трыма георгіеўскімі крыжамі. У Чырвонай Арміі з самага яе заснавання. Вызваляў Беларусь ад інтэрвентаў, кіраваў разгромам бандаў, і сваіх, і засланых — Барыса Савінкава, Булак-Балаховіча.

Бэла Кун зваў Адамовіча ўлюбёна, ласкава — Язеп. Каб упэўніцца, ці няма пра яго якіх новых вестак, я зірнуў у пазнейшыя даведнікі. І аказалася, што імя ў Адамовіча ўжо не тое — Іосіф. Я падумаў, што ніякага дзіва ў тым няма: запабягаць мы прывучаны даўно.

Між тым я памятаў, што час ідзе, а мне бавіцца нельга, у дарогу назад на вахце заказаны канваір. Але не так турбавала мяне тое спяшанне, як нечаканае адчуванне таго, што мною робіцца нешта вельмі нядобрае. Як асмеліўся я шукаць сустрэчы з Бэлам Кунам? Толькі цяпер, як след удумаўшыся і ўгледзеўшыся, да мяне дайшло: якая гэта велічыня, якая фігура. З якімі людзьмі ён знаўся; у якіх падзеях браў удзел. Памяць і ўяўленне тут жа падкінулі і падмацунак да праўды гэтага сумнявання — вобраз Міхайлы Фрунзе.

У 1920 годзе з поўдня нас вельмі ціснулі ўрангелеўскія белагвардзейскія фарміраванні. Можна сказаць, адборныя, бадай што напалавіну з афіцэраў. Каб разграміць іх, быў створаны новы, Паўднёвы фронт, на чале якога Ленін параіў паставіць Фрунзе. Памяць мне падказвала, што разам з ім там быў і Бэла Кун. Я асмеліўся ў яго папытацца пра гэта.

— Ваша праўда, паважаны таварыш,— сказаў Бэла Кун.— Быў, як член рэўваенсавета. Гэта была мая самая пачэсная ваенная місія. Найшчаслівейшая, бо я вучыўся ваеннаму майстэрству ў самага глыбокага стратэга, богам дадзенага таленту. За той час душэўна я пазнаўся з самым храбрым, самым справядлівым, разумным, далікатным і самым простым чалавекам, Міхайлам Фрунзе. І самым чэсным і чыстым камуністам. Усяму я вучыўся ў яго. Нават смерці, якую ён прыняў гэтак мужна. Гэта я асабліва памятаю.

Бэла Кун задумаўся. Па прыжмураных вачах відно было: нешта далёкае сузіраў.

Задумаўся і я. Мне ўспомнілася гісторыя, пра якую ў свой час хадзілі розныя чуткі. Магчыма, якраз яе цяпер сузіраў і Бэла Кун.

У 1926 годзе пісьменнік Барыс Пільняк у шостым нумары часопіса «Новый мир» надрукаваў «Повесть непогашенной луны». У ёй гаварылася, што ў нейкую лячэбную ўстанову прывезлі хворага чалавека. Праз колькі часу ў тую ўстанову пазваніў высокапастаўлены чалавек і папытаўся, як ідзе папраўка ў хворага чалавека. Яму адказалі, што кансіліум вядомых дактароў згоды на аперацыю не дае, бо любое хірургічнае ўмяшанне хвораму прынясе толькі смерць. Цяжка памаўчаўшы якую хвіліну, голас у трубцы спакойна загадаў рабіць аперацыю.

У надрукаванай аповесці пасля ў хворым нехта пазнаў Міхайлу Фрунзе, а ў голасе, што загадаў рабіць аперацыю,— Сталіна.

Ян СКРЫГАН



Аповесць потым прызналі заганнаю, надрукаванне яе ў часопісе — грубаю памылкаю, нумар часопіса канфіскавалі. Пільняку прыпомнілі ідэйныя зрывы і ў другіх творах, знайшлі, што ў яго залішне самастойны характар, успомнілі, што ён матэрыяльна памагаў Карлу Радэку ў выгнанні. У 1937 годзе стаў выгнаннікам і сам Барыс Пільняк. Ён з лагераў не вярнуўся.

Час мой канчаўся. Вельмі хацелася мне папытацца ў Белы Куна, ці падобна смерць героя з «Повести непогашенной луны» на тую, якую «мужна прыняў» Фрунзе ў жыцці. Я быў упэўнены, што ступень праўды ці вымыслу ў творы Бэлу Куну была вядома. Аднак жа пытацца не пасмеў. Падумаў, што гэта нетактоўна. Сказаў толькі, што хачу шчыра падзякаваць і развітацца.

— Ну што ж,— сказаў Бэла Кун,— і я вам дзякую. Мне было прыемна, што вы захацелі мяне наведаць. І вельмі тонка падкупілі мяне, расказаўшы, што ў вашай Беларусі гасцявалі нашы пісьменнікі. Усе яны былі мне як родныя, Матэ Залка блізкі і па ваеннай прафесіі. Вы ж ведаеце, што ён быў генералам?

— Ведаю,— сказаў я.

— Мабыць, вы ведалі таксама, што Антал Гідаш быў мой зяць. Замужам за ім была мая дачка Агнеса?

— Гэтага я не ведаў,—сказаў я, здзіўлены.

— Што і зяць Антал Гідаш, і дачка Агнеса, і жонка мая Ірына — арыштаваны?

— Гэтага я не ведаў!— ускрыкнуў я, зніякавелы.— Божа мой, як жа так? Нашто ён гэта зрабіў? — сказаў я з болем душы.

У Бэла Куна звузіліся вочы, ён строга зірнуў на мяне.

— Сталіна вы не чапайце,— цвёрда сказаў ён.— Сталін — гэта геній! Гэта мудры настаўнік і праваднік усяго працоўнага чалавецтва свету!

▣ ▣ ▣

Я доўга не асмельваўся пісаць пра Бэлу Куна, бо не верыў у дату яго смерці. Усе даведнікі, у тым ліку «Советская историческая энциклопедия», гавораць, што памёр Бэла Кун 30.XI.1939 года. А я гэтаму не веры́ў, бо памятаў, што бачыўся з ім пазней. І нарэшце ў часопісе «Огонёк» № 45 за 1988 год, у артыкуле «Эпилог», напісаным жонкай Бэлы Куна Ірынай пасля таго, як вярнулася яна з выгнання, я прачытаў: «Паводле афіцыйнай паперы, 29 лістапада 1939 года Бэла Кун быў яшчэ жывы». Гэта і дало мне смеласці расказаць пра сустрэчу.

Другое, што мяне бянтэжыла, ужо калі пісаў: гэта апошняя яго фраза пры нашым развітанні. Пра Сталіна. У душы я ніколі не верыў, каб Бэла Кун фетышызаваў яго, бо ў сваіх перакананнях быў ён вельмі самастойны. Трэба думаць, што то быў момант мудрай абачлівасці, набытай доўгаю практыкаю.

*Малюнак Анатоля* **АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

Уладзімір **АРЛОЎ**

АПАВЯДАННЕ

# ПАЛЁТЫ САМОТНАГА ПТАХА

**З**астаўшыся ў чатырох сценах сам-насам з адзінотаю, ён выходзіць на галубец і, калі на суседніх галубцах пуста,ператвараецца... Бачу ў вашых вачах уквеленасць: дакуль можна трываць гэтыя бясконцыя пераўвасабленні? Адзін ператварае чалавека ў дэмана, другі — у вавёрку, трэці — у сіямскага ката ці ў зялёнага чыюка. Няўжо бракуе мужнасці пакінуць сваіх герояў у гэтым недасканалым свеце такімі, якімі іх стварыла сама прырода?

Калі па шчырасці, вашы папрокі гучаць не зусім па адрасе, бо я нікога ні ў кога ператвараць не збіраюся. Але ў нечым вы, безумоўна, маеце рацыю, а таму пакіну танныя хітрыкі і паведу аповед ад першае асобы.

Таму што гаворка пра мяне самога. Не трэба зласлівых кепікаў. Далібог, я не падарожнічаю ў часе і не нясуся з шалёным свістам у загадкавыя інфернальныя сферы. Высока над горадам я добра памятаю, што а другой вернецца са школы сын і я павінен пагрэць яму полудзень, а сёмай прыйдзе з працы жонка, а дзесятай... Зрэшты, і ў пярэваратняў бываюць таямніцы.

Наогул, згадзіцеся, як на пярэваратня, дык я нейкі занадта звычайны. Праўдзівей, наадварот — незвычайны, бо як бы вы глядзелі на мяне з маімі клопатамі, напрыклад, у свеце дэманаў ці іншых звышнатуральных стварэнняў? Я незвычайны якраз сваёй звычайнасцю. Калі разглядаць мяне — пярэваратня менавіта ў такім ракурсе, дык я незвычайны і тым, што пераўвасабляюся ў самую неэкзатычную істоту: апрача чалавечае іпастасі, я надзелены аблічам грака.

У старадаўняй кнізе мне трапілася калісьці настаўленне для ахвотнікаў перакінуцца ў ваўка: знайсці ў лесе спарахнелы пень, уторкнуць туды вастрыём угору нож, прамовіць страшны заклён і тры разы перакуліцца над пнём цераз галаву. У мяне ўсё значна прасцей. Раніцою, калі дома нікога няма, я выходжу са свайго пакоя, які называю вальераю, на галубец, азіраюся, каб не было непажаданых сведак (хто ведае, куды і што яны могуць напісаць або паведаміць па тэлефоне), а потым засяроджваюся, уяўляючы на парэнчах чорную з металёвым бляскам птушку. Праз некалькі імгненняў на гэтым месцы ўжо сядзіць грак.

Першым чынам я пералятаю на зробленую сынам кармушку і з задавальненнем дзяўбу крупы. Бацькам заўсёды прыемна адчуваць, што дзеці клапоцяцца пра іх.

Ну а цяпер я, відаць, павінен сказаць вам, як усё пачалося.

У той дзень мы з жонкаю купілі каляровы тэлевізар, увечары з такой нагоды крыху выпілі і вырашылі збіраць грошы на машыну. Дагледзеўшы каляровую перадачу — тады былі яшчэ і чорна-белыя — я выйшаў на галубец падыміць. Дома спалі, а я курыў і думаў, якая цудоўная рэч — каляровы тэлевізар. Яшчэ думаў, што, калі ўсе пойдзе ладам, праз тры ці, найболей, праз чатыры гады буду ездзіць на сваёй машыне.

Далейшыя падзеі захаваліся ў памяці надзвычай выяўна. На парэнчы галубца апусціўся грак. Спачатку я здзівіўся, бо не чакаў, што гэтая птушка можа быць настолькі смелаю, але адразу ж даўмеўся, што смеласць тут ні пры чым. Грак увесь дрыжаў і ўвогуле меў такі выгляд, быццам бясконца доўга ляцеў адкульсці здалёк і так знямогся, што, каб не сеў на мой галубец, мог бы проста ў палёце каменем сарвацца долу. З хвіліну мы моўчкі глядзелі адно на аднаго, потым ён з натугаю падняўся і знік у цемры. У мяне засталося ўражанне, што ён не толькі ўкрай стамлёны, але і вельмі стары, што лётаць яму засталося зусім мала — можа, нават сёння яго сустрэне ў начным небе нябыт і раніцою людзі ўбачаць на асфальце ці на газоне мёртвую чорную птушку, якую мне паводле збегу выпадковасцяў давялося праводзіць у апошні палёт.

І вось тут нібыта не з глыбіні свядомасці, а аднекуль з бяздоннае прасторы неба, адтуль, з-за ракі, дзе яно было густа высыпана зоркамі, да мяне прыйшла нечаканая думка: а што, калі б я ператварыўся ў грака і замяніў нечаканага знябытага госця? Я паспрабаваў уявіць на парэнчах, там, дзе толькі што сядзеў грак, такую ж, але, вядома, маладую і дужую птушку і... Дзьмухнула цёплым ветрам, і, не паспеўшы ацаніць свае пачуцці і нават спалохацца, я зразумеў, што вар'яцкая думка зрабілася яваю: на бетоннай падлозе галубца чырванела жарынка цыгарэты, а на адагнутым краі жалезнае ліштэўкі сядзеў надзелены маёй свядомасцю грак.

Свет застаўся тым самым і адначасна павярнуўся да мяне іншым бокам, нязвыкла ўзбуйнiўшы наваколныя рэчы і надзяліўшы іх не вядомымі мне дагэтуль якасцямі: напрыклад, нацягнутая цераз галубец жылка для бялізны найперш цікавіла мяне тым, ці здолею я ўтрымаць на ёй раўнавагу, калі захачу туды пераляцець. Дзіўна, але пераўвасабленне ўразіла мяне значна менш, чым можна было чакаць. Памятаю, мой страх хутка растаў, і я так асмялеў, што замест таго, каб выпрабаваць крылы над галубцом, зняўся з парэнчаў і рынуўся з дзевятага паверха проста ў цёмны калодзезь двара. З гэтага я выснаваў, што магчымасць палётаў была ўжо закладзена ўва мне, так бы мовіць, запраграміравана, і нейкая частка маёй істоты была да іх гатова загадзя.

Упершыню я паляцеў дзесяць гадоў таму. За гэты час у маім жыцці адбыліся сякія-такія змены. Машыны мы не купілі ні праз тры, ні праз пяць гадоў, бо неўзабаве я неспадзявана для сябе пачаў пісаць апавяданні і жыццё пакацілася інакш.

**КАЛІСЬЦІ Я БЕЗЛІЧ РАЗОЎ** спрабаваў адказаць на два пытанні: як гэта адбываецца і чаму адбылося менавіта са мною? Развагі над першым пытаннем закончыліся высноваю, што сам факт пераўвасаблення значна важнейшы за прызнанне яго верагоднасці. У другім я супакоіўся на тым, што гэты выпадак не паддаецца тлумачэнню, таксама як нельга, скажам, вытлумачыць, чаму ў звычайных бацькоў нараджаецца вундэркінд. Хоць тут, бясспрэчна, застаецца вялікая прастора для розных гіпотэз і здагадак: да прыкладу, ці выпадкова заявіўся да мяне стары знясілены грак або ці выпадкова ён прыляцеў акурат у той дзень, калі мы купілі каляровы тэлевізар?

Трэба, пэўна ж, сказаць і пра тое, куды я лётаю.

Найчасцей — за раку, дзе пачынаюцца палі. Раней там сеялі лён, і ад таго часу ў мяне застаўся вясёлы ўспамін. Знаёмай мастачцы, якая жыве ў мясцінах, дзе лён не расце, заманулася напісаць некалькі акварэляў з ільном. Як і было між намі дамоўлена, калі зарэчнае поле з пяшчотназялёнага зрабілася зялёна-блакітным, а з высачыні — зусім блакітным, быццам чыстае ранішняе неба, я пайшоў на пошту, каб адбіць знаёмай просценькую тэлеграму: «Прыязджай лён зацвіў». Дзяўчына-тэлеграфістка разам з шараватым бланкам некуды надоўга знікла, а, вярнуўшыся, паведаміла, што такі тэкст яна прыняць не можа, бо гэта — шыфроўка. Назаўтра мною зацікавіліся. Пад час той размовы ў маёй



вальеры з самае першае хвіліны я змагаўся са спакусаю выйсці на галубец пакурыць і ўявіць на парэнчах грака... У галаве круцілася вядомая сцэна з «Майстра і Маргарыты» — калі людзі ў цывільным наведваюцца ў кватэру нябожчыка М. А. Берліёза і сустракаюць тамката, які насуплена абвяшчае ім: «Нікога не чапаю, рамантую прымус». Цяжка ўявіць, што пачалося б, каб **там** даведаліся, што я не толькі пасылаю шыфраваныя тэлеграмы, але і ператвараюся ў грака.

У тую ноч я прысніў адзін з варыянтаў магчымага развіцця падзей: нібыта я ў абліччы грака сяджу ў іржавай клетцы, а чалавек, што паказваў мне пасведчанне, корміць мяне ячменем і клапатліва падлівае ў сподак не ваду, а — «Сталічную». І самае непрыемнае: клетка такая малая, што, калі я захачу ператварыцца назад у чалавека, мне проста не хопіць месца.

Зрэдку мяне цягне злётаць у іншы бок — у прыгарад, дзе ў колішнім кляштары месціцца вар'ятня. У пагодныя дні яе насельнікі шпацыруюць па садзе і, умасціўшыся дзе-небудзь на яблыневай расошцы, я прыслухоўваюся да іхніх размоў. Хачу вам сказаць, што за кляштарнымі мурамі мне даводзілася бачыць і абсалютна нармальных людзей, якіх лекавалі там месяцамі, а часам і гадамі — відаць, дзеля таго, каб зрабіць іх замест нармальных задаволенымі. Адзін з іх, як я зразумеў з гаворкі санітараў, трапіў у вар'ятню за тое, што друкаваў на машынцы і расклейваў па горадзе адозвы з заклікамі да цвярозасці. Другі нястомна выкрываў на сходах несправядлівасць; цярпенне у медыкаў скончылася, калі ён прапанаваў, каб на першамайскай дэманстрацыі бацькі горада не стаялі на трыбуне, а разам з усімі ішлі ў калонах.

Між іншым, сярод жыхароў былога кляштара ў мяне ёсць у нейкім сэнсе супляменнік — рослы брывасты мужчына з ніштаватым чэравам, які пераканаўы, што ён — птушка, і почасту пачынае падскокваць і па-птушынаму махаць рукамі. Але ён ціхі, яму, відаць, і ў галаву ніколі не прыходзіла, што, перш чым замахаць рукамі, нядрэнна было б залезці на дрэва. Пагледзячы на ўсё стараннe, да гэтага небаракі я не адчуваю ні сімпатыі, ні простае чалавечае шкадобы — супакойваю сумленне тым, што мая птушыная іпастась больш відушчая і я маю для такой абыякавасці нейкія яшчэ не спасцігнутыя мною падставы.

Час ад часу мяне вабіць мажлівасць трапіць туды, куды ў чалавечым абліччы трапіць я ніколі не змагу — на макаўку тэлевізійнае вежы ці на бельведэр над першым аднаўленым у горадзе па вайне будынку з калонамі; на бельведэры здавён вісіць лозунг пра дабрабыт народа, а на вузкім гзымсе перад ім заўсёды можна знайсці жменьку проса ці пару хлебных скарынак.

Некалі ў мяне былі іншыя маршруты. На самым пачатку мне падабалася апускацца ў знаёмыя двары, інкогніта сустракаць знаёмых, каб зірнуць на іх вачыма птушкі. Неяк я сеў на падаконец акна кухні, дзе напярэдадні піў віно з жанчынаю, з якой мне было добра. На стале яшчэ стаялі нашы кілішкі, і на адным відаць быў след памады. Я аддаўся сентыментальнасці, і тут у кухню ў ружовым эфірным халацiку зайшла гаспадыня. Я ўсцешана стукнуў у шыбу дзюбаю, але ўслед за гаспадыняю ў дзвярах паказаўся, зашпільваючыся на хаду, мужчына з упэўненымі вачыма і такой самай упэўненай бародкай. Пасля гэтага я ўжо не лётаю па знаёмых адрасах, не шукаю на вуліцах знаёмых і нават жонкі. Такім наіўным спосабам я ўдасканальваю свет, у якім жыву.

Праўда, непрыемнае адкрыццё можа напаткаць і дзесьці на ўскраіне, дзе ніякіх знаёмых не павінна быць. Седзячы неяк у парку на старым жаролістым берасце, я ўбачыў цыбатую постаць прыяцеля, амаль сябра; ён ішоў поруч з маладжавым падхорцістым чалавекам у бездакорнай шэрай тройцы. Вядома, мне — пагатоў пасля майго сумнага досведу — трэба было неадкладна ляцець прэч, але гэта вельмі нагадвала б уцёкі. Карацей, я застаўся і, калі яны праходзілі паўз бераст, пачуў тое, пра што мы з прыяцелем гутарылі днямі ў мяне дома пры гарбаце і што, напэўна, неабавязкова было ведаць чалавеку ў шэрай тройцы.

Але не трэба ўяўляць мае паветраныя вандроўкі суцэльным ланцужком непрыемных назіранняў і адкрыццяў.

У палётах лёгка думаецца — як быццам думкі таксама вызваляюцца ад улады зямнога прыцягнення. У прыватнасці, я думаю, што перасяленне душ пасля смерці — не такая ўжо фантастычная рэч, як некаторым здаецца. Калі ўвесь я, жывы і нават з адзеннем — незалежна ад таго, што на мне: лёгкая тэніска і джынсы ці важкі паўкажушок, пашыты татарынам з-пад Клецка,— калі я нейкім чынам ператвараюся з чалавека ў грака і наадварот, дык ці не прасцей адной толькі душы будзе перасяліцца ва ўжо гатовую іншую абалонку? Урэшце, калі мы прызнаём, што ніякая энергія не знікае бясследна, дык дзе тады шукаць той магутны згустак энергіі, які называецца душою чалавека, пасля таго, як сэрца ягонае спынілася? Між іншым, ёсць гіпотэза (вядома ж, псеўданавуковая!), паводле якой шаравая маланка — гэта душы памёрлых. Аднойчы ў навальніцу я сустрэўся ў небе з пераліўчастым залаціста-блакітным шарам памерамі з галоўку немаўляці і такі працяг існавання зусім не падаўся мне вусцішным і непрымальным. Мяркую, мы маем падставы глядзець наперад з пэўнаю надзеяй.

Яшчэ я люблю прыгадваць думкі блізкіх мне філосафаў, чые імёны пакуль што не вярнуліся ў нашы энцыклапедыі. «Свабода — гэта вызваленне не толькі ад уладароў, але і ад рабоў». Або: «Быць свабодным — не права чалавека, а ягоны абавязак і прызванне». У небе сэнс такіх сентэнцый спасцігаецца глыбей.

У часе падарожжаў над горадам мне падабаецца таксама абдумваць апавяданні, якія я пішу ў пакоі, адкуль можна выйсці на галубец. У гэтых опусах вы дарэмна будзеце шукаць згадкі пра мае пераўвасабленні. Безумоўна, я мог бы падрабязна апісаць палёты — сюжэтаў набралася б на добрую кнігу — але я ўжо даўно вырашыў, што буду маўчаць пра гэта нават у тым малаверагодным выпадку, калі мне прыйдзе ў галаву пісаць фантастычныя апавяданні. Я не здольны растлумачыць, чаму наважыўся адкрыцца вам. Калі шчыра, маё рашэнне сур'ёзна трывожыць мяне. Няўжо яно зноў нарадзілася незалежна ад маé свядомасці? Няўжо гэта нейкі знак?

Я схлусіў бы, сказаўшы, што ніколі не пераадольваў спакусы скласці крылы і кінуцца долу. Я не раз дэталёва пракручваў такі варыянт і нават разважаў, што людзі знойдуць потым на зямлі: мёртвую птушку ці знявечанае да непазнавальнасці чалавечае цела? Няхай гэтыя развагі вас не палохаюць. Я ўпэўнены, што думка пра самагубства павінна хоць раз у жыцці прыйсці да кожнага чалавека. Хтосьці са славутасцей, памятаецца, дзяліў чалавецтва на тры часткі: тыя, хто прачытаў «Братоў Карамазавых»; тыя, хто яшчэ не прачытаў;



і тыя, хто ніколі не прачытае «Братоў Карамазавых». Мне хочацца падзяліць людзей паводле іншага прынцыпу: тыя, да каго ўжо прыходзілі думкі пра самагубства; тыя, да каго яны яшчэ прыйдуць; і тыя, у каго яны не з'явяцца ніколі. Так што не трэба залішне даваяраць майму досыць бясклапотнаму тону.

З тае прычыны, што я належу і да птушынага свету, мяне, зразумела, цікавяць і ягоныя праблемы, асабліва — якое месца займае ў гэтым свеце мая персона. Адразу пасля першых палётаў я ўзяў энцыклапедыю і прастудыяваў усё, што там ёсць пра гракоў. Я даведаўся, што на лаціне мая другая іпастась завецца Corvus frugilegus, што мой крылаты сваячак мáе памеры 46—52 сантыметры, важыць 360—540 грамаў, адкладвае 4—5 зеленкаватых з бурымі плямкамі і крапінкамі яек і гэтак далей.

Потым я сумленна спраўдзіў, ці адпавядаю параметрам крылатых супляменнікаў, дзеля чаго, знаходзячыся яшчэ ў чалавечым абліччы, зладзіў на пісьмовым стале хітрамудрае прыстасаванне з некалькіх лінарак і прынёс ад суседзяў хатнія вагі. У выніку эксперымента стала вядома, што я-грак маю памеры каля 50 сантыметраў і вагу 530 грамаў, а значыць, з'яўляюся для свайго віду даволі буйным экземплярам, што, натуральна, пацешыла маё самалюбства.

Як неўзабаве высветлілася, праблема полу мяне ў птушынай іпастасі не абыходзіць. Дакладней, яе проста не існуе. Спачатку гэтае адкрыццё выклікала досыць супярэчлівыя пачуцці, сярод якіх не на апошнім месцы было расчараванне. Але воляй-няволяй давялося скарыцца. Зеленкаватыя з плямкамі і крапінкамі яечкі, ільсняна-чорная сяброўка на гняздзе, вылет птушанятаў у чэрвені — усё гэта не для мяне. Ды так яно, відаць, і лепей, бо хто ведае, як бы я спраўляўся з бацькоўскімі абавязкамі і тут, і там.

Хваляванні наконт выраю былі дарэмныя: нашы гракі, прынамсі, гракі з нашага горада, туды ўжо не лётаюць. Цікава, што гэта — якасна новая прыступка эвалюцыі (у сэнсе вызвалення ад цёмнае сілы інстынктаў) ці новы віток занявольвання?

Дарэчы, апрача эксперымента з лінаркамі і вагамі, я рабіў у абліччы грака і іншыя. Скажам, пакідаў на стале разгорнутую кнігу або свежую газету. З кнігамі атрымлівалася па-рознаму. Газеты, якія і ў чалавечай іпастасі чытаць мне было цяжка, у птушынай рабіліся ўвогуле псіхалагічна нечытэльнымі — асабліва першыя старонкі, дзе амаль кожны фотаздымак выклікаў непераможнае жаданне пусціць у ход дзюбу.

Але вернемся да маіх адносін з сапраўднымі гракамі. Мушу зазначыць, што яны

заўсёды адчуваюць ува мне прыхадня з іншага свету і паміж намі ўзнікае неадольны бар'ер. На зямлі ніводны грак не падступіцца да мяне бліжэй, чым на такую адлегласць, калі б я ў тую хвіліну быў чалавекам. Разоў колькі я імкнуўся парушыць гэтую непрыемную дыстанцыю, аднак сапраўдныя гракі нязменна аднаўлялі яе. Калі ж спрабаваў далучыцца да іхняе чарады ў паветры, яны імгненна рассыпаліся, паказваючы, што, і адарваўшыся ад зямлі, я зусім не зрабіўся для іх сваім. А вось галубы мяне не чужаюцца — мусіць, з тае прычыны, што наогул не баяцца людзей. Таму, калі ўгледзіце над нашым горадам галубіную чародку, у якой ляціць грак, хутчэй за ўсё вы бачыце мяне ў маёй другой іпастасі.

**І ЯШЧЭ АДЗІН ІСТОТНЫ** момант. Пераtвараючыся ў птушку, я не набываю здольнасці звяртацца да крылатых супляменнікаў на іхняй мове. Зрэшты, дзіўна было б, каб я, захоўваючы пад чорнымі пёрамі чалавечую душу, мог адразу загаварыць на мове, што ніяк не вынікае з маёй сапраўднае сутнасці. Але цікава, што ў птушыным аблічны я — не нямко. З маіх грудзей раз-пораз вырываецца яшчэ непадуладнае мне клекатанне, і гэта дае надзею, што некалі я і сапраўдныя гракі здолеем паразумецца.

Кажучы пра гракоў, я так старанна паўтараю эпітэт «сапраўдныя», што ў вас павінна міжволі з'явіцца думка: а хіба ёсць іншыя гракі-пярэваратні?

Яшчэ тры дні таму з гонарам за сваю выключнасць я адказаў бы, што пра іх існаванне мне невядома. Божа, няўжо гэта здарылася не ў сне?..

У той дзень, крыху адпачыўшы на бельведэры, дзе нядаўна падновілі лозунг пра наш дабрабыт, і праглынуўшы некалькі хлебных крыхотак, я падаўся на ўскраіну ў стары парк. Сядзеў на сваім улюбёным берасце, абдумваў сюжэт апавядання і чысціў пёры. Вось тут і прычынілася падзея, вынікі якой губляюцца ў тумане трывожных здагадак.

Я чысціў дзюбаю крыло і краем вока назіраў, як унізе, на свежаўскапаным кветніку, шукае спажывы чародка гракоў. Аднекуль з-за голых ужо ліп вылецела і апусцілася на кветнік яшчэ адна чорная птушка. Тут не было б нічога незвычайнага, каб астатнія гракі адразу не ўзняліся ў паветра і без пярэпалаху, але з відавочнаю паспешлівасцю не пераляцелі на суседнюю ліпіну. Праўда, такі паварот падзей амаль не закрануў мае цікавасці: паводзіны гракоў маглі выяўляць нейкія не вядомыя мне дагэтуль дачыненні ў іхнім грамадстве. Ні пра што іншае я нават і не думаў. І ўсё-такі пачаў сачыць за птушкамі больш пільна. Новы грак, у якога на спіне была ледзь прыкметная светлая плямка, скіраваў да ліпіны, дзе сядзелі свайчакі, але яны і гэтым разам не прынялі навічка ў сябрыну — быццам па камандзе ўзняліся з галін і разляцеліся па навакольных дрэвах. Тут маё сэрца крануў халадок. Аднак тое, што грак са светлаю плямкаю зноў застаўся адзін, таксама яшчэ нічога не азначала. Вось калі зараз пералячу цераз асфальтаваную сцежку да яго і ён... Я не дазволіў сабе думаць далей. Пакружляўшы над ліпінай, я знарок сеў зусім побач з ім — нават дакрануўся да ягонага крыла. Грак са светлаю плямкаю павярнуў галаву, трохі здзіўлена, але адначасна і ўсцешана пагляздзеў на мяне і не ўзляцеў.

Некалькі імгненняў я прыгаломшана сядзеў, не даючы сабе веры. Наўрад ці гэта была радасць. Я дапускаў магчымасць пераўвасаблення іншых людзей, у тым ліку — і ў птушак, аднак чамусьці ўяўлялася, што астатнія пярэваратні могуць ператварацца ў лепшым выпадку ў вераб'ёў, ці, напрыклад, у галубоў, але толькі не ў грака. Маё самалюбства было ўражана. Сюды дамяшаліся насцярожанасць і зласлівасць — нешта сярэдняе паміж пачуццямі Рабінзона Круза, калі ён убачыў на беразе след чужое нагі, і адчуваннямі аматара гатэльнае адзіноты, які жыў ва ўтульным аднамесным нумары і да якога без папярэджання падсялілі яшчэ кагосьці. Але на той голай і слізкай пасля дажджу ліпавай галіне ў душы найгучней чулася ўстурбаванасць, што маё жыццё можа змяніцца, што яно ўжо змянілася, хоць знешніх прыкмет гэтага яшчэ няма. Зрэшты, цяпер ужо ёсць і — самыя пагрозлівыя.

Там, на ліпіне, мне раптам нясцерпна захацелася падняцца і, не азіраючыся, ляцець да свайго галубца, зачыніцца ў пакоі і зашторыць акно. Але я ніколі не даравай бы сабе такой маладушнасці. Зняўшыся з галіны, праз дзесятак узмахаў крыла я азірнуўся: грак са светлаю плямкаю ляцеў следам. Спярша ён не надта ўпэўнена трымаўся крыху ззаду, ды хутка дагнаў мяне, і мы паляцелі высока над горадам поруч. Быў моцны сустрэчны вецер, і ўсё ж, мяняючы галсы, нам удавалася трымацца амаль крыло ў крыло. У гэтым палёце была не вядомая раней трывожная асалода, у якой хавалася магчымасць не прадбачанае, не спланаванае мною, а зусім інакшае будучыні.

Я мог ляцець без адпачынку, але на хвіліну апусціўся на бельведэр. Потым, калі мы паляцелі далей, я зразумеў, што зрабіў супынак дзеля свайго спадарожніка: мяркуючы па яго ўпартым жаданні далучыцца да гракоў, ён быў пярэваратнем вельмі малады і недасведчаны.

Неўзабаве грак са светлаю плямкаю рэзка ўзяў уніз і ўбок і, вырваўшыся наперад, паляцеў усцяж прырэчнае вуліцы. Ён зрабіў два кругі над абшарпаным панельным пяціпавярховікам і спланіраваў на адзін з галубцоў чацвёртага паверха. Гадзіннік на рагу паказваў без чвэрці дзве: я мусіў спяшацца, каб нагадаваць сына і адправіць яго ў музычную школу. Прыкмеціўшы дом і галубец — там стаяла бочка з капустаю і тырчаў ровар са скручаным пярэднім колам,— я павярнуў дадому. Я ляцеў з адчуваннем, што, калі гляну назад, са мною, як некалі з жонкаю біблейскага Лота, здарыцца штосьці вусцішнае. Заўтра, і паслязаўтра, і яшчэ безліч дзён мы будзем сустракацца і ляцець поруч і, можа стацца, навучымся размаўляць — тады, калі пругкі вільготны вецер будзе абмываць нашы целы і крылы. Я зразумеў, што дзесяць гадоў чакаў сённяшняе сустрэчы, баяўся і чакаў, падсвядома чакаў у кожным палёце. І вось: нас — двое!

Так думаў я ў тыя хвіліны, тры дні таму. Раптоўная радасць не змяшчалася ў птушыных грудзях і, каб адчуць яе на ўсю поўніцу, хацелася хутчэй ператварыцца ў чалавека.

Я памыляўся. Калі зайшоў з галубца ў пакой, радасці не засталося нават на донцы. Мяне апанаваў страх. Страх, што мая таямніца раскрылася. Я праклінаў сябе, што ні разу не азірнуўся: можа, ён ляцеў за мною і таксама запомніў дом і галубец? Адзіным слабым суцяшэннем была відавочная неспрактыкаванасць гэтае істоты са светлаю плямкаю. Ён мог мець мяне не за пярэваратня, а за звычайную птушку, што насуперак астатнім адчула да яго прыхільнасць.

Яшчэ большы быў страх невядомасці. Я спасціг тую непрыемную праўду, што, не зважаючы на маё дэкларацыі, мне ў гэтым наладжаным жыцці, у маім маленькім свеце вельмі прытульна і перамен я хачу значна менш, чым баюся.

Тры дні я не адштораў акно і дзверы на галубец. Тры дні мне спатрэбілася, каб пераадолець страх. Сёння, ужо чуючы сябе пераможцам, я ступіў у шэранькі восенькі дзень, удыхнуў халаднаватае даўкае паветра, засяродзіўся і... нічога не адбылося. Я ўпэўніў сябе, што проста паспяшаўся, замітусіўся, недастаткова напружыў уяўленне. Зноў выйшаў на галубец, і зноў не атрымалася...

**І ВОСЬ Я ПАДЫМАЮСЯ** па лесвіцы. Па лесвіцы таго самага пад'езда з галубцом, дзе стаіць ровар са скручаным колам, па звычайнай лесвіцы, якія бываюць у такіх дамах і пад'ездах,— брудная, з перагарэлымі лямпачкамі на пляцоўках, са стандартным наборам надрапаных на сценах слоў. Яшчэ не ведаю, што скажу, калі мне адчыняць. Не ведаю, хто гэта будзе. Але ведаю: адчыніць менавіта ён, грак са светлаю плямкаю, бо ён ужо адчувае, як я нетаропка, таймуючы сэрца, пераадольваю прыступку за прыступкай, адчувае гэтаксама, як я адчуў, што, калі сёння мы не сустрэнемся, у маім, а можа, і ў ягоным жыцці здарыцца непапраўнае.

Зараз я падыму руку, націсну на гузік званка, і мне адчыняць. Хто гэта будзе — мужчына, жанчына, дзіця?..

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

# МІХАСЬ ЧАРОТ

(1896—1937)



ІМЯ Міхася Чарота (сапраўднае яго прозвішча Кудзелька) досыць вядомае сучаснаму чытачу. Адразу ж прыгадваецца калі не яго лірыка, дык паэма «Босыя на вогнішчы» — першы значны, як тады пісала крытыка, твор так званай новай пралетарскай літаратуры. У 20-я гады М. Чарот — адзін з самых папулярных паэтаў авангарда, а на момант утварэння літаратурна-мастацкай арганізацыі «Маладняк» — адзін з яе бясспрэчных лідэраў, рэдактар газеты «Савецкая Беларусь», аўтар некалькіх кніг.

Гэта быў выток беларускай савецкай паэзіі, аблічча якой (яе ўзлёты і супярэчнасці, спалучэнні гуманізму і жорсткасці) прадвызначыла Кастрычніцкая рэвалюцыя. У творчай біяграфіі М. Чарота ёсць сімвалічная дата: на запытанне анкеты дэлегата I з'езда «Маладняку», «з якога часу піша?», стаіць адказ — 1917 год. Але не так фармальна, як духоўна, унутрана, ён быў звязаны кожным сваім паэтычным радком з ідэаламі, абвешчанымі Кастрычніцкай рэвалюцыяй, можа быць, да канца і не ўсведамляючы сутнасці і правамернасці некаторых з іх. Урэшце, гэта была ўласцівасць не толькі чаротаўскіх эстэтычных поглядаў, але і ўласцівасць «пралетарскай» эстэтыкі наогул. Супярэчлівасць яе асабліва яскрава адбілася ў зборніку Чарота «Завіруха». Сам аўтар у прадмове так тлумачыў сутнасць кнігі: «...Мой зборнік хутчэй дынаміка, чым статыка. Ён — эвалюцыя таго, што перажываў аўтар не толькі як наглядчык рэвалюцыйнай завірухі, але і непасрэдны ўдзельнік яе. Час накладае свой адбітак. Тое, што было ўчора, таго няма сягоння. Тое, што абурвала ўчора, тое сягоння забыта і спалена. Сягоння новае. І гэта сягоння — не ёсць яшчэ кропка, апошняе слова жыцця і барацьбы. Я іду ў заўтра, а заўтра — гэта Вялікая Будучыня».

Ідэя Вялікай Будучыні, па сутнасці, і была лейтматывам паэзіі Чарота і многіх паэтаў-паплечнікаў. У гэтым праяўляўся мастацкі гістарызм той эпохі — у пэўных рысах абмежаваны і тэндэнцыйны, што асабліва выразна выявілася ў канцэпцыі непрыняцця і адмаўлення спадчыны мінулага. Таму, магчыма, здзіўляе тагачасная паэзія, што ў ёй суіснуюць побач такія, здавалася б, несумяшчальныя для аднаго паэта творы, як «Скокі на могілках» і «Памяці Алеся Гаруна». Але, мусіць, паэзія — тая сфера, дзе найболей даюць сябе адчуць творчыя парадоксы.

Лёс М. Чарота такі ж трагічны, як і шматлікіх яго літаратурных аднадумцаў і апанентаў. Пясняр Вялікай Будучыні, ён як пакутнік загінуў у сталінскіх засценках. Да апошняга часу лічылася, што гэта здарылася ў 1938 г. Але зараз дакладна вядома дата яго смерці — 29 кастрычніка 1937 года. У гісторыі беларускай літаратуры гэта сапраўды трагічны, жудасны дзень крывавай плахі, калі былі знішчаны адразу дзесяткі пісьменнікаў, цвет літаратуры.

Ірына БАГДАНОВІЧ,
кандыдат філалагічных навук.

**Памяці Алеся Гаруна**

## *Жывыя акорды*

Спакойна сьпі, пясьняр, далёка на чужыне...
Нашто пакінуў край, які быў сэрцу міл?
Ці, можа, ты хацеў, каб на палёх краіны
Стаяла менш крыжоў і менш было магіл?

Кахаў ты родны край, дзе цемра, зьдзек пануе;
З народам плакаў ты, як лепшы яго сын...
Цяпер ты замаўчаў... А ўсё ж акорды чуе
Гаротны люд... Ня змоўк іх дзіўны гімн.

Ў акордах чуюцца ўсё сумныя напевы:
Адбітак тваіх дум — ў іх можна угадаць,
Шмат жальбы ў іх чуваць, і радасьці, і гневу,
І звоны ланцугоў нявольніка чуваць.

Ты сьпевам разбудзіў народ свой на прадвесьні,
Якому на алтар свой дыямент прынёс...
Яшчэ акорд ня змоўк тваёй прыгожай песьні,
Хоць струны абарваў жыцьця паганы лёс.

Лье сьлёзы па табе народ, і гай, і поле,
І верацЬ у прамень, які ты ўсім паслаў...
Акорды будуць жыць — твой дар, паэт,— на волі,
А з імі будзе жыць, хто плакаў і стагнаў...

1920 г.

## *Скокі на могілках*

Паглядзіце, мы скачам на могілках
І чырвоным вінам паліваем крыжы,—
Па магіле вякоў, на чорных століках,
Марш хаўтурны іграюць нажы.

Мы пад грукат машын, песьні фабрыкаў
Пераскочым курган і бяздоньне балот,
І дзень будучы прыдзе к нам страньнікам
У адзеньні сьвятых пазалот.

Годзе плакаць і вам над Рагнедаю
І, зірнуўшы ў мінулае, цяжка ўздыхаць...
Новы дзень хай вам казку паведае,
Чыю ў песьнях усхваліваць раць.

Старадаўні звычай к нам ня вернецца,
Разбурыла жыцьцё ўсё магутным крылом,
І дзён нашых яскравая дзеньніца
Запаліла вякоў буралом.

І асьвечаны замчышчы князевы,
У пажары купаецца чорны курган...
Цені-людзі з яго павылазілі
Паскакаць на магілах канкан.

З імі вы, як жывыя пакойнікі,
Віхрам буры пусьціцеся прытка у скок!..
Хай вясёла сьпяваюць сасоньнікі,
Хай уздымецца хмарай пясок...

1922 г.

## *Ахвярую Беларускаму хору Тэраўскага*

Гэй! Сьпявай жа мацней на прадвесьню,
Мо' хутчэй да нас прыдзе вясна,
Сьпявай родную, пекную песьню,
Будзі край наш ад цяжкага сна.

Няхай песьня далёка нясецца,
Хай разбудзіць таго, хто 'шчэ сьпіць.
Ува ўсіх тады сэрца заб'ецца,—
Не захочуць далей гэтак жыць...

Аб мінулым нам песьня гавора,
Што і мы калісь вольна жылі...
Дык сьпявай жа пра радасьць і гора,
Роднай песьняй хоць нас весялі!

Захавалась яна пад прымусам,
Як жылі у нявoлі ўпярод...
Калі песьня жыве беларуса,
Будзе жыць беларускі народ!

1919 г.

## *На шляху адраджэньня*

Ня страшна мне зусім
Мінулых дзён пазбытая няволя...
Я ад яе уцёк, замкнуўшы за сабою
Жалезныя вароты...
І блукаю цяпер між небам і зямлёю,
Нібы жабрак сьляпы, хаджу я каля плоту
І вобмацкам шукаю долі...
Ужо даўно
Праз чорны дым паўдзённага туману
Гляджу я ў потнае вакно
Вялікай будучыны...
Мне хочацца разьбіць яго... разьбіць і гляну́ць,—
Якія колеры хварбуюць новы сьвет?..
Вы чуйце: я — паэт,
Але мяцеліцы сьвінцовых куль
Я не баюся...
Схаваныя ў магілах гурбы цел
Ня многа вырастуць, калі там лягу я...
Наперад рвуся!..
Змагаюся бясконца,
Пакуль
Ня ўбачу яснага з-за хмар няпраўды сонца.
Я ведаю, што вас пужаюць крыкі
Маёй душы,
Бо я свабодны сын
Спрадвеку стогнучых, пакрыўджаных людзей...
Ад слоў маіх загіне бог ваш,
Бог вялікі,
І сьветам уладаць ня будзе ён адзін...
За мною шмат ідзе,— з адвагаю і сьмела!
Чым больш людзей — дарога карацее...
Цяпер я блукаю, шукаю новы сьвет.
Гляджу ў вакно, дзе з кожным днём сьвятлее.
Мой шлях — чырвонай плямы сьлед...
Я — паэт!
І гэтыя сьляды вільготнага пяра
Чырвонай стужкаю таксама мітусяцца...
Але мой кліч да вас: «Пара!..
Чаго пужацца?!»

1921 г.

## *Буралом*

Гады мінуць... а, можа, і сталецьці,
Як тыя гарады Гамора і Садом,
Загіне гэты край ад буры ліхалецьця,
І ўнукі нашыя пабачаць буралом.

Ня будзе тут балот, спавітых лазьнякамі,
Пяскоў ня будзе тут і камяністых гор,
Ня будзе сумна пець, як пеў калісь вякамі,
Ў нізіне лес бяроз, на ўзгорку — шумны бор.

Ня будзе крыж стаяць у полі пры дарозе,
Курган расьсеецца, магілаў зьнікне цень,
Ня будзе люд марнець і сохнуць у вастрозе,
Настане вольны век, яскрава-сьветлы дзень.

Край новы узрасьце тады на бураломе —
Машыны будзе век, ня трэба будзе конь.
Бляск элактрычаства там хмара не заслоніць,
Людзкое будзе ўсё: зямля, вада, агонь...

І летапісу сказ, на выцьвіўшай страніцы,
Хто толькі разьбярэ, дык дзіву дасца ён:
Ці гэта так жылі, ці пішуць нябыліцы;
Бо верыць будзе ён, як верым мы у сон.

І вось, калі цяпер віхор жыцьця нясецца,
Руйнуе, ломіць ён мінулага ўвесь лад,
Мо' гэта творчы час, ня буры ліхалецьця,
Бо гэты буралом для будучыны клад.

1922 г.



# НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

## КАСТРЫЧНІК

8/25. Н. **СЯРГЕЙ** («З Сяргея пачынаецца зіма» — Паўлюкоўскі У., 1934).

**ЗЯЛЕЗНАЯ НЯДЗЕЛЯ** («Перад Пакравом пянькі не мачы: крэпка будзіць» — Смаленская губ., Дабравольскі У., 1894).

9/26. П. **ІВАН ШАПТУН** (Іван Пакроўны, Багаслоў). Называлі Іванам Шаптуном таму, што ў часы прыгону, як тлумачыць Е. Раманаў, сваццi сакрэтна шапталіся з жаніхамі пра нявест, каб 1 кастрычніка (па ст. ст.) зрабіць вяселле. Асабліва гэта патрабавалі памешчыкі ў Віцебскай губерні. Захавалася прымаўка: «Іван Багуслоў разаслаў, а аб Пакрова дзеўка гатова».

У Лельчыцкім раёне гавораць: «Іван Пакроўны перад Пакравам ходзіць».

Па гэтым прысвятку арыентаваліся ў заканчэнні сяўбы, вызваляліся ад іншых палявых работ і пачыналі вяселлі. На Століншчыне на гэты конт гавораць: «Пачыналі сеяць азімы перад Прачыстай і казалі, што трэба кончыць да Івана Багаслова. А хто не дасее да Івана Багаслова, той не варт добрага слова», а ў Драгічынскім раёне: «Багаслаў сваты разаслаў, пачынаюць вяселлі рабіці». Спявалі песні: «Ах, восень, восень! Сватоў па восем, А ка мне ніводнага!..»; «Ай, восень, восень, макрота, Дзяцюкам жаніцца ахвота...» і іншыя. У кастрычніку пры выкананні гаспадарчых работ, талок спявалі таксама песні, але такія, якія не вельмі замацаваныя за асенняй парой.

10/27. А. **ПРАНЦІШАК** (Францішак) — прысвятак асенняга земляробчага календара ў заходніх раёнах («На Пранцішка шукае зярнят у полі мышка» — Паўлюкоўскі У., 1934).

11/28. С. **ПАКРОЎНЫ БАЦЬКА** — прысвятак за тры дні перад Пакроваю.

13/30. Пт. **ПАКРОЎЦЫ** — Дзяды перад Пакровай (Магілёўскі павет).

14/1. Сб. **ПАКРОВА** (Пакроў, Трэцяя Прачыстая) — народнае свята, якое знамянуецца ў календары як глыбокая восень, пасля якога пачынаецца зіма. Гэта старажытнае земляробчае свята ў XII ст. царква прыстасавала да свята цудадзейнага выратавання Канстанцінопаля ад сарацынаў.

Заканчвалі ўбіраць бульбу, падвязвалі саламяным перавяслам садовыя дрэвы. Існуе шмат прымавак аб гэтым свяце: «Прыйшла Пакрова, пытае, ці ты да зімы гатова» (Свіслацкі р., Смураг М., 1967); «Калі да Пакроў не было снегу, не будзе яго яшчэ дзве нядзелі» (Пухавіцкі р., Грынблат М., 1974); «На Пакроў мароз — сей пад кустом авёс» і інш.

Адбываюцца змены ў прыродзе («Прыйшла Пакрова — усохла дуброва» — Гомельскі павет, Радчанка З., 1888). Усім вядома, што Пакрова пакрывае зямлю ці лістом, ці снегам, ваду — лёдам («Свята Пакрова, пакрый зямельку лісточкам, а галоўку вяночкам» — Ельскі р.).

Па надвор'і, якое стаіць на свята, гадалі пра будучае («Як на Пакрова дождж ідзе, то бартнік скача, а пахар плача»; «Як на Пакроў маладзік стане — лёгка будзе, як у старом — сільна зіма» — Лельчыцкі р.). Становіцца меней корму жывёле на лугах («Пакровы — зарыкалі каровы» — Слонімскі р., Грынблат М., 1972; «На Пакрова дай сена карове» — Дубровенскі р., Шыцік А., 1961).

Усе чакалі Пакрову, бо тады было меней работ («Як прыйдзе Пакрова, то жыва-здарова, як прыйшлі жнівá, то ляжу нежыва» — Тураўшчына). Пачынаецца пара асенніх вяселляў («Праходзіць Пакрова — раве дзеўка бы карова» — Сержпутоўскі А., 1930).

Добра ахарактарызавана свята ў валачобнай песні: «Сваты Пакроў пытаецца да ў вазвышанькі, Ці ўпахала ў полі жыта. А я й буду да й хадзіці, аглядаці, Ці ўрунiла ў полі жыта, Зямлю лістом засыпаці, Снегам чыстым пакрываці, Ваду лёдам, Пчолку мёдам надзяляці. Старых бабак кіёчкамі, Сярэдніх жонак сыночкамі, А дзяўчатак вяночкамі нагараджаці» (Міёрскі р.). Дзяўчаты варажылі пра замужжа.

18/5. С. **ЮЛІЯН** — ахоўнік дзяцей.

25/12. С. **МАРЦІН** — свята млынароў. Мельнікі святкавалі яго на млынавым каменным крузе (Ашмянскі павет, Берман І., 1874). У Барысаўскім павеце гаварылі: «Марцін сваты — губіцель гагаты» (Ляцкі Е., 1898).

29/16. Н. **ЛОГІН** — збавіцель хвароб вачэй (Раманаў Е., 1912).

31/18. А. **ЛУКА**, прысвятак, па якім арыентаваліся на Палессі ў тэрмінах пасеву («Хто сее да Лукі, то не будзе меці хлеба, ні мукі» — Маларыцкі р.).

У «Народным календары» даты (8/25) падаюцца па новаму і старому стылях (кастрычнік, верасень), указваюцца варыянты назваў каляндарных дзён розных рэгіёнаў Беларусі. П., А., С., Ч., Пт., Сб., Н.— дні тыдня.

Малавядомым і маладаследаваным з'яўляецца абрад-ігрышча «Ката» пячы (Пячэнне «ката», Кот). Тры варыянты яго занатаваны ў «Матэрыялах...» збіральніка і выдаўца фальклору XIX стагоддзя П. В. Шэйна. Згодна ім, вясёлае ігрышча моладзі праводзілася на Вілейшчыне, Міншчыне, Случчыне пад час першых асенніх пасядзелак або на Каляды. Невядомы аўтар у газеце «Наша ніва» (№ 29) ужо ў 1910 годзе паведамляў аб адной спробе адрадзіць гэты даўні звычай («Ката абгуляць»).

Ніжэйшы запіс варыянта ўзяты з «Матэрыялаў...» П. В. Шэйна (1902 г.), які быў дасланы настаўніцай Гатаўскага народнага вучылішча Алімпіядай Сонцавай з Гатаўскай воласці Мінскага павета.

## «КАТА» ПЯЧЫ

Збіраюцца хлопцы і дзяўчаты ў якую-небудзь хату і там рыхтуюць розныя закускі і галоўнае — рыхтуюць з цеста фігуру ката наступным чынам: галаву і тулава робяць з цеста, вушы і ногі з сала, а хвост з каўбасы. Спёкшы такім чынам гэтую фігуру, вешаюць сярод пакоя пад столлю. Затым кожны з удзельнікаў абраду па чарзе пад'язджае на ўхваце да «ката», каб зубамі адкусіць у яго кавалачак ці, калі атрымаецца, то і ўсяго яго адарваць. Пры гэтым яздок павінен гаварыць:

«Еду з кута на «ката»,
Цап за ката».

Але мала каму ўдаецца выканаць такую ролю з поспехам, таму што яго ўвесь час смешаць. Калі ж ён засмяецца, то яму абавязкова вымажуць твар анучай, спецыяльна забруджанай у сажы, і не пусцяць ужо да канца. Але калі ён не рассмяецца, то яго дапускаюць паласавацца кавалачкам або нават поўнасцю сарваць «ката». Такім чынам, гэтая забава працягваецца да таго часу, пакуль хто-небудзь зусім не адарве «ката». Тады «ката» ложаць на стол і дзеляць на ўсю кампанію. Па заканчэнні гульні ўсе сядаюць за стол, п'юць і закусваюць, затым танцуюць да ранку.

Падрыхтаваў **Алесь ЛОЗКА.**

**РЭЦЭПТЫ**

**СЯЛЯНСКАЙ КУХНІ**

## САЛЯНКА ДАМАНАВІЦКАЯ РЫБНАЯ З АДВАРАНАЙ БУЛЬБАЙ

Траску, акуня або судака разабраць на філе, парэзаць невялікімі кавалачкамі і адварыць у невялікай колькасці вады. Пачышчаныя, парэзаныя салёныя агуркі пакласці ў неглыбокую каструлю, дадаць абсмажаную цыбулю, рыбны булён і варыць пад накрыўкай на працягу 10—15 мінут на малым агні. Пачышчаную свежую капусту парэзаць, пакласці ў асобную каструлю, дадаць сметанковае масла, ваду, накрыць накрыўкай і тушыць прыкладна 40 мінут. Затым дадаць падсмажаную цыбулю, тамат-пюрэ, воцат, цукар, соль, лаўровы ліст, перац і тушыць да гатоўнасці. Калі капуста будзе гатовая, дадаць у каструлю падсмажаную на алеі муку, размяшаць і крыху праварыць. Свежую капусту можна замяніць кіслай, але ў гэтым выпадку не трэба дадаваць воцату. У глыбокую патэльню пакласці слой тушанай капусты, на яе кавалачкі гатовай рыбы, затым слой агуркоў і другі слой тушанай капусты. Зверху пакласці адвараную бульбу, парэзаную лустачкамі, пасыпаць сухарамі і паліць маслам. Гатовую страву запячы ў духоўцы.

## КАЛДУНЫ

Сырую бульбу надраць на дробнай тарцы, адціснуць праз марлю, змяшаць з расцёртай варанай бульбай, пасаліць, размяшаць, падзяліць на порцыі і кожную начыніць мясным фаршам (як для катлет): кавалачкі бульбянога цеста сплюснуць на далоні, пакласці начынку і зашчапіць накшталт піражкоў. Абсмажыць калдуны на алеі з двух бакоў, скласці ў каструлю, заліць падліўкай з падсмажанай на шмальцы цыбулі і паставіць у гарачую духоўку. Тушыць пад накрыўкай некалькі мінут, затым дадаць смятану і зноў крыху прагрэць. Падаваць у гарачым стане.

Запісаў
**Іван КОРЗУН.**



Беларусь

Уладзімір САВІЧ.
Пакрова.

| КАСТРЫЧНІК | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | П | А | С | Ч | П | С | Н | П | А | С | Ч | П | С | Н |
| | | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | | | | |

● Суботні вечар на Бярэзіне.



● Г. Вашчанка.





# НАШ ВЕРНІСАЖ

Сёння мы жывём у атмасферы трывог і надзей. І ўсё, што робіцца вакол, хвалюе і радуе, а часам нават і палохае сваёй навізной. Уся краіна імкнецца жыць па-новаму, і нельга застацца ўбаку, нельга адстаць ад змен. Цяпер беларускія мастакі рыхтуюцца да справаздачнай выставы ў Маскве, але і ў Мінску хутка адбудзецца даволі вялікая выстава: «Экалогія і маральнасць». Для гэтых выстаў я працую над новымі работамі, у якіх хачу паказаць наш час, які ўсіх хвалюе сваёй рэвалюцыйнасцю. Па магчымасці адлюстроўваю прыгажосць нашага краю і ў той жа час стараюся даць адказы на пытанні, якія хвалююць нашага сучасніка. Прапаную вашай увазе некалькі сваіх карцін.

Леанід **ШЧАМЯЛЁЎ**.

# ПАРТРЭТ «ЭЛЬ ПРЫМА»

**ПЕРЫЯДАМ** бліскучага росквіту іспанскага мастацтва па праву лічыцца XVII стагоддзе. Менавіта ў гэты час Іспанія падаравала свету выдатную плеяду майстроў жывапісу: Эль Грэка, Сурбарана, Рыберу, Мурыльё. Аднак самым буйным сярод іх быў і застаўся вялікі Дыега Веласкес. Давёўшы да дасканаласці культуру жывапісу, ён стварыў шэраг палотнаў, якія назаўжды засталіся адной з самых значных і цудоўных з'яў у сусветнай гісторыі мастацтва.

Веласкес быў сынам небагатага іспанскага двараніна. Ён нарадзіўся і правёў свае дзіцячыя і юнацкія гады ў Севільі, якая пакінула глыбокі след на ўсім яго далейшым жыцці. Вытокам першых мастацкіх уражанняў для хлопчыка, які рана выявіў мастацкія здольнасці, стала непаўторная, своеасаблівая архітэктура старажытнага горада, дзе антычныя пабудовы часоў Юлія Цэзара суіснавалі з раскошнымі маўрытанскімі палацамі, якія засталіся з перыяду панавання арабаў, саборы іспанскай «палымнеючай» готыкі кантраставалі з рэнесанснымі пабудовамі стылю «платэрэск», якія вылучаліся ювелірным, нібы карункавым, каменным дэкорам. У храмах і палацах захаваліся выдатныя ўзоры жывапісу, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ўсіх часоў і мастацкіх напрамкаў. Аднак Севілья пачатку XVII стагоддзя была не толькі горадам-музеем, яна заставалася і цэнтрам эканамічнага і культурнага жыцця Іспаніі. Такім чынам, юны Веласкес ужо з першых свядомых крокаў меў магчымасць далучацца не толькі да выдатнай мастацкай спадчыны, але і да самых перадавых ідэй у тагачасным грамадстве і культуры.

У немалой ступені садзейнічаў гэтаму і ягоны бацька, які горача падтрымліваў мастацкія схільнасці сына. Калі Дыега споўнілася адзінаццаць гадоў, бацька аддаў яго вучнем да аднаго з лепшых у горадзе мастакоў — Францыска Эрэра Старэйшага. А праз некаторы час хлопчык перайшоў у майстэрню таксама шырокавядомага ў Севільі жывапісца Францыска Пачэка. Пачэка адыграў вельмі важную ролю ў жыцці Веласкеса. Ён быў жывапісцам, паэтам, тэарэтыкам мастацтва і наогул адным з самых адукаваных людзей свайго часу. У доме Пачэка збіраліся выдатныя дзеячы іспанскай літаратуры і мастацтва, у тым ліку Сервантэс і Кеведа. Пачэка высока цаніў Веласкеса, цвёрда верыў у яго незвычайны талент і горача клапаціўся аб юнаку. У доме настаўніка Веласкес не толькі атрымаў мастацкую адукацыю, але і сфарміраваўся як асоба. Тут ён знайшоў і сваё асабістае шчасце. Дачка Пачэка Хуана стала яго любімай жонкай і вернай спадарожніцай жыцця да самых апошніх хвілін. Яна і памерла праз некалькі дзён пасля смерці мужа, не вытрымаўшы гора, якое яе напаткала.

У 1617 годзе, калі Веласкесу споўнілася васемнаццаць, ён здаў экзамен і атрымаў дыплом жывапісца. Першыя творы мастака, асабліва так званыя «бадэгонэс» — жанравыя палотны, у якіх ён адлюстроўваў жыццё простага люду: сялян, прадаўцоў вады ў Севільі,— адразу прынеслі яму поспех. Нягледзячы на маладосць, ён хутка стаў вядомым у горадзе жывапісцам, у яго з'явілася асабістая майстэрня і нават вучні. Жыццё складвалася ўдала, аднак Веласкес нядоўга заставаўся ў родным горадзе. Уступленне на каралеўскі прастол Філіпа IV і ўзвышэнне яго фаварыта графа Алівarэса, які быў цесна звязаны з Севільяй, прывабіла ў Мадрыд многіх севільянцаў. На пошукі шчасця і славы адправіўся ў сталіцу і Веласкес.

У 1623 годзе кароль прызначыў Веласкеса прыдворным жывапісцам. З гэтага моманту і да апошніх сваіх дзён, на працягу амаль сарака гадоў, мастак знаходзіўся пры двары Філіпа IV, займаючыся не толькі жывапісам, але і выконваючы шмат іншых абавязкаў, якія з цягам часу ўскладаліся на яго прыдворнымі пасадамі і чынамі. Аднак не трэба лічыць, што жыццё мастака пры каралеўскім двары было напоўнена забавамі і раскошай. Як сведчаць архіўныя дакументы, пачынаў ён з вельмі нізкай пасады, яго жалаванне было такім жа, як у прыдворнага цырульніка. Але нават атрымаўшы з гадамі вельмі паважаную пасаду гофмаршала, ён застаўся сціплым і небагатым чалавекам. Адзін з яго біёграфаў пісаў: «Гэты прыбліжаны іспанскага двара быў больш блізкі да галечы Рэмбранта, чым да буржуазнай раскошы Рубенса». Тым не менш, мастаку даводзілася мірыцца з гэтым, бо яго становішча пры двары пазбаўляла ад абавязкаў выконваць заказы царквы, а асабістая прыхільнасць караля абараняла ад нападак інквізіцыі.

Абавязкі прыдворнага жывапісца, безумоўна, абмяжоўвалі Веласкеса ў выбары тэм і сюжэтаў для твораў. Ён напісаў усяго адно гістарычнае палатно — сусветна вядомую «Здачу Брэды» і некалькі карцін на рэлігійныя і міфалагічныя сюжэты. Асноўную частку яго спадчыны складаюць партрэты караля, яго дзяцей, прыбліжаных асоб, карлікаў і блазнаў, якія забаўлялі каралеўскае сямейства. Аднак гэта не вельмі скоўвала Веласкеса, бо тыя мастацкія праблемы і задачы, якія яго цікавілі, ён паспяхова вырашаў і на гэтым матэрыяле. Выключна жывапіснымі сродкамі: колерам, тонка распрацаваным у адценнях, бліскуча перададзенай святлопаветранай прасторай — ён імкнуўся адлюстраваць навакольны свет. Усе партрэты Веласкеса глыбока псіхалагічныя, аднак ён быў псіхолагам, жывапісцам чалавечых характараў зусім іншага тыпу, чым, напрыклад, Рэмбрант. Веласкес, магчыма, не ставіў сабе на мэце псіхалагічную, тым больш, «выкрывальную» задачу. Ён проста быў выключна праўдзівым у сваёй творчасці, а яго жывапісныя метады давалі магчымасць адлюстроўваць жыццёвую з'яву ці ўнутраны свет чалавека ва ўсёй разнастайнасці іх псіхалагічных нюансаў і эмацыянальных праяў. Ён ніколі б не здолеў паказаць караля Філіпа гераічным, а папу рымскага Інакенція X — добрым, нават калі б захацеў. Яго пэндзаль пранікаў у самыя таямнічыя закуткі чалавечых характараў і нібы вёў мастака за сабой.

У партрэтнай галерэі Веласкеса асаблівай глыбінёй пачуццяў, сапраўдным драматызмам і чалавечай спагадай вылучаюцца партрэты каралеўскіх карлікаў і блазнаў. Звычай трымаць пры дварах манархаў блазнаў, карлікаў, дурняў паходзіць з глыбокай старажытнасці. Пры двары Філіпа IV іх было асабліва многа. Яны ўносілі ў манатоннасць і нудоту дварцовага побыту нейкае ажыўленне і разнастайнасць. Блазны прысутнічалі пры ўрачыстых цырымоніях, суправаджалі караля на паляванні, у паездках па краіне і нават у ваенных паходах. Сярод іх былі розныя людзі. Сустракаліся і сапраўды непаўнацэнныя ідыёты, а былі і такія, чые фізічныя недахопы неабавязкова суправаджаліся разумовай адсталасцю. Патрэбнасць Філіпа IV пастаянна мець пры сваёй асобе такіх маленькіх пачвар тлумачылася, відаць, не столькі жаданнем пацяшаць сябе і прыдворных, колькі імкненнем манарха адцяніць сваю веліч і дасканаласць такім кантрастным фонам.

Строгі іспанскі этыкет нікому не дазваляў здзекавацца і крыўдзіць карлікаў. Пра іх клапаціліся і апранялі на казённы кошт, ім даравалі розныя вясёлыя, часам і не зусім бяскрыўдныя выхадкі і жарты. З імі гулялі як з жывымі лялькамі. Іх нават любілі, але любілі, як, скажам, пакаёвых сабачак ці малпачак. У гэтым і было галоўнае прыніжэнне, якое балюча раніла сэрцы і зневажала чалавечую годнасць тых з карлікаў, якія здольны былі гэта зразумець.

Блізкае сутыкненне з жыццём каралеўскіх блазнаў дазволіла Веласкесу добра спазнаць іх характары, паводзіны, адчуць іх патаемныя пакуты. Ён бачыў і здолеў раскрыць пад пачварным выглядам іх зняважаную, прыгнечаную, глыбока схаваную чалавечую душу. Аднак ні ў адным са сваіх партрэтаў мастак не імкнецца выклікаць жаль да гэтых самых прыніжаных і абяздоленых істот. Да кожнага з іх ён ставіўся з сапраўднай павагай, паказваў іх чалавечую індывідуальнасць, раскрываў іх унутраны, духоўны свет.

Лепшым сярод гэтых партрэтаў, безумоўна, з'яўляецца партрэт карліка «Эль Прыма». На ім адлюстраваны дон Дыега дэ Асэда, якому, хутчэй за ўсё, сам кароль даў жартаўлівую мянушку «Эль Прыма» («кузен»), якая з цягам часу зацвердзілася і нават замяніла яму імя. «Эль Прыма» займаў не зусім звычайнае сярод блазнаў месца пры двары — ён належаў да бліжэйшай світы караля. Гэта быў адукаваны чалавек, які добра ведаў і любіў літаратуру. Ён служыў у канцылярыі каралеўскай пячаці і даволі часта выконваў складаныя абавязкі нарачнага пры двары.

Партрэт адразу захоплівае пачуццём глыбокага драматызму, які ўзнікае ад падкрэсленай мастаком неадпаведнасці кволай фігуркі карліка з кароткім тулавам, маленькімі слабымі ручкамі і яго тварам — высакародным, разумным, прасякнутым смуткам і пачуццём асабістай годнасці. «Эль Прыма» намаляваны у строгім чорным касцюме прыдворнага з вялікім фаліянтам у руках. Перад ім пяро, чарніліца, чыстыя аркушы паперы. Прадметнае асяроддзе сведчыць аб інтэлектуальнасці заняткаў дона Дыегі дэ Асэды, аб незвычайнасці яго характару, якія вылучалі гэтага чалавека сярод іншых каралеўскіх карлікаў і блазнаў.

Веласкес вельмі далікатна падышоў да адлюстравання фізічных недахопаў «Эль Прыма». Непрапарцыянальнасць яго фігуркі не выклікае ў гледача непрыемных пачуццяў. Вялікі шыракаполы капялюш скрадвае хваравітую падоўжанасць чэрапа, а кніга, якую ён трымае на каленях, намалявана так, што празмерна маленькія ножкі не адразу кідаюцца ў вочы. Галоўную ўвагу мастак засяродзіў на твары сваёй мадэлі. Ён вылеплены не толькі святлаценем, але і колерам, і самой накіраванасцю мазкоў пэндзля. І гэта яшчэ больш узмацняе псіхалагічную выразнасць партрэта.

Вялікую ролю ў раскрыцці настрою вобраза «Эль Прыма» адыгрывае пейзажны фон. Пустынны гарысты ландшафт, намаляваны ў цёмна-шэрых і зеленаватых тонах, з пахмурным небам і калматымі воблакамі адпавядае засмучанай самапаглыбленасці чалавека, які шукае адзіноты, каб аддацца сваім пачуццям і думкам. Выразны, напоўнены нявыказаным болем позірк цёмных вачэй карліка сведчыць аб яго напружаным, інтэнсіўным духоўным жыцці. Толькі тут, сярод маўклівых скал, удалечыні ад людзей, ён становіцца паўнацэнным чалавекам і перастае адчуваць сябе пачварай, кур'ёзам прыроды, які забаўляе ўсіх, хто яго акружае. У гэтым партрэце Веласкесу ўдалося стварыць вобраз, які ўражвае надзвычайнай чалавечнасцю, глыбокім псіхалагізмам і ёмістасцю зместу.

Усё жыццё Веласкеса было адданым служэннем праўдзе мастацтва. Да апошніх дзён свайго жыцця ён не выпускаў пэндзля з рук, і кожны яго новы твор вылучаўся ўсё большай дасканаласцю і праўдзівасцю. Калі майстар памёр, на яго магіле накрэслілі два словы: «Жывапісцу ісціны». Яны вычарпальна характарызуюць творчасць гэтага геніяльнага мастака, аднаго з першых сапраўдных рэалістаў у сусветным жывапісе.

Вольга КАВАЛЕНКА.

НА ЗДЫМКУ: Дыега Веласкес. Партрэт «Эль Прыма». XVII ст.

Фотаілюстрацыя Георгія ЛІХТАРОВІЧА.



*«...Мы абураемся тым, што адбылося з нашымі гарадамі, з нашымі гістарычнымі помнікамі. Але абураемся мы неяк саматужна. Трэба пачаць навуковае вывучэнне страт, падняць архівы, высветліць: што адбылося? Як гэта адбывалася? Хто знішчаў культуру народа? Гэта навуковая задача, а не публіцыстычная. Адбывацца гэта павінна спакойна, без істэрыкі. Факты павінны самі ўздзейнічаць сваёй няўхільнай аб'ектыўнасцю.*

*...Зараз час імкліва мяняецца і ставіць перад намі вельмі складаныя задачы. Адрадзіць культуру народа можна, толькі ацаніўшы страчанае. Паўтару: гэта надзённая задача — вывучыць і аднавіць гісторыю страт і разбурэнняў».*

Дзмітрый ЛІХАЧОЎ,
акадэмік.

**НА ЗДЫМКАХ:** *рэшткі царквы ў вёсцы Баравое Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці, занесенай у «Збор помнікаў гісторыі Беларусі» як помнік народнага дойлідства Прыпяцкага Палесся XVIII стагоддзя пад № 1143. Разбурана ў канцы 1988 года.*

Аркадзь БІРЫЛКА,
Анатоль КЛЯШЧУК.

Фота аўтараў.

**АД РЭДАКЦЫІ:** каб праверыць гэты абуральны факт, мы неаднаразова звярталіся за тлумачэннем у Лельчыцкі раённы аддзел культуры і Лельчыцкі гарвыканком, але так і не атрымалі дасюль грунтоўнага адказу. Адны не могуць растлумачыць, каму спатрэбілася разбураць царкву, другія не ведаюць, ці была яна ў Баравым наогул. Магчыма, гэта публікацыя дапаможа высветліць, ці адказвае хто-небудзь у Лельчыцкім раёне за ахову помнікаў гісторыі і культуры.



## Святлана БАСУМАТРАВА

### *Пра Адама і Еву*

Світальны туман
Наплывае з лагчын.
Над лесам
Ружовіцца неба палоска.
Падзелены свет
На жанчын і мужчын.
Падзелены проста.
Падзелены жорстка.

Няведама колькі
Стагоддзяў назад
Ідзе пагалоска,
Як ветру павевы:
Адам легкадумны
Свой казачны сад
Змяніў на любошчы
Спакусніцы-Евы.

— Цяпер вам ісці
І сям'ю будаваць,—
Тварэц абвясціў ім
На грэшных мінутах,—
Мужчыне — у поце свой хлеб
Здабываць,
Жанчыне —
Дзяцей нараджаць у пакутах!
Няведама колькі
Стагоддзяў прайшло.
Былі землятрусы, пажары,
Разводдзі.
На грэшнай зямлі
І пякло, і мяло.
Мы з вамі жывём
У касмічным стагоддзі.

Рашыўшы праблему
Надзённых патрэб,
Выгоды мы чэрпаем
Поўнаю жменяй:
Мужчына
За лёгкі хапаецца хлеб.
Жанчына
Дзяцей нараджае што меней.

Я пэўнай парады, вядома,
Не дам.
Ды робіцца дзіўнае нешта
З народам:
Адмовіцца трэсці паласы
Адам —
І Ева яму пагражае
Разводам.
Разводаў хапае.
Што ж будзе далей?
А юныя Евы
Звышхутка сталеюць.
Навукі і моды.
Дысплей і бабслей.
Вось толькі...
Баршчу наварыць не умеюць.

### *Абхазіі*

Ля самага сіняга
Чорнага мора,
Дзе пальмы застылі,
Нібы вартавыя,
Задрэмле трывога,
Забудзецца гора,
І промні сагрэюць душу
Залатыя.

Цвіце нават кактус,
Калючы, як вожык,—
Такі незвычайны ён,
Край гэты ветлы.
Усё расцвітае,
І чэрвеньскі дожджык,
Як слёзы нявесты,
Празрысты і светлы.

У белых папахах
Над морам вяршыні.
Паветра
Напоўнілі водарам ружы.
Балюча вачам
Ад бяскрайняе сіні.
...Ізноў ля акна майго
Ластаўка кружыць.

Зляпіла гняздзечка тут
Смелая птушка.
Шчаслівыя
Гэтым птушыным даверам,
Яе не пакрыўдзім
Ні я, ні дачушка
Ні крыкам раптоўным,
Ні брыдкім намерам.

Мы самі, як ластаўкі,
Мчалі да мора
З-пад хмарнага неба
Сваёй Беларусі.
Мой родны куточак,
Ссівелы ад гора,
Чакае мяне.
Да яго я вярнуся.

Абхазія,
Дзякуй за шчодрасць
абедаў,
За танец з кінжалам,
За ясныя промні.
Мо больш я ніколі
Сюды не прыеду,
А ластаўку ўбачу —
Абхазію ўспомню.

◘ ◘ ◘

*Памяці Жэні Янішчыц*

Давала сілы
Гордае натхненне.
Бяда ж у нетрах спела
Спакваля,
І, скарыстаўшы сілу
Прыцягнення,
Не даравала ўзнёсласці
Зямля.

Не родная палеская,
А гэта —
Сталічная,
Закутая ў бетон.
І вось глядзіш
З жалобнага партрэта.
Не верыцца...
Усё, як страшны сон.

Жывіцаю
Бязгучна плача елка.
Якім цяжкім
Здаецца мне вянок.
Асыпалася
Золкая зямелька
Тваім апошнім выдыхам:
— Сынок...

### *Уражанні ад наведвання Дома творчасці пісьменнікаў у Піцундзе*

Звышрэспектабельная
Публіка
Мяне,
Недастаткова модную,
Да шчырай споведзі
Галодную,
Частуе
Дзіркаю ад бубліка.

Яна аб'ехала
Планету,
Усё пра ўсіх, вядома,
Ведае
І засяроджана
Абедае
Без парушэнняў
Этыкету.

Снуюць
Пляменніцы і ўдовы.
Стракаціць
Фірмы «несавецкія».
Тут гутаркі вядуцца
Свецкія
Пра цяжкасці
Перабудовы.
Жую няўважліва,
Трымаючы
Відэлец
Праваю рукою.
...Душа
Не ведае спакою,
Людскога фальшу
Не прымаючы.

# Вечна жывое мастацтва — фальклор






МАТ ёсць па рэспубліцы куточкаў, дзе таленавітыя спевакі, танцоры, музыканты, майстры рамёстваў сваёй творчасцю памнажаюць здабыткі сучаснай культуры, аб іх часта перадае радыё, апавядаюць тэлебачанне, друк. Зазірнём жа ў малавядомую вёску Тышкавічы, якая знаходзіцца больш чым за 20 кіламетраў ад раённага цэнтра Іванава, на Брэстчыне. Вёска вялікая. Абмінаючы балота, возера, хмызнячкі, яна працягнулася з аднаго канца ў другі амаль на чатыры кіламетры. Здавён будуюцца і будуюцца тут хаты. Як сведчаць запісы Літоўскай метрыкі за 1520 год, вёска ўжо існавала. Ну, а што датычыць культурнай нівы, то фальклорна-этнаграфічны ансамбль «Знаходка», які пабываў летась на Міжнародным фестывалі фальклору ў Маскве, даводзіць: у гэтым куточку зямлі выраслі і буйна закрасавалі свае таленты.

Афіцыйна гісторыя калектыву пачалася з 1981 года, а на самай справе значна раней — з 1975-га. Аднойчы на вяселлі сышлася старая і новая радня. Музыка зайграў цецюю «Прымакі», госці запелі. Але знайшліся людзі, слых якіх адчуў, што песні не хапае зухаватасці, запалу, і кінуліся памагчы. Адзін схапіў качэргі, і яны заігралі-запелі ў яго руках, другі — заслонку ад печы, гэты адбіваў такт на чамадане, у таго запелі бутэлькі і алюмініевыя гаршкі — усё захадзіла хадуном, упэўнена даказваючы, што ў хату прыйшоў прымак. А былі гэтымі музыкамі цяперашні кіраўнік ансамбля Мікалай Антонавіч Каткавец і яго жонка Валянціна Уладзіміраўна, дзве родныя сястры Ніна Іванаўна Барташ і Ганна Іванаўна Мінюк, раднёй даводзіліся Марыя Клімаўна Аніскавец, Надзея Іванаўна Кульбеда, Лідзія Рыгораўна Андрусевіч, Сцяпан Андрэевіч Маліч. Тут жа дамовіліся ў сакрэце ад суседзяў збірацца і рэпеціраваць. Чаму ў сакрэце? Бо каб не здзейснілася задума, то ў вёсцы засмяялі б людзі. З цягам часу адчулі, што знайшлі сваю справу, вось і назву далі калектыву — «Знаходка».

Рэпертуар у «Знаходкі» вельмі багаты, самадзейныя артысты могуць без перапынку пець і іграць цэлы дзень. Але праграма Міжнароднага фестывалю патрабавала пець песні не абы-якія, а летнявосеньскага цыкла. А тут высветлілася, што не ўсе ўдзельнікі даслоўна памятаюць жніўныя песні і не могуць перадаць іх мелодыю, бо яны нарадзіліся ў 30—40-я гады. Сто гадоў назад Марыя Саковіч, член Пецярбургскага геаграфічнага таварыства, адзначала, што летнія песні ў гэтым рэгіёне спявалі самотна, цяжка. Ад пажылых кабет удалося даведацца, што раней, як спявалі песні «Літо», у народзе гаварылі: «стогнуць дзеўкі». Вось чаму, каб найбольш дакладна перадаць песенную спадчыну на фестывалі, давялося звярнуцца за дапамогай да жанчыны старэй за 70 гадоў, а яна ўспомніла ўсе словы летніх песень ды паказала мелодыю. Цікава, што жніўныя песні па зместу надта кароценькія, у іх часцей сустракаюцца словы, якія зніклі з сучаснай мовы гэтай вёскі, напрыклад, «нэхлюя» (гультаяватая, няспрытная). А вось мелодыя восеньскіх песень больш лёгкая, свабодная. На жаль, удалося знайсці пакуль толькі адну восеньскую песню — «Стаіць гара высокая».

У час фестывалю ў музеі-запаведніку «Каломенскае» за 30 хвілін калектыў паказаў у праграме «Кола жыцця» частку свайго тутэйшага вясельнага абраду «Каравай», дзея якога адбывалася пад 24 куплеты песні. Дзівіліся масквічы і госці (а наехала больш як 3 тысячы людзей) з аздаблення тышкавіцкага каравая — «шышак». Шышка — гэта галінка пладовага дрэва, запечаная ў цесце. Аздабляюць яе папяровымі кветкамі, аўсом, духмянымі засушанымі травамі. У караваі маладой павінна быць 5 шышак, з якіх тры маюць па 2 развілкі («рагі»), а дзве — па тры рагі; у караваі маладога — чатыры галінкі-шышкі па два рагі, а адна — з трыма. Дзівіліся і вучоныя глыбокай сімволіцы вясельнага каравая, бо яго фрагмент быў паказаны і перад імі ў першы ж дзень адкрыцця фестывалю ў цэнтры фальклорнага свята «Поры года».

Падрыхтоўка да фестывалю яшчэ больш узбагаціла рэпертуар «Знаходкі». Раней тут, як і ў іншых фальклорных калектывах, не звярталі ўвагі на мясцовыя гульні. Удзельнікам калектыву давялося гуртам успамінаць, у якія гульні яны гулялі ў дзяцінстве, маладосці. У выніку на фестывалі прадэманстравалі аж тры гульні: «Явар», «Кацілася торба з высокага горба» і «Цуцэль», якія настолькі прыйшліся даспадобы, што гледачы тут жа кінуліся паўтараць.

«Знаходка» — сапраўдны аўтэнтычны фальклорны калектыў, бо адметную непаўторнасць надаюць ёй не толькі старажытныя песні, якія яны выконваюць гэтак жа, як іх спявалі даўней, але і музычныя інструменты. Іграюць тут на самаробных музычных інструментах, якія змайстраваў вядомы ў акрузе сталяр, бацька Ніны і Ганны. Сцяпан Андрэевіч Маліч, удзельнік ансамбля, зрабіў інструменты з простай мясцовай сыравіны: кара вольхі, пяро гусі, саломка жыта. Трэба бачыць, наколькі кожны з іх хваткі музыка! Што ні возьме ў рукі, то заспявае, нават рэчы хатняга побыту далучаюць свой голас: бойка, каса, бутэлькі, качэргі...

У шэсці па Краснай плошчы і вуліцы М. Горкага сярод прадстаўнікоў саюзных рэспублік і 24 замежных краін ішлі людзі з далёкіх Тышкавіч у сваім традыцыйным мясцовым касцюме. Не, ён не выглядаў бяднейшым за шаўковае адзенне народаў Сярэдняй Азіі і Каўказа! Прыглядзелася я і ўбачыла, як ён манументальна акрэсліваў постаць, зіхацеў белізной, прыцягваў да сябе прамяні неба і, здавалася, сонца толькі з ім гаварыла і смяялася.

Дапамаглі выткаць і пашыць адзенне «Знаходцы» майстры суседняй вёскі Моталь. Новае адзенне паўтарала традыцыйнае ў крoі, арнаменце, тэхніцы ткацтва, колеры, сыравіне. Абутак — чабуткі пашылі майстэрні ў Брэсце, але ці не змаглі, ці не захацелі брэсцкія шаўцы давесці да ладу святочны строй самадзейных артыстаў — калодку мясцовага абутку не паўтарылі і гэтым крыху сапсавалі ім свята. Ішлі тышкавічане ў сваім святочным традыцыйным уборы, хоць прывезлі з сабой і паўсядзённае адзенне: белая льняная намітка, кашуля, спадніца, фартух, лапці. Моршчыліся і не хацелі маладзіцы апранаць бедны, абрыдлы для сваіх бацькоў, убор. І каб не псаваць ім святочны настрой, давялося адзець яго мне. Лапці,— журботная доля беларуса — утылітарны абутак усіх палешукоў, былі ў касцюме жыхароў гэтай мясцовасці, і без іх гэтак жа не абыдзешся, як з песні слова не выкінеш.

Поспех «Знаходкі» на Міжнародным фестывалі быў неймаверны, яе аўтэнтычны характар хутка прыкмецілі нашы і замежныя спецыялісты. У выніку на іванаўскіх артыстаў узвалілася цяжкая ноша: 16 мерапрыемстваў (з іх 11 канцэртаў), штодзень рэпетыцыя, адзін ці два канцэрты, інтэр'ю для нашай і замежнай прэсы, дэманстрацыя сакрэтаў сваіх мясцовых рамёстваў у Горадзе майстроў. Таму зразумела, чаму старэйшая ўдзельніца ансамбля Ніна Іванаўна Барташ скардзілася ўвечары: «Стамлюся за дзень так, што лягу спаць, а вочы не закрываюцца».

Залацінкі народнага генію рассыпаны па ўсёй рэспубліцы, і можна з упэўненасцю сказаць, што яны ёсць у кожным раёне, у кожнай вёсачцы. Вось толькі там-сям не стае энтузіястаў, дасведчаных у фальклоры работнікаў культуры ці можа руплівага кіраўніка, як загадчык аддзела культуры Іванаўскага райвыканкома У. Шэляговіч, або пільнай увагі і дапамогі з боку райкома партыі, як гэта мае месца тут, каб выявіць народныя таленты, прымусіць увесь свет дзівіцца багаццю і глыбіні культурных традыцый народа.

Турысцкія сцежкі ў хуткім часе дазволяць усім жадаючым убачыць і пачуць фальклорную спадчыну вёскі Тышкавічы, якая ўваходзіць у Мотальскі сельсавет, дзе ствараюць музей мясцовай культуры. Калгас «40 гадоў Кастрычніка» (старшыня У. Балюк) пабудаваў ужо прыгожы гмах, а зараз ідзе мантаж экспазіцыі. Так што вёскі Тышкавічы і Моталь запрашаюць вас таксама дакрануцца да жыватворнага мастацтва — фальклору і павучыцца, што трэба рабіць, каб не сумавалі людзі па вёсках, як зрабіць, каб жыццё было больш цікавым і змястоўным.

**Марыя ЖАБІНСКАЯ.**

● Беларускія самадзейныя артысты каля сцен старажытнага Крамля.

# НОВЫ СЛОЎНІК—НОВЫ ПРАВАПІС?

Традыцыйна ў падручніках і даведніках ужыванне апострафа ў нашай мове звязваецца з **«раздзельным вымаўленнем»** папярэдніх зычных з галоснымі *е, ё, ю, я* і націскным *і*.

Так, у «Арфаграфічным слоўніку» (Мн., 1978) у § 70 на с. 24 чытаем: «Для таго каб паказаць, што зычныя з галоснымі *е, ё, ю, я*, а таксама націскным *і* вымаўляюцца **раздзельна**, на пісьме ўжываюцца **раздзяляльныя знакі** — апостраф або мяккі знак».

Беларуская Савецкая Энцыклапедыя падае такое тлумачэнне: «У беларускай мове апостраф паказвае **раздзельнае вымаўленне** цвёрдых зычных з галоснымі *я, ю, е, ё, і*: *сям'я, раз'юшаны, надвор'е, аб'ём, вераб'і*».

У падручніку «Курс сучаснай беларускай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія» (Мн., 1961) на с. 117 адзначаецца: «Раздзяляльны апостраф і мяккі знак пішуцца на месцы гука (j) пры **раздзельным** вымаўленні зычных з наступным галосным».

Аднак назіранні за жывой мовай і простая логіка паказваюць, што ніякай «раздзяляльнай» функцыі ў апострафе няма. Выразы «раздзельнае вымаўленне зычных з наступным галосным», «раздзяляльны апостраф» і г. д. з'яўляюцца вынікам механічнага пераносу ў беларускую мову часткі назвы так званага **раздзяляльнага** цвёрдага знака з рускай мовы.

З гэтай недакладнасці вынікаюць некаторыя памылковыя палажэнні. Так, напрыклад, у вызначэнні, якое дае БелСЭ, гаворыцца аб «раздзельным вымаўленні **цвёрдых** зычных» з адназначнымі галоснымі. Аднак відавочна, што, напрыклад, зычны (з) у слове «раз'юшаны», якое падаецца ў якасці ілюстрацыі, будзе памякчацца перад (j) згодна з правілам асімілятыўнага памякчэння зубных перад мяккімі зычнымі і тады ўжо нельга будзе гаварыць пра «цвёрдыя зычныя».

Асобна варта сказаць пра апостраф перад (і). Ва ўсіх даведніках і падручніках адзначаецца, што апостраф ужываецца толькі перад націскным (і). Аднак у мастацкай літаратуры, публіцыстыцы і слоўніках у апошні час пашырыліся выпадкі выкарыстання апострафа і перад ненаціскным (і). Напрыклад, у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» знаходзім: *з'імшыць* (у «Арфаграфічным слоўніку» 1978 г. — «сымшыць»), *з'імшэць, з'інаванне, з'інавацца, з'інаваць, з'інычыцца, з'інычыць, з'інелы, з'інець*. Адначасова «Тлумачальны слоўнік» дае варыянты напісання, калі апостраф ужываецца перад націскным (і) (*аб'інелы, аб'інець, аб'іньваць*) і без апострафа, калі (і) ненаціскны пераходзіць у (ы): *зына́чванне, зына́чвацца, зына́чваць, зына́чыцца, зына́чыць, зымправіза́ваць*. У новым «Арфаграфічным слоўніку» (Мн., 1982) варыянты з *Ы* не даюцца.

Падобная непаслядоўнасць назіраецца і пры ўжыванні (j) у вуснай мове на стыку слоў перад (і). Разам з правільным вымаўленнем *пра йіх, перад йімі, зьйіх, зь Йірай* і г. д. можна пачуць: *перадымі, зых, зымі* і г. д.

Адзначаныя разыходжанні паміж правіламі і моўнай практыкай ва ўжыванні (j) перад *і* лёгка пераадолець, калі паслядоўна праводзіць прынцып: (j) з'яўляецца толькі перад націскным *і* ў сярэдзіне слова (*абйінець, абйінелы*). Калі ж *і* знаходзіцца не пад націскам, то ён пераходзіць у ы, і апостраф натуральна знікае: *зына́чыцца, зына́чванне, зымправіза́ваць*. Такая з'ява назіраецца і на стыку слоў перад пачатковым *і*. Перад націскным (і) з'яўляецца (j), ненаціскны ж (і) пераходзіць у (ы): *пра йіх, і йіх, перад йімі, зь йіх, зь Йірай, зь йіншымі, зь йіскраў; Йіра добра вучыцца; і Йіра пойдзе з намі; йіскры ляцяць ва ўсе бакі*, але: *зыва́нам, зынстру́кцыяй, зыго́лкай, зыры́най, зыме́намі, зыскры́стымі*.

«Ётацыю» пачатковага ненаціскнога і («дарога на Йіванава», «у йіголцы», «паслалі па Йівана»), відаць, варта разглядаць як прастамоўнае і выкарыстоўваць толькі для пэўных стылістычных мэт.

У апошні час у нашай лексікаграфіі назіраюцца спробы пашырыць сферу ўжывання апострафа за межы, акрэсленыя адпаведнымі правіламі. Так, у другі том «Тлумачальнага слоўніка» ўведзена слова «з'араць» у значэнні «аручы, зняць, зраўнаваць». У другім томе «Руска-беларускага слоўніка» (1982 г.) ужо ёсць некалькі слоў, дзе апостраф ужываецца перад *а* і *э*: *з'агітаваць, з'арыентавацца, з'арыентаваць, з'асяроджанне, з'асяроджанасць, з'асяродзіць, з'асяродзіцца, з'эканоміць* і г. д. Такое напісанне назіраецца ўжо і ў друкаваных выданнях і чарговым выпуску «Арфаграфічнага слоўніка» (Мн., 1982), дзе да ранейшай фармулёўкі (гл. «Арфаграфічны слоўнік» 1978 г., с. 24) дададзена: «...а таксама пасля прыстаўкі з- у словах: *з'араць, з'агітаваць, з'асяродзіцца, з'арыентавацца, з'імправізаваць, з'імшыць, з'эканоміць* і вытворных ад іх» (с. 23, § 70, п. 1).

Гэтую «навінку» ў арфаграфіі наўрад ці можна бясспрэчна прыняць. Па-першае, гэта пярэчыць правілам, якія зацверджаны адпаведнымі пастановамі, што адлюстравалі калектыўную думку карыстальнікаў мовы. Па-другое — што больш істотна,— ніхто з беларусаў не вымаўляе словы тыпу «засяродзіць», «зэканоміць» з рэзкім размыканнем галасавых звязак у пачатку галоснага, як гэта мае месца, напрыклад, у нямецкай мове, дзе ёсць так званы «цвёрды прыступ». У гутарковай мове нешта накшталт цвёрдага прыступу можна пачуць толькі ў словах тыпу «нéа» (пры эмацыянальным адмаўленні).

Ужыванне апострафа перад *а, э* пакуль што агульнапрынята ў французскіх прозвішчах тыпу *д'Арк, д'Эстэн*. І ніхто не вымаўляе (а) і ў гэтых словах з рэзкім размыканнем галасавых звязак, як гэта патрабуюць аўтары новага «Руска-беларускага слоўніка», уводзячы словы тыпу *з'эканоміць, з'арыентавацца*. Гук (д) вымаўляецца ў прозвішчах такога тыпу з наступным галосным злітна: *дарк, дэстэн*.

Здаецца, што пры фармулёўцы правіла ўжывання апострафа немэтазгодна падкрэсліваць яго «раздзяляльную» функцыю, бо яе фактычна няма. Наяўнасць апострафа перад літарамі *е, ё, ю, я, і* паказвае, што гукам э, о, ю, я, і (націскному) папярэднічае (j). Асімілятыўнае ж памякчэнне зычных адбываецца згодна з існуючымі правіламі. Напрыклад: *разьйушаны*, але *падйехаць*.

Перад гэтым мы згадвалі, што ў «Руска-беларускім слоўніку» (1982 г.) прапаноўваўся правапіс *з'эканоміць, з'асяродзіцца* і да т. п. У 1987 годзе выйшаў аднатомны «Слоўнік беларускай мовы», дзе не тлумачылася значэнне слоў, а толькі даваліся формы слоў, націск, некаторыя стылёвыя паметы. У гэтым слоўніку ўжо давалася такое напісанне: *зэканоміць, зарыентавацца, засяродзіцца* і г. д.

І вось нядаўна з'явіўся двухтомны «Беларуска-рускі слоўнік» (т. 1—1988 г.; т. 2—1989 г.). У ім зноў гальванізаваўся правапіс з «цвёрдым прыступам»: *з'эканоміць, з'арыентавацца, з'асяродзіцца* і г. д. Здзіўляе, што аўтараў гэтай канцэпцыі не бянтэжыць тое, што ў слове «засяродзіць» яны раздзялялі апострафам нават дзве літары адной марфемы (прыстаўкі). Інфінітыў гэтага дзеяслова дзеліцца на марфемы наступным чынам: *за-сярод(з)-і-ць*. Калі лічыць, што за ўзнікла як сума дзвюх прыставак *з* і *а*, усё роўна пісаць апостраф тут няма ніякіх падстаў.

Думаецца, што слушна разважалі аўтары «Слоўніка беларускай мовы» (1987 г.), якія прапанавалі пісаць зэканоміць, засяродзіць і г. д.

Калі пагадзіцца, што апостраф з'яўляецца ў пэўным сэнсе знакам «ётацыі», то лагічна было б пісаць *зьява*, так як мы пішам *Карбюзье*.

Настаў час падумаць нам усім разам пра наш правапіс.

**Пётра САДОЎСКІ.**



# МУДРАЯ СТАЛАСЦЬ

Здаецца, ён і не мяняецца з гадамі — наш Даніла Канстанцінавіч: самавіты постаццю, паважны рухамі, задумны і разважлівы. І па-ранейшаму цікаўны да ўсяго, што дзеецца на белым свеце. Пра што б ні зайшла гаворка — ва ўсім дасведчаны слухач і субяседнік. Любыя тэмы падуладныя розуму яго. Даводзіцца здзіўляцца часам: як гэта ўсё трымаецца ў адной галаве, няхай сабе і мажной! Трымаецца і порцыямі выдаткоўваецца партнёру па гутарцы. Самымі частымі «спажыўцамі» ягонай эрудыцыі з'яўляемся, вядома ж, мы, музейцы-коласаўцы. Нетаропкаю хадою штораніцы заходзіць ён у канцылярыю, здароўкаецца ветла з кожным за руку і звыкла «акрэсліваецца» за сталом. Перад запозненым супрацоўнікам пачцва падымаецца і спраўджвае тое ж лагоднае вітанне. Распачынаецца «стыхійная» гаворка. І неўпрыкмет скіроўваецца на коласаўскую тэму. Каму-каму — яму, сыну, найболей рупіць памяць песняра.

Для Бацькаўшчыны бацькаўшчыну захоўваць быў закліканы Даніла Канстанцінавіч пасля смерці Якуба Коласа. З яго ж, зразумела, удзячнай згоды. Пакінуў службу ў Акадэміі навук БССР, службу перспектыўную. Мог падáцца ў вялікія хімікі. Не давялося. З загадчыка лабараторыі пайшоў на пасаду дырэктара Літаратурнага музея Якуба Коласа. Прызначэнне атрымаў у красавіку 1957 года. Звыш дваццаці гадоў кіраваў ён гэтай святыняй Беларусі (адкрыццё музея адбылося 4 снежня 1959 года), кіраваў дбайна і аўтарытэтна. Каля дзесяці гадоў Даніла Канстанцінавіч, персанальны пенсіянер, служыць Коласаваму дому ў годнасці старшага навуковага супрацоўніка.

Дасканалы знаўца біяграфіі народнага паэта, ён шчодра задавальняе патрэбы ўсіх цікаўных. Неацэнную паслугу аказаў работнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР пры падрыхтоўцы 12- і 14-томных Збораў твораў Якуба Коласа: вытлумачыў шмат якія моманты гісторыі напісання твораў, пракаменціраваў багатую эпісталярную спадчыну песняра.

Ахвотна Даніла Канстанцінавіч сустракаецца з наведвальнікамі музея, бачыцца з народам і «ў адрыве ад вытворчасці»: выступае — у навучальных установах, у працоўных калектывах. Голас яго чуецца з блакітнага экрана, па радыё.

Для нас, музейцаў, ён — галоўны кансультант, самы коласаўскі коласавец.

**Іван КУРБЕКА.**

**Ліна КАСТЭНКА**

### *Брэйгель. «Шлях на Галгофу»*

Там вузенькаю не была сцяжына.
Народу гвалт паруxаўся туды.
І плакала Марыя Магдаліна,
што не падаў ніхто яму вады.

Спяшалі коньмі. Ехалі вазамі.
Дванаццаць вёрст — усё ідуць, ідуць...
І Маці Божая заплакала слязамі —
ды памажыце ж крыж яму цягнуць!

Ці вы не людзі? Што за цудасія,
старцам даюць, падсаджваюць калек.
А тут ідзе, ну, добра, не Месія,—
дык чалавек жа проста... Чалавек!

Гурма гудзе, і пнецца далей... Свішча!
Хтось нават падбадзёрвае: цярпі,
ўжо вунь Галгофа, вунь Чарапавішча! —
трашчалі пад нагамі чарапы.

Не ў знак і зброя... Усё змяце лавіна.
Бо што паробяць стражнікі гурме?!
І толькі ён, між хаасу, адзіны
свой крыж пакутны цягне на спіне.

І хоць бы хто! І што ім да слабога?
Паспець бы толькі месца захапіць,
бо лепей відна з пограба крутога,
як ён канае, як ён хоча піць.

І ён упаў, счарнелы ад бяссілля...
Тады знайшлася добрая душа —
натомлены, вяртаўся з поля Сіман
і дапамог, хаця дамоў спяшаў...

Ну, вось і годзе! Кончылася справа!
Пайшлі дамоў і слугі, і віжы.
Вось парадокс, што плакаў тут Варава,
разбойнік, не распяты на крыжы.

Ці шкадаваў, ці ўспомніў пра Пілата,
ці праяснела ў цёмнай галаве:
Што Божы Сын пры ўсіх жа, бач, распяты,
а ён, разбойнік,— ён жа, бач, жыве!

### *Астральны вόйк*

Дабрыдзень вам! Забіты
у спіну,
я ачуняў у зорнай каруселі.
І ўсё, што мае на зямлі цану,
асыпалася тут, як імартэлі.
Там, на зямлі, штось пáдала,
цвіло,
ружова-сіне радавала вока.
І мне вятры пазычылі крыло,
каб я зямлю убачыў хоць здалёку.
Я натаміўся жыць тут без душы.
Не знойдзеш нават, дзе запісваць
строфы.
Арапы-продкі ўсе і гармашы[1]
ўва мне крычаць, каб хоць сагрэцца
трохі.
Не знаю сам, які стары мой дух,
і не хачу ні вечнасці, ні славы.
У бяссмерці холадна. Мне трэба
ў Пецярбург.
Убрацца ў цела і напіцца кавы.
Там, на стале, ляжыць пяро, бы ў сне.
Яно ляжыць, яно даўно не піша.
А мне пісаць бы вершы ўжо, а мне...
ды хоць — як вецер голлейка калыша.
Я ўстаць хачу на золку, на зары.
Быць з Наталі, чакаць лістоў з Адэсы.
Хачу я волі, волі... А цары?
Я жыць хачу, і дыхаць... А Дантэсы?
Я сто паэм ва ўяве закруціў,
а вось гляджу у вочы пісталету...
У бяссмерці холадна.
І холадна ў жыцці.
О божа мой! Дзе ж дзецца мне, паэту?!

**З украінскай мовы
пераклала Валянціна КОЎТУН.**

◘ ◘ ◘

Хай будзе лёгка. Дотыкам пяра.
Хай будзе вечна. Светлым успамінам.
Як белы свет — бярэзінак кара
У холадзе спалоханых асінак.

Сягоння браўся падаць першы снег.
І восень захлынулася ўжо дымам.
Успамінаць пра Вас і горка мне,
І светла ўсім маім ўспамінам.

Хай не разбудзіць смутку тэлефон.
Ў мінулае я болей не вярнуся.
Хай будзе лёгка, бо мінуўся сон,
Што ўночы памяці маёй крануўся.

### *Веер мадам Палетыкі*

Ідалія Палетыка,
праславілася дамачка,
зневажала Пушкіна, з пацехі,
проста так.
Цяпер са сцен музея
на нас вачыма лыпае,
за веерам хаваецца, калі экскурсавод
між іншым скажа: — От,
зірніце, тая самая,
што ганьбавала генія. Сыпнула і яна
ў паклёпы, што варыліся,
сваёй атруты жменьку,
і ў гібелі паэта ёсць і яе віна.

Куды ж цяпер ёй дзецца?
Бяссмерце безвыходнае.
І позіркі спыняюцца на ёй, на ёй,
на ёй!

Дык што, мадам Палетыка?
Пазіцыя невыгодная.
Цяпер сядзі прылюдна
у рамачцы сваёй.

Ён добры, не злапамятны,
ён шчодры ў сваёй літасці.
І без яго, забітага, ну кім бы ты была?
А так вось і разблытваюць па вузліку,
па нітачцы,
каторы год разблытваюць усё, што ты пляла.

Былі ў Дантэса крылцы — зіхцелі
эпалетыкі.
Ён пырхаў, ты ўзвівалася — як птушка
і змяя.
Яно, вядома, будучы жонкаю Палетыкі,
бэсціць рызыкоўна славутае імя.

Ідалія, красуня, і вочы з павалокаю,
дзіця распусты графскае, пачуццяў
тайны дар,
як вы цкавалі генія талакой навокала!
Чаго ж цяпер ты веерам прыкрываеш твар?

Ідалія, сучасніца,
Ну, як табе сучасніцца?
Адкуль узяўся веер, даўно ж, здаецца,
знік.
Схавацца ад сумлення, думаеш, пашчасціла
І людзі не пабачаць зьмяіны твой язык?

А трэба ж было думаці,
Цары, Дантэсы, Дубельты,
Ідалія Палетыка, і ўсе на адну масць!
О як жа небяспечна — генія няславіці.
Ён у бяссмерці кожнаму належнае аддасць!

◘ ◘ ◘

Двары стаяць у завірусе астр,
гараць у полымі ружова-сінім!
Але чаму я думаю пра Вас?
Я Вас ужо даўно забыць павінна.

Усё звычайна так — адлегласць, час,
і што было, наўрад ці аднаўлю ўсё,
ды музыка нагадвае пра Вас,
то раптам глухне ў гэтай завірусе.

Усё звычайна — музыка і час,
і голас, што так прагна ловіць вуха.
Двары стаяць у завірусе астр,
і скрозь асенняя бушуе завіруха!

**З украінскай мовы пераклаў
Васіль ВІТКА.**

[1] Гармаш — артылерыст, майстар (гіст.).

# ЧАС СПАДЗЯВАННЯЎ?

*У майстэрні вядомага мастака рэспублікі, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Арлена Міхайлавіча Кашкурэвіча напярэдадні яго юбілею пабывала Таіса Бондар. Іх гутарку мы прапануем чытачам.*

*ТАІСА БОНДАР: — Ведаю, што адзін з водгукаў на вашу персанальную выставу быў наступны ці прыкладна наступны: «Высока прафесійна, але адкуль столькі змроку і дэпрэсіі ў тэматыцы вашых работ? Зірніце вакол: як шмат радасці і святла, як шмат вострасацыяльных праблем, на якія вы як мастак павінны адгукнуцца сваёй творчасцю!». Не бянтэжыць такая ацэнка?*

АРЛЕН КАШКУРЭВІЧ: — Ну, папершае, якраз шматлікія вострасацыяльныя праблемы і не даюць заспакойвацца, спакойна сузіраць прыроду і навакольнае жыццё. Гэтыя праблемы патрабуюць водгуку. Адказу. І ад мастака таксама. Па-другое, радасць, святло, дабро і дабрыня — усё, дзеля чаго мы жывём,— рэдка пераважаюць над болем, пакутамі, несправядлівасцю, і рабіць выгляд, што не заўважаеш гэтага, нельга. Несумленствы, пра ўсё новыя і новыя ахвяры, сярод якіх тысячы дзяцей, людзі звыкаюцца — звыкліся! — з гэтымі паведамленнямі і ўспрымаюць іх часта абыякава. **Такое** — абыякава!

*Т. Б.: — Спакой, заспакоенасць — гэта подласць, як запісана ў дзённіках Льва Талстога. Памятаеце?*

А. К.: — Так, так. Цяжка, неймаверна цяжка стала дагукацца да чалавечага сэрца. Мо толькі мастацтву і пад сілу — мастацтву, актыўнаму, дзейснаму, праўдзіваму, дынамічнаму. І дабро і святло трэба адстойваць. Адстойваць і адстаяць. Ці — сцвярджаючы характво, гармонію жыцця, ці — адкрываючы, ачышчаючы прыхаваныя гнойныя раны, пухліны яго. Мэта адна — шляхі розныя, і, які з іх выбраць кожнаму асобнаму мастаку, падказвае талент.

*Т. Б.: — Мне здаецца, што выбіраем не мы. Выбірае лёс. І мудрасць, магчыма, у тым, каб аказацца вартым яго выбару, якім бы ён ні быў. Ну, ды справа, урэшце, не ў гэтым... У чым? Вось мы гаворым: мастак не мае права быць ніжэй узроўню свайго часу, тады яго папросту няма — ёсць чалавек, які штосьці робіць, выдае зробленае за мастацтва, а мастака няма. Але хто (што?) вымярае, вызначае гэты ўзровень? Сёння часта з горыччу пераконваешся, што шмат хто ў сферы культуры, у сферы духоўнай, задавальняецца другасным, штучна аблегчаным, а то і проста кампілятыўным.*

А. К.: — Калі розум, творчае асэнсаванне, разуменне замяняюцца, ці падмяняюцца, простым спажываннем мастацтва, гаворка павінна ісці пра маральную, душэўную слепату. З ёю, з гэтай слепатою, часцей за ўсё і сутыкаешся. Прыкладаў, на жаль, нямала. Адзін з іх: успрыманне — дакладней, неўспрыманне! — фільма «Улада Салавецкая», калі людзі натоўпамі выходзяць з залы ў час сеанса, нагадваючы тых, усмешлівых, жыццярадасных герояў выкарыстанай у фільме кінахронікі часоў культу, што весяліліся тады, калі побач мільёны ні ў чым не вінаватых гінулі ў турмах і лагерах. Яны не ведалі пра тое? Не ўсё ведалі? Але ж гэта — тыя, а гэтыя, сённяшнія?..

*Т. Б.: — На З'ездзе народных дэпутатаў хтосьці горка пажартаваў, што з часоў Пятра выхаваннем чалавека ніхто не займаўся. Цяжка сказаць за мінулыя два дзесяцігоддзі, што ж тычыцца апошняга, то, здаецца, «ідэолагамі» і «выхавацелямі» самага рознага кшталту прыкладзена нямала намаганняў, каб выхаваць у душах страх, каб прынізіць, а то і падтаптаць пад ногі, агульна. Мастацтва на тое і мастацтва, каб дапамагчы чалавеку: збудзіць яго сумленне, змусіць яго думаць, навучыць яго спачуваць. Адно трэба — кожнаму прайсці шлях мастака, шлях яго духоўнай барацьбы і пошуку, увасаблення задуманага ў твор.*

*Т. Б.: — Пагадзіцеся, гэта не так проста. Асабліва калі памятаць, што мастацтва спрадвеку вядзе спрэчку са смерцю, спрэчку з фарысеямі ўсіх афарбовак, спрэчку з самім сабой — узводзіць, рушыць і зноў узводзіць усё новыя і новыя светы.*

А. К.: — Ужо ж, занятак не з лёгкіх: ён патрабуе ад гледача той жа творчай працы, таго ж роздуму над сэнсам жыцця, што і ад мастака.

*Т. Б.: — І прываблівае далёка не кожнага...*

А. К.: — Магчыма. Мяне нярэдка папракаюць за адсутнасць лірызму ў творах. Нават — за жорсткасць. Але жорсткі свет, і праўда аб ім, калі пазбягаць упрыгожванняў,— жорсткая, падабаецца гэта або не; гаварыць праўду, як і слухаць яе (у мастацтве — гэтак жа, як і ў жыцці), балюча, і трэба быць мужным, каб стрываць гэты боль. Стрываць, і знайсці ў сабе здольнасць паспачуваць, і ачысціцца болем — сваім або чужым.

На жаль, хоць усё трывожней гучаць са старонак газет, з радыё і тэлеперадач паведамленні пра ўсё новыя і новыя катастрофы, крывавыя сутычкі і стыхійныя бед-



● Ілюстрацыя да рамана Т. Бондар «Спакуса». 1988.



● Ілюстрацыя да рамана Т. Бондар «Спакуса». 1988.







● Чалавек у ліфце. 1989. З серыі «Гэтае мілае гарадское жыццё...».

● Генацыд. 1988.

● Барацьба за месца ў вышэйшай лізе. 1988. З серыі «Гэтае мілае гарадское жыццё...».

● Навальніца. 1989.

*началавечыя каштоўнасці, вытруціць з чалавека, а то і з цэлых народаў, гістарычную памяць, і мне думаецца: у тым, што страх не заглушыў усе іншыя пачуцці, у тым, што гістарычная памяць жывая, жыве, не ў апошнюю чаргу — заслуга мастацтва. Літаратуры і мастацтва. Вехі іх развіцця — не толькі вехі развіцця нашае і агульначалавечае культуры, гэта вехі нашай духоўнай сталасці. Хацелася б, Арлен Міхайлавіч, каб вы прыгадалі найбольш яркія, найбольш важныя з іх у сваёй творчасці. Што гэта? Спадчына Ефрасінні Полацкай, Францыска Скарыны, Міколы Гусоўскага? Зварот да «Фаўста» Гётэ? Гаворкі з Янкам Купалам і Максімам Багдановічам? Шляхі Вялікай Айчыннай? Пагроза зямлі, самому жыццю на зямлі?*

А. К.: — І адно, і другое, і трэцяе... Мяркую, тут важныя не так вехі, перыяды творчасці, як агульны светапогляд, агульнае светаўспрыманне, якое так ці інакш выяўляецца ў кожным творы. Вось у мяне часта пытаюць, ці не даніна гісторыі — аркушы, цэлыя серыі графічныя, прысвечаныя тэме апошняй вайны, але ж яны, гэтыя работы — пра сённяшняе, пра сённяшні дзень, трывожны, начынены ядзернаю зброяй, гатовы выбухнуць новаю жахліваю трагедыяй. А інтэрпрэтацыя «Фаўста»? Хіба яна не сучасная? У кожнага — свая доля адказнасці за лёс народа, за лёс зямлі, усе свае дзеянні, і яна ўзрастае ў той меры, у якой узрастаюць яго магчымасці, і памятаць пра гэта трэба ўсім — і вучоным, і вайскоўцам, і палітычным дзеячам.

Адзін журналіст неяк заўважыў, што мой Фаўст знешне паходзіць на стваральніка атамнай бомбы, Роберта Опенгеймера. Наўрад ці думаў я пра аблічча гэтага вучонага ў часе работы, але само падабенства, нават проста магчымасць такога падабенства — знамянальныя: чым бы ні займаўся сёння вучоны — новымі відамі смертаноснай зброі, злачыннымі праектамі пераўтварэння прыроды, бяздумнымі спробамі спасцігнуць запаветныя, генетычныя яе таямніцы,— адказнасць яго перад чалавецтвам аграмадная. Важна, каб ён гэта разумеў. Важна, каб усе мы гэта разумелі.

Барацьба чалавека за чалавечае ў сваёй душы — самая цяжкая, відаць, барацьба. Адчуў гэта востра ў рабоце над «Фаўстам», яшчэ вастрэй — у рабоце над кнігаю Алеся Адамовіча «Карнікі». Кнігаю, жорсткаю сваёй праўдаю, страшнаю сваім пранікненнем ва ўнутраны свет чалавека, які апусціўся, змог апусціцца ў самае прадонне — дайсці да здрады, да злачынства, да страты чалавечнасці.

*Т. Б.: — Існуе думка — і яна вельмі настойліва сцвярджаецца! — што мастак сваім творам павінен узвышаць чалавека, абуджаць лепшыя яго пачуцці і якасці, тым самым развіваючы і ўдасканальваючы іх, а не калупацца ў сметніку эпохі.*

А. К.: — Ад эпохі з яе крывёю, граззю, гноем нікуды не дзецца. І страта памяці, калі мы пагаджаемся з такою стратаю, пагражае яшчэ большымі няшчасцямі. Прыгадайце легенду, якую прыводзіць Чынгіз Айтматаў у сваім рамане,— легенду пра манкурта... Ланцужку чалавечае памяці нельга абрывацца. Памяць расстаўляе акцэнты: хто ты, і адкуль ты, і што ты. З яе вырастаюць такія паняцці, як народ, як Радзіма.

*Т. Б.: — Згодна. Азірнуўшыся, адчуўшы, што за намі — тысячагадовая гісторыя, тысячагадовая культура, мы адчулі, мо ўпершыню ў такой меры ўсвядомілі, колькі згубілі і загубілі на гэтым шляху. І — адны жахнуліся, другія — памкнуліся назад, у гісторыю, спрабуючы аднавіць страчанае, агучыць даўно, здавалася б, мёртвае. Вы, Арлен Міхайлавіч, наколькі я ведаю, належыце да тых, хто ніколі не падзяляў мінулае і сучаснасць, хто помніў сцежку да вытокаў нашае гісторыі, больш — нашага існавання, і імкнуўся зрабіць яе бачнай для ўсіх. Цяпер, у апошнія гады, да вашае паходні дадалося мноства іншых (рух — асабліва прыкметны сярод моладзі), ці дадае гэта ўпэўненасці, веры ў тое, што адраджэнне культуры, адраджэнне нацыянальнай і гістарычнай свядомасці магчымае і блізкае?*

А. К.: — На жаль, вера часта заглушаецца трывогаю. Адчуванне, што наша спадчына — тысячагадовая гісторыя і культура, прыйшло надоўга. Да таго ж у свядомасці людзей, у душы іх убівалася, што гісторыя пачалася толькі пасля кастрычніка семнаццатага... А калі дадаць сюды антынацыянальную палітыку, вульгарную атэістычную прапаганду, сцвярджэнне сацрэалізму як адзінага метаду ў мастацтве, немагчымасць пазнаёміцца (хоць бы проста пазнаёміцца!) з запаснікамі музеяў, з аграмадным пластом царкоўнай культуры, з філасофіяй! Я зусім нядаўна зразумеў, усвядоміў, якое высокадухоўнае, складанае, глыбокае, недасягальнае для непадрыхтаванага гледача мастацтва — іканапіс.

А архітэктурныя помнікі — сведкі нашае гісторыі і культуры? Разбураліся ж (і дасюль разбураюцца) не толькі храмы і старыя гарадскія кварталы — разбуралася (і зараз разбураецца!) гістарычнае асяроддзе нашых гарадоў: Пінска,

Гародні, Віцебска, Мінска. Нават тады, калі над якою старою спарудаю і злітуюцца гарадскія будаўнікі, знішчаецца той асяродак, той ландшафт, які надаваў ёй цэласнасць, цэласны вобраз. Што ж казаць пра тое непапраўнае, злачыннае ўмяшанне ў гарадскую структуру, у забудову гістарычных цэнтраў Гародні і Віцебска, Верхняга горада ў Мінску! Разбурэнні — проста варварскія.

Кажуць, у Мінску мала засталося высокамастацкіх помнікаў архітэктуры. Так, шэдэўраў няма. І таму тымі астраўкамі старой забудовы, што ацалелі пасля вайны, мы павінны б даражыць удвая. А мы што робім? Загналі ў калектар Нямігу, якая бярэ пачатак у глыбіні нашай гісторыі, і на яе месцы, побач з Петрапаўлаўскаю царквою, узводзім шматпавярховага монстра. Мала таго! — не паруплізіся захаваць царкву Пятра і Паўла ў яе гістарычным асяроддзі, разам са скіраванаю ўгару вуліцаю Астроўскага, і тым самым знішчылі яе як вобраз. А перабудаваны Дом губернатара (Музычнае вучылішча)? А Чырвоны касцёл на плошчы, «патушаны» шэраю сцяною адміністрацыйнага будынка? А халодны, шэры, безаблічны шматпавярховік «Белпрампраекта», які ўціснуўся ў раён Верхняга горада, разбурыўшы сілуэт усёй плошчы? Што гэта — непісьменнасць архітэктараў ці шкодніцтва?

*Т. Б.: — Вядома, што помнікі ахоўваюць самі сябе сілаю сваёй унікальнасці і непаўторнасці толькі тады, калі абаронцам іх, залогам іх недатыкальнасці служыць агульная, усенародная культура.*

А. К.: — Так, так. Прыйшоў час гаварыць і пра захаванне пейзажу, гарадскога і сельскага, пра захаванне старых дрэў, валуноў, старажытных трактаў, пра ахову невялікіх правінцыяльных гарадкоў з іх непаўторнымі ландшафтамі. Індустрыяльная экспансія, бурны рост гарадоў, пракладка ўсё новых шасэйных дарог нярэдка вядуць да знішчэння не толькі асобных архітэктурных помнікаў, але і цэлых ансамбляў, а то і культурных пластоў. Хацелася б згадаць ансамбль Жыровіцкага манастыра як прыклад гарманічнага спалучэння прыроды і архітэктуры: манастыр збудаваны на невялікіх узгор'ях, парослых лесам, адкуль адкрываецца лагчына ўздоўж Шчары. Набліжаючыся да яго з боку гэтай лагчыны, дзівішся, як пластычна, памастацку выкарыстаны дойлідам рэльеф мясцовасці, з якім веданнем справы і пачуццём гармоніі ўзведзены храмы і спаруды. Як лёгка тут думаецца і дыхаецца! Як усё мудра і натхнёна!

А вось жа прыйшло ў галаву некаму бяздушнаму, абыякаваму да харахтва побач з унікальным ансамблем узвесці шэрыя бяздушныя каробкі інтэрнатаў саўгаса-тэхнікума і пошты, разбурыўшы і сілуэт манастыра, і цэласнасць, унікальнасць ландшафту. Вось жа не ўздрыгнула рука ў таго, хто пераканаў вывернуць цэлы пагорак, каб дакапацца да друзу, які пайшоў на будаўніцтва дарогі. І гэта ж не адзінкавы прыклад. Можна было б прыгадаць ссечаныя дрэвы ўздоўж дарогі на Слонім, разбурэнне непаўторнага прыродна-архітэктурнага асяроддзя ў Нясвіжы...

*Т. Б.: — Думаецца, слабы яшчэ голас грамадскасці: не чуюць яго ні ва ўстановах горадабудаўніцтва, ні ва ўстановах партыйнай і Савецкай улады. А трэба, каб пачулі.*

А. К.: — Шмат абыякавых, духоўна бедных людзей ва ўсіх сферах грамадства. І ў асяроддзі інтэлігенцыі, на вялікі жаль, таксама. Сведчаннем таму — хоць бы шматлікія, бяздумныя праекты забудоў і перабудоў...

*Т. Б.: — Народны мастак СССР А. Мыльнікаў неяк у адной з гутарак зазначыў, што на сённяшні дзень у нас, у творчай інтэлігенцыі краіны, няма адзіных памкненняў, сабornасці духу, і жаданне кожнага праявіць сваю індывідуальнасць часам мяжуе з неўрастэніяй аўтарства. З яго думкаю цяжка не пагадзіцца. Непрафесіяналізм, дылетанцтва не толькі ў творчасці, а ва ўсіх сферах жыцця, незвычайна распаўсюджаны і ўплываюць на яго згубна. Чым, на чым, на вашу думку, мацуецца, ці можа ўмацавацца, еднасць сапраўдных творцаў, еднасць памкненняў беларускай інтэлігенцыі?*

А. К.: — Цяжка сказаць. Мы занадта доўга ўсе агулам узіраліся ў «светлую далячынь». Гэтым, магчыма, тлумачыцца сённяшняе (амаль агульнае) жаданне зазірнуць у самих сябе, заявіць аб сабе, аб сваёй непаўторнасці ўголас. Мяне радуе, што многія мастакі могуць выказацца з усёю шчырасцю, а тое, што яны (асабліва моладзь) імкнуцца засвоіць іншыя мастацкія сістэмы і часам разбураюць гармонію, яснасць,— характэрна для нашага часу, няпэўнага, рухомага, рэвалюцыйнага. Не трэба губляць надзеі. Міне час — і своеасаблівы пратэст супраць падсалоджанага трыумфальнага мастацтва, яскрава прадстаўленага на ўсіх, яшчэ зусім нядаўніх, выставах, зменіцца пошукам новай гармоніі, новага харахтва.

*Т. Б.: — Што ж, будзем усё рабіць для таго, каб гэтыя спадзяванні спраўдзіліся.*



...У ШТО Б ТАМ НІ СТАЛА ПАЙСЦІ ДАЛЕЙ І ПЕРАНЯЦЬ УСЕ САПРАЎДЫ КАШТОЎНАЕ З ЕЎРАПЕЙСКАЙ І АМЕРЫКАНСКАЙ НАВУКІ,—ГЭТА НАША НАЙПЕРШАЯ І ГАЛОЎНЕЙШАЯ ЗАДАЧА.

**У. І. ЛЕНІН.**

**Віктар ЖУК,**
**спецыяльны карэспандэнт «Беларусі».**

**Фота аўтара.**

# БЕРАГ ПРАВЫ — БЕРАГ ЛЕВЫ

**НА АДНЫМ БЕРАЗЕ, У АЎСТРЫІ,— ПРЫДУНАЙСКІ ЛІНЦ, НА ДРУГІМ — ПРЫДНЯПРОЎСКІ ЖЛОБІН. УЯВІЦЕ: ПАМІЖ ІМІ — МОСТ.**

● Вена — не толькі сталіца Аўстрыі. Гэта буйны міжнародны цэнтр, скрыжаванне дарог ці не з усіх краін свету.

## 3. СУСТРЭЧНЫ РУХ*

ДЫ ХТО Ж З НАС БОЛЬШ любіць хуткую язду! Вось якое, блізкае да гогалеўскага, пытанне лунала ў паветры, калі разам з супрацоўнікамі фірмы імчаў я па бальшаках Аўстрыі. Па тых гладкіх, як узлётныя пляцоўкі, аўтабанах, дзе раскручваецца на ўсю моц конскія сілы «мерседэсаў», «опеляў», «фольксвагенаў»... Скорасці для Жлобіна і яго акругі нябачаныя. Хоць сіл у нашых «коней» не менш. І ці ж толькі дарогі таму перашкода! Хіба лепшымі былі яны для «птушкі-тройкі» калісьці! Але класік не прадбачыў абмежавальных знакаў, перад якімі новы «ямшчык» ужо не захоча «прыўстаць, ды замахнуцца, ды зацягнуць песню...»

Хорст Бумбергер, які быў за рулём на адной з дарог, што вялі ад Лінца, крыху знаёмы з рускай класікай, аднак куды лепш — з нашай будаўнічай практыкай. Ён — галоўны інжынер жлобінскага праекта. І калі мы амаль пераляцелі цераз Дунай па новым мосце, спраектаваным інжынерамі «Фёст-Альпінэ» і пабудаваным з яе металаканструкцый, размова сама сабой зайшла пра тое, што ж замінае гэтак рухацца на нашым беразе.

...Калі быў заключаны кантракт на будаўніцтва Беларускага металургічнага завода (БМЗ) і заходняя гаспадарчая машына пад'ехала да нашай часткі «моста», яна мусіла спыніцца. Нібы ля былой дэмаркацыйнай лініі на мосце Нібелунгаў. Хоць шлагбаум быў падняты. Але замест звычнага дарожнага пакрыцця наперадзе ляжалі... рэйкі, якія было не аб'ехаць — праезджая частка вузкаватая.

У вобразным параўнанні Бумбергера ёсць і літаральны сэнс. Новы мост цераз Днепр, што пабудаваны для патрэб БМЗ,— чыгуначны... Прыгадваю, як у момант сустрэчы на вакзале Вены Фрыц Найбахер і Карл Файгл амаль у адзін голас спыталі: а чаму не самалётам! Тлумачу, што гэта ў 6 з лішкам разоў даражэй. А камерсанты круцяць галовамі: затое — у 12 разоў хутчэй. І з выразнасцю ўсміхаюцца: маўляў, ваша, руская, цяга да чыгункі нязменная...

Бумбергер зрабіў невялікую папраўку да маіх нататак са Жлобіна. Будавалі БМЗ вельмі хутка па нашым «спідометры». Аднак не з той скорасцю, на якую фірма здольная. Была затрымка на старце. Два гаспадарчыя механізмы, што сустрэліся на мосце, нібы ўперліся буферамі і буксавалі на месцы. Амаль паўгода. Далей паехалі, калі аўстрыйцы і нашы спецыялісты распрацавалі універсальную машыну: аўтамабіль, што рухаецца як па звычайнай дарозе, так і па чыгунцы. Інакш кажучы, гандляр і пакупнік сяк-так «састыкавалі» свае ўмовы і мажлівасці. Але гэта, калі працягваць тэхнічную аналогію,— грубая механічная стыкоўка, без гідраўлікі і электронікі... Да гнуткага перапляцення інтарэсаў яшчэ далёка.

Увасабленне вобраза я зноў-такі бачыў у Жлобіне: аўтамабіль-цягач «Унімог» з камбінаванай хадавой часткай перакочваўся з бетону на рэйкі і наадварот. І як было не заўважыць, што на рэйках іншаземцы таксама замаруджваюць ход. Бо яны да чаго папрывыкалі! На заходняй магістралі мноства развязак, і каб змяніць накірунак, даволі павярнуць руль. На чыгунцы гэта можна толькі пасля пераводу стрэлак.

Такія «стрэлкі» на шляху вядзення гаспадаркі — дзяржаўныя стандарты, што ёсць, вядома, і ў «Фёст-Альпінэ». Але там іх 142. І яны штогод пераглядаюцца з улікам дасягненняў навукі і тэхнікі. А ў нашым прамысловым будаўніцтве — стандартаў больш як 5000. Аўстрыйскія інжынеры, што высадзіліся на дняпроўскі бераг, спачатку адчувалі сябе, як першапраходцы ў джунглях. Навокал былі непраходныя зараснікі Дастаў, якія рэгламентуюць практычна ўсе тэхнічныя сітуацыі. А новае рашэнне прызнаецца, калі яно адпавядае... раней зацверджанаму.

«Прапісвалі» імпартны праект на нашым беразе спецыялісты «Укрдзіпрамеза». Сярод іх Бумбергер сустрэў нямала талковых, творчых людзей, за якіх было асабліва крыўдна. Бо чым, па сутнасці, займаліся калегі! Прыстройвалі «апошні крык» замежнай тэхналогіі да патрабаванняў... першых пяцігодак. На тым узроўні і атрымаўся б вынік, калі б будаўнікі БМЗ падпарадкаваліся ўсім Дастам, многія з якіх не змяняліся дзесяцігоддзямі.

Не зважаць на «стрэлкі» — справа небяспечная. Бо нашы стандарты маюць сілу закона. Парушальнікаў чакае пакаранне. Адзін тыповы прыклад. На БМЗ ёсць стужачны канвеер для падачы загатовак. Даст прадугледжвае навокал агароджу, але не апісвае яе дэталёва. Паводле традыцыі гэтую агароджу робяць суцэльнай, са стальных лістоў. Што пры нашым дэфіцыце металу неашчадна. Ды яшчэ і нязручна: не заўважыш адразу, як засмечваецца стужка... Праекціроўшчык «Укрдзіпрамеза» Шаўчэнка знайшоў больш дасканалы варыянт: для бяспекі пісьменных работнікаў дастаткова праз кожныя тры метры стойкі з надпісам-папярэджаннем. Няшчаснага выпадку не адбылося. Эканамічны эфект быў у наяўнасці. І што ж! Ахоўнікі стандарту аштрафавалі інжынера на 150 рублёў, якія ён, заўважым, выклаў са сваёй кішэні. Ці замахнецца ён другі раз на суцэль-

● Комплекс будынкаў ААН на беразе Дуная.



* Заканчэнне. Пачатак у №№ 7, 8.

ныя агароджы! Хутчэй за ўсё, як і многія, адмахнецца: маўляў, сцяну лбом не праб'еш... Так яно нават зручней. Не трэба вынаходзіць, рызыкаваць, адказваць. Ёсць Даст і ўсё тут.

Бумбергер не чытаў Платонава, аднак амаль працытаваў яго героя Умрышчава: «не высоўвайся». Зусім у іншым становішчы мой субяседнік. Ён можа прапанаваць сваё рашэнне або скарыстаць навінку, скажам, з публікацыі ў навукова-тэхнічным часопісе. На тое ён і галоўны інжынер. А што, калі з ім не згодны кіраўнік праекта? У Аўстрыі ёсць інстанцыя, куды можа звярнуцца наватар: таварыства інжынераў-будаўнікоў. Там не чыноўнікі, а калегі, на разуменне якіх можна разлічваць. Падтрымаюць яны, напрыклад, праект арыгінальнага моста — той будзе пабудаваны.

Хто будзе адказваць, калі раптам мост абваліцца? Перад дзяржавай, вядома, фірма, якая будавала. Яна пакрывае страты і адначасова ўзбуджае іск супраць галоўнага інжынера. Прызнае суд праект службовым злачынствам — аўтар трапіць у турму, грубай памылкай — расплаціцца грашамі. Апроч гэтага, з фірмы яго звольняць або панізяць. І, натуральна, інжынер губляе рэпутацыю сярод калег. Што ў Аўстрыі таксама мае значэнне. Наогул, адказнасць такая, што распрацоўшчыкі праектаў заключаюць дагаворы страхавання на выпадак няўдачы. Але шукаюць, рызыкуюць... Выйгрыш таго варты.

Бумбергер быў спакойны. Мост паміж Лінцам і Жлобінам — надзейны. На будпляцоўцы БМЗ пакуль няма сур'ёзных інжынерных хібаў. З абодвух бакоў. Дык, магчыма, мост умацоўваюць і «рэйкі»! Бо чым, як не жаданнем зрабіць наш «адзіна правільны шлях» яшчэ і самым надзейным, даўгавечным, растлумачыць прыхільнасць да чыгункі!

Але ёсць асаблівасць, з-за якой нібыта трывалая і танная чыгунка — марнатраўства для заходняга берага. Калі ўжо яе праклалі, то цягнік ходзіць туды-сюды ў адным напрамку сама меней гадоў 50. На аўтамагістралі больш мажлівасцей для манеўра. А гэта ва ўмовах рыначнай гаспадаркі — найпершая справа.

Між іншым, чыгунак у Аўстрыі таксама нямала. Вось і па Лінцы бегаюць скорасныя трамваі. Адна лінія вядзе на самую высокую ў наваколлі гару. Пад'ём такі круты, што па традыцыі трэба было б укладваць зубчастыя рэйкі. І прыстасоўваць да іх хадавую частку. Аднак гэта дадатковыя выдаткі і страта хуткасці. На сваю рызыку інжынеры ад зубчаткі адмовіліся.

● Прадстаўнік БССР пры міжнародных арганізацыях у Вене Віктар Баравікоў.
Пра яго дзелавыя якасці я пачуў найлепшыя водгукі ад менеджэраў «Фёст-Альпінэ».




Дарога служыць ужо шмат гадоў. Без адзінай аварыі. Ці трэба дадаваць, што пераможцаў не судзілі!

— Нам бы і ва ўзаемаадносінах гэтак, без перастрахоўкі...

Гэта сказаў мне ўжо іншы інжынер, што забяспечвае «стыкоўку» фірмы з сацыялістычнымі краінамі. Мушу назваць яго аўстрыйцам. Хоць Міхаіл Ягораў — амаль зямляк. Бацька яго выехаў з Віцебска ў 20-я гады, але перадаў сыну веданне мовы і нацыянальнага характару.

З гары Пёстлін, куды я падняўся з Ягоравым, добра быў відзён амаль увесь Лінц. І масты цераз Дунай. Шырачэзныя з вялікай прапускной здольнасцю. А на галоўным — мосце Нібелунгаў — побач з бетонным пакрыццём ляжаць рэйкі, па якіх з Усходу на Захад можа рушыць універсальная гаспадарчая машына... Аднак пакуль што яна вельмі недасканалая. Прынамсі, наша частка агульнага механізма. Гэта высветлілася ў Жлобіне.

Ад нас спачатку што патрабавалася! Не замінаць. Іншаземцы будавалі асобна, сваімі сіламі. Нашы гаспадарнікі толькі захапляліся тым, як працуе заходні механізм. І, падобна на тое, забыліся пра галоўную перавагу нашай — планавай — сістэмы. Як узрасце рух па мосце, адразу не падумалі.

**ВЕДАЛА Б ФІРМА, ШТО МЫ** закажам другую, трэцюю, а, магчыма, і чацвёртую чэргі БМЗ, калі «мост» толькі наводзіўся, іначай бы заклала ўсе ўнутрызаводскія камунікацыі. Пашыраць кацельню, цягнуць дадатковыя трубаправоды і кабель ва ўмовах, калі прадпрыемства працуе ўжо, усё роўна, што перабудоўваць мост нанава. Паўтараюцца спачатку і канструкцыйныя ўзгадненні. Калі б іх тармазілі толькі нашы Дасты... Паўстаюць праблемы, якіх аўстрыйцы наогул не разумеюць.

Возьмем гісторыю з факс-машынай, якая кадзіруе і ў адзін момант перадае чарцяжы на звычайным тэлефонным провадзе. Вынайдзена нядаўна, але ёй ужо карыстаюцца ва ўсіх развітых краінах. З той колькасцю паправак, што ўносяцца ў праект БМЗ, апарат незаменны. Бо кожная паездка кур'ера з аднаго берага на другі абыходзіцца ў тысячу рублёў. А тэлефакс, што служыць гады, каштуе дзве з паловай тысячы. Просьбу дазволіць яго ўстаноўку ў сваім офісе ў Жлобіне фірма накіравала ў Міністэрства сувязі СССР. Мінула два месяцы. Адказу няма...

Асаблівасць кантракта на трэцюю чаргу БМЗ — будаўніцтва на паях. Немалую частку дарагіх мантажных работ будуць весці нашы рабочыя. Зэканомім валюту. Аднак для гэтага трэба пашырыць паласу руху і адрэгуляваць стык абодвух механізмаў. Перагаворы на гэты конт зацягнуліся. Галоўная перашкода — умова Мінчормета, што за ўвесь аб'ект і тэрмін яго здачы адказвае «Фёст-Альпінэ». Нізавошта не пагаджаліся «фірмачы». Каб іх зразумець, уявім мост, абодва крылы якога будуюць адначасова з двух берагоў. Аўстрыйцы пракладваюць сваю частку да вызначанага месца сустрэчы, а нашых там яшчэ няма. Хто вінаваты! Фірма!

Вось камерсанты «Фёст-Альпінэ» і студзяць ваду... Апякліся, калі ў часе будаўніцтва першай чаргі згадзіліся, каб наш бок пастаўляў некаторыя будматэрыялы. «Загаралі» б іншаземцы на беразе Дняпра, калі б не завозілі з-за мяжы то адно, то другое. А нам прасцей было выплаціць кампенсацыю... Тут і знайшлі кампраміс для новага кантракта. «Фёст-Альпінэ» заключыла страхавы дагавор, які прадугледжвае і тэрміны мантажу, і захаванасць матэрыялаў на будпляцоўцы, цяпер ужо сумеснай.

Язда па-новаму пачалася. Ці ёсць сюрпрызы! Калі ў Лінцы я зазірнуў у аддзел каардынацыі мантажных работ, Ганс Кубіш паказаў першыя папраўкі ў графіку — на пракладцы эстакады. Дзве трубы вядуць нашы будаўнікі, дзве — «Фёст-Альпінэ». Для фірмы работы на 6 месяцаў, па нашых нормах — на 9. Аўстрыйцы прытармазілі: няхай будзе па-вашаму. Знялі частку сваіх работнікаў. І сумесны «экіпаж» пакаціўся далей. На меншай хуткасці.

А ўмовы гэты раз роўныя. Дык няўжо нашы «вадзіцелі» наогул не здольныя рухацца хутчэй!

У дні паездкі па Аўстрыі я задаваў гэтае пытанне не толькі Хорсту Бумбергеру, але і механіку Гансу Гляйнінгеру (той таксама працаваў у Жлобіне). Адказы былі наўздзіў падобныя. Маўляў, на «крутых паваротах» вашы ездзяць зухавата. Нават хутчэй, чым мы. А як лёгка знаходзяць выйсце з аварыйных сітуацый! Чаму ж збаўляюць тэмп на роўнай дарозе!! Давайце разбяромся...

У аўтапарку будоўлі пад кіраўніцтвам Гляйнінгера працавалі мясцовыя механікі і шафёры. Што рабілі яны, калі ў цыліндрах рухавікоў іншамарак зношваліся кольцы, а пад рукой не было запасных! Звычна разбіралі механізм і апрацоўвалі сцёрты ўшчыльняльнік вадкім шклом. І машына зноў на хаду. А што зробіць у такім жа выпадку аўстрыец! Машына будзе стаяць, пакуль не прывязуць запчасткі. Дрэнны работнік! І ездзіць павольна! З гэтым мае субяседнікі не згодны.

Яны разважалі, нібыта рашалі школьную задачку. З пункта А на адлегласць, скажам, 10 тысяч кіламетраў выходзяць дзве машыны: наша і ваша. Аўстрыец рамантуе рухавік 5 разоў: па меры зносу ўшчыльняльнікаў. Савецкі механік замяняе кольцы толькі двойчы, таму што абнаўляе старыя. І нібы выйграе ў грашах. Ну, а калі ўлічыць час на важданіну з вадкім шклом! Да таго ж гэтае «вынаходства» павялічвае расход паліва і змяншае хуткасць... У выніку, «кулібін» прыбывае ў пункт Б другім і праезд абыходзіцца яму даражэй.

Дарослы вывад з «дзіцячага» прыкладу. Аўстрыец выбірае стабільнасць і перспектыву. Таму ўсё робіць грунтоўна. Аб чым сведчыць вынаходлівасць рабочага ў пошуках часовага выйсця! Ад яго патрабуюць, каб колы круціліся сёння. Хутчэй або павольней — няважна. А што заўтра! Пажывём — пабачым.

Калі Бумбергер, чалавек у гадах ужо, назірае, як мітусяцца нашы таленавітыя работнікі, яму здаецца, што яны пастаянна — у аварыйнай сітуацыі. Прыкладна такой, прыгадвае ён, якая была ў Аўстрыі ў 1945-м. Тады, у абставінах разрухі, аўстрыйскія механікі таксама карысталіся вадкім шклом. З таго часу на дунайскім беразе ствараюць такія ўмовы руху, каб як мага паўней раскрываўся патэнцыял і чалавека і машыны. З гэтага зыходнага «пункта» пачалося адраджэнне і паскарэнне аўстрыйскай эканомікі. Ці не таму абышла пераможцаў на пасляваеннай дыстанцыі пераможаная краіна!

Што ні сустрэча на тым беразе, абавязковае пытанне: як вам у нас! Падабаецца — не!.. Ветлівыя аўстрыйцы прызвычаіліся выслухоўваць чужую думку. Я адчуваў сябе жаданым госцем у дыхтоўным, утульным доме, дзе для жыхароў прадугледжана ўсё, да дробязей. Ніштo не замінала «руху». Нават нумар у сучаснай гасцініцы «Шылерпарк» нагадваў дасканалую «машыну-жыллё»... Увогуле, я не хаваў захаплення. Але заўважаў, што гаспадары часам выслухоўваюць кампліменты са скептычнай усмешкай, да якой кіраўнік жлобінскага праекта Эрнст Штрасэр дадаў:

— У нас — што... А вось у Амерыцы!

Да закладкі БМЗ ён будаваў падобны завод у ЗША. Гэты заказ «Фёст-Альпінэ» атрымала ў жорсткай канкурэнтнай барацьбе. З прапаноў многіх фірм амерыканцы выбралі найлепшую тэхналогію.

Працаваць там Штрасэру было нярэдка лягчэй, чым дома. Здавалася, бізнесмены вакол толькі і думаюць, як зрабіць яму паслугу. Спатрэбіўся білет на самалёт ці машына напракат — дастаткова зняць тэлефонную трубку... А прадукцыйнасць у амерыканскіх рабочых, якія вялі мантаж, была вышэй, чым у Аўстрыі. «Лыжку дзёгцю» аўстрыйцам падносілі хіба што ў кінатэатрах. У фільмах, што здымаюць у Новым свеце, адмоўныя героі ездзяць на еўрапейскіх марках аўтамашын.

За сваю краіну Штрасэру было крыўдна. Але нядоўга. Амаль напрасткі са штата Луізіяна ён прыехаў у Жлобін. У абставіны, дзе «дзелавая інфраструктура» — з галіны фантастыкі. Нават тэлефонная сувязь ненадзейная. За рублі, якія аўстрыйцы атрымліваюць у абмен на шылінгі, не набыць элементарных рэчаў. Нашы спецыялісты, з якімі трэба весці справу, не валодаюць навыкамі менеджмента... Не сказаць, каб Штрасэр быў ужо надта збянтэжаны. Ён будаваў і ў афрыканскіх краінах.

Першая запаведзь менеджэраў «Фёст-Альпінэ»: ніколі не быць задаволеным сабой. Уся справа — у гэтым. Вось і азіраюцца яны на ЗША. Параўноўваюць хуткасці, вучацца працаваць: час — грошы, жыццё — рух.

А што ж нашы дзелавыя людзі! Назіранні за імі калег-аўстрыйцаў можна аб'яднаць знаёмай аналогіяй. Перабудова для многіх, асабліва кіраўнікоў сярэдняга звяна,— знак поўнага развароту, што раптоўна з'явіўся на старой дарозе. Да гэтага яны не былі падрыхтаваны. І закруціліся ваўчком. На адным месцы.

Сіла застойнай інерцыі настолькі вялікая, што паўстае пытанне: на які ж рух псіхалагічна настройваліся на нашым беразе задоўга! Магчыма, з таго часу, калі заспявалі: «Наш паровоз, вперед лети, в коммуне остановка...» Там і спыніліся. У самы глухі тупік наш цягнік зайшоў якраз тады, калі паводле «раскладу» значылася станцыя ўсеагульнага шчасця. Для цяперашняга і ўсіх наступных пакаленняў. І пакуль паравоз буксаваў, пара пераходзіла ў гудок: «Мы — впереди планеты всей!»

Дзіўная справа... Як быццам светлай будучыні можна дасягнуць з «вінтоўкай у руках». Без партнёрства з усімі цывілізаванымі краінамі. І адсталі ад іх з прычыны сталінскага ізаляцыянізму. Асабліва пасля вайны, калі нават «акно ў Еўропу» забілі. Што ўжо гаварыць пра масты.

Адгарадзіцца ад навакольнага свету было, вядома, прасцей, чым навучыцца яго разумець, скарыстоўваць іншую эканамічную структуру і мець сваю частку ўзаемнай выгады. Вынік і прычына — адзіныя: разрыў ва ўзроўнях развіцця двух «берагоў» тлумачыцца... разрывам паміж імі.

Прапагандысцкая дымавая заслона перашкодзіла своечасова разгледзець і велізарныя зрухі, што адбыліся ў свеце пад уплывам тэхналагічнай рэвалюцыі. Мы па-сапраўднаму не супастаўлялі сябе, і галоўнае — сваю работу, яе прадукцыйнасць, з іншымі. Хіба зрэдку на ўзроўні краін, што на стадыі развіцця. А вопыт «Фёст-Альпінэ» паказвае, што рух з паскарэннем патрабуе іншых параўнанняў: канкрэтных прадпрыемстваў і іх работнікаў.

**НА КАРЦЕ ЗЯМНОГА ШАРА**, якую я ўбачыў у аддзеле замежнага персаналу фірмы, замест паралелей і мерыдыянаў лініі-жылкі, што веерам разыходзяцца з Лінца. За межамі

Аўстрыі «Фёст-Альпінэ» мае 40 буйных цэнтраў. Працуюць там, вядома, не толькі аўстрыйцы. Як і на будпляцоўцы ў Жлобіне, частку супрацоўнікаў падбіраюць на месцах або запрашаюць па часовых кантрактах з іншых краін. Часцей з Польшчы і Югаславіі.

Кіраўнік аддзела Вольфганг Міхельмаер паскардзіўся, што аўстрыйцы — дамаседы, не хочуць доўга працаваць на чужыне. Нават з 30 гадоў — замежны стаж «Фёст-Альпінэ» — гэта не ўвайшло ў прывычку. І замінае ажыццяўляць доўгатэрміновую стратэгію фірмы. Маецца на мэце, каб аўстрыйцы вучыліся ў іншых, пераймалі замежны вопыт, прыглядаліся да новых тэхналогій. Бо ў маленькай Аўстрыі няма такіх прыродных багаццяў, як у нас. Трэба ўмець зрабіць і прадаць гатовы прадукт. А дамагацца гэтага лягчэй, калі бачыш, хто і як цябе абганяе.

Заўважу, што такі накірунак не толькі ў аўстрыйцаў. Маімі суседзямі ў «Шылерпарку» былі японцы. Дзелавыя людзі, якія прыехалі павучыцца ў «Фёст-Альпінэ». Дзяржаўныя граніцы заходніх краін адкрыты для тэхналагічнай рэвалюцыі. Бо на грэбені яе хвалі тыя, хто збірае эфектыўныя навінкі з усяго свету.

Гэта, вядома ж, вышэйшая дзелавая матэматыка. І яна, натуральна, выглядае адарванай ад жыцця там, дзе яшчэ не ў ладах з арыфметыкай. На нашым беразе — гэта далікатна давалі зразумець мае субяседнікі — пануе выключна індустрыяльнае, «чыгуначнае», разуменне прагрэсу. Як гэта праяўляецца ва ўзаемных сувязях! Мы прывозім на мост і здаём чужому купцу-хвату сваю прадукцыю. У асноўным, сыравіну. Скажам, жалезную руду і газ у Аўстрыю. У выніку — «прагараем». Таму што не ўмеем рабіць астатняе. Асноўнае на сёння ў міжнародным падзеле працы: адчуваць пульс канкурэнцыі, улічваць тонкасці маркетынга, арыентавацца ў прылівах і адлівах кан'юнктуры... Гэта не асвоіш толькі па падручніках. Нельга навучыцца плаваць, пакуль застаешся на сваім беразе.

Прафесійны прэстыж аўстрыйца асабліва ўзрастае, калі ён папрацаваў за акіянам — у ЗША. Аднак апошнім часам не менш імкнуцца работнікі «Фёст-Альпінэ» пабываць і на нашым беразе. Ёсць прычыны. Новыя заказы з развітых краін — хутчэй выключэнне. Прамысловых прадпрыемстваў панабудавана ўсюды. Рынак насычаны. А нам трэба ўсё! Апроч гэтага, з пачаткам палітыкі перабудовы адрадзілася чалавечая да нас цікавасць. І я таксама неаднойчы ў гэтым пераконваўся. Вобраз нашай краіны зараз такі прыцягальны, сказаў мне член ЦК Кампартыі Аўстрыі Зігфрыд Пётшар, што ў прамысловым Лінцы рады камуністаў больш ахвотна пачала папаўняць моладзь. Нарэшце, аўстрыйцы, якія спрадвеку шануюць свой дом, сур'ёзна ставяцца да ідэі будаўніцтва дома агульнаеўрапейскага.

Будпляцоўка ў Жлобіне — своеасаблівы падступ да гэтага будучага дома. Па кантрактах з «Фёст-Альпінэ» за 7 гадоў на нашым беразе пабывала столькі аўстрыйцаў, што ў Лінцы ўжо можна стварaць зямляцтва будаўнікоў БМЗ. Кіраўнікі фірмы лічаць гэтых людзей сваім «залатым фондам»: яны навучыліся працаваць і жыць разам з намі. Прынамсі, пераадолелі псіхалагічны бар'ер. Што, паводле слоў маіх знаёмых, было не так ужо цяжка.

Фрыц Найбахер, камерцыйны дырэктар жлобінскага праекта, не ведае рускай мовы. Аднак у нас адчувае сябе лепш, чым у ГДР. Ён лічыць: мы — блізкія людзі. Хоць з афіцыйнага пункту гледжання — прадстаўнікі розных сістэм. Што ж нас так яднае! Найбахер знайшоў паэтычны вобраз: сэрца... на кончыку языка.

Інжынер Міхаіл Ягораў працуе ў «Фёст-Альпінэ» шмат гадоў. І таксама не адчувае сябе чужым. Карані сваяцтва Ягораў, які цікавіцца гісторыяй, бачыць у далёкай мінуўшыне. Германскі характар аўстрыйца доўга прыстасоўваўся да славянскага ў многанацыянальнай імперыі Габсбургаў. Аднак і наш зямляк прызнае, што ўзаемнага прыцягнення душ замала, каб пабудаваць у згодзе дом. Трэба вучыцца працаваць разам. Пра гэта ж гаварыў са мной у Лінцы і калега — Хайнц Амброзіч, рэдактар аддзела эканомікі мясцовай газеты «Нахрыхтэн» («Известия»). Ён быў у Жлобіне, таксама пісаў аб праблемах будпляцоўкі. Шмат у чым нашы погляды сышліся. І разважалі мы аб адным: як перавесці сумесны рух на новую хуткасць.

Калі я крочыў па мосце з берага Дняпра, здавалася, што дастаткова пракласці новыя шляхі зносін — на ўзроўні з рэйкамі, і пусціць універсальны цягач замест «паравоза». З берага Дуная відаць, што патрэбна і якасна новая стыкоўка гаспадарчых механізмаў.

Напэўна, у кожнага з нас ёсць свой «рэгулятар» хуткасці. Нездарма рабочыя БМЗ пераналаджваюць на звычны рэжым імпартнае абсталяванне. У гэтым сэнсе вадзіцель мае тую тэхніку, да якой падрыхтаваны. Будзе за рулём старая «рабсіла» — скорасць і манеўранасць не павялічацца. Каб разам ездзіць па адных, агульнаеўрапейскіх, вуліцах, павінны стаць іншымі, на парадак вышэй, і адносіны «вадзіцеляў» у працэсе працы. Вытворчыя адносіны. Толькі абслугоўваць заходні механізм, як гэта робяць нашы дагэтуль,— што прасцей! Трэба рухацца на роўных, як паўнацэнныя партнёры. А для гэтага — «прыцірацца». І, вядома, вучыцца. Адзін у аднаго. Як тагo патрабуе рэвалюцыя: наша духоўная і заходняя тэхналагічная.

Быў час, мы назубок ведалі, чаму ўвесь свет павінен вучыцца ў нас. Але вырашаць гэта ўсё-такі не нам. Я, вядома, цікавіўся ў аўстрыйцаў, што з нашага вопыту ў Жлобіне яны палічылі патрэбным запазычыць. Тыя далікатна адмоўчваліся. Нарэшце, Штрасэр прыгадаў: пратаколы. Раней на сумесных «лятучках» іх не вялі. Аднак мы лепш разбіраемся ў арганізацыі сходаў. І фірма гэта скарыстала. У праектных паперах зараз больш парадку.

А вось чаму павучыцца нам у іншаземцаў? Што перанесці ў сваю частку агульнага дома з таго берага?.. Нагляднаы дапаможнік — «маленькая Аўстрыя» на беразе Дняпра, дзе ўсё спраўна. Але я пакрыўлю душой, калі не скажу аб унутраных граніцах, якія ўразілі мяне ў кемпінгу фірмы ў Жлобіне. Рабочыя жывуць у бараках, дзе ў маленькім пакойчыку — два чалавекі. Кіраўнікі — у асобных катэджах. Ёсць і бар для вышэйшага звяна з няпісаным законам: рабочым уваход забаронены. У іх свой, асобны бар. Навошта гэтыя перагародкі ў агульным доме, спытаў я у Міхельмаера. Ён растлумачыў так: мы ўлічваем асаблівасць нацыянальнага характару — аўстрыец павінен крыху пабойвацца свайго начальніка, ведаць дыстанцыю...

Дык вось чаму скоса паглядзеў адзін з кіраўнікоў будпляцоўкі на бургамістра кемпінга Фрыдрыха Фрыша, калі той мімаходзь падняў паперку з тратуара... Як начальнік Фрыш зрабіў памылку. Трэба было выклікаць дворніка.

У маленькай чытальні кемпінга я паспрабаваў адшукаць нумары заходніх часопісаў, пра якія мне расказаў галоўны інжынер БМЗ Уладзімір Чарноў. Там былі надрукаваны плакаты: на адным — дзікун з дубінай, на канцы якой — ракета з надпісам «СССР», на другім — пануры мужык, адна рука ў яго як серп, другая як молат... Аднак гаспадары ўжо выправілі прамашку.

**НА ЖАЛЬ, МЫ НЕ СПЯШАЕМСЯ** выпраўляць сваю. І амаль што не выкарыстоўваем тыя магчымасці, якія з'явіліся з навядзеннем моста.

З дапамогай «Фёст-Альпінэ» можна шмат чаму навучыцца. Найперш — кіраванню гаспадарчай машынай. Пераканаўся ў гэтым, хоць знаёмства з сістэмай падрыхтоўкі кадраў фірмы было вельмі кароткім. Я не паспеў наведаць міжнародную акадэмію па менеджменту, якая працуе ў Лінцы. Прайшоў толькі па класах-майстэрнях, дзе ўчарашнія школьнікі авалодваюць рабочымі спецыяльнасцямі.

Здавалася б, фірме няма чаго клапаціцца пра змену. У адрозненне ад БМЗ, тут за плотам — чарга ўжо гатовых спецыялістаў. Але «Фёст-Альпінэ» на працягу трох з палавінай гадоў бясплатна навучае каля тысячы чалавек. Майстэрні не толькі добра абсталяваны, яны мяжуюць з заводскімі цэхамі, дзе вучні бываюць у другой палове дня. Сімвалічная афарбоўка сцен і мэблі ў класах у зялёны колер. Ён нібы адпавядае вядомым радкам Гётэ і сведчыць: тут няма месца «сухой тэорыі», толькі — «дрэва жыцця».

Адна з «галін» была для мяне сюрпрызам. На выстаўку, якая паказвае ўзровень майстэрства вучняў, кожны з іх зрабіў тое, што хацеў, а потым возьме гэтыя бытавыя рэчы сабе. Заплаціць трэба толькі за матэрыялы. Я прыгадаў нашых «пэтэвушнікаў», якія ўпотай майструюць сабе забаўкі. Тут жа з першых крокаў прывучаюць працаваць для фірмы, як для сябе. Месца ў «Фёст-Альпінэ» атрымліваюць не ўсе: толькі палова выпускнікоў. Выбіраюць лепшых. Астатнія, як правіла, даволі хутка знаходзяць работу на іншых прадпрыемствах. Выяўляецца аўтарытэт фірмы, у якой яны атрымалі адукацыю.

Ні ў Жлобіне, ні ў Беларусі не рыхтуюць кадры для прадпрыемства з такім узроўнем тэхналогіі, як БМЗ. У тых ПТВ краіны, дзе вучаць металургаў, разлік усё ж на сярэдні ўзровень галіны. На ўчарашні дзень, калі меркаваць па еўрапейскіх мерках. А сучасных кіраўнікоў вытворчасці — менеджэраў і наогул няма адкуль чакаць. Вядома, на БМЗ, як і на іншых заводах, кіраўнікоў зараз выбіраюць. Пераважна са сваіх работнікаў. Што, зразумела, крок наперад ад становішча, калі прызначалі кіраўніка, патрэбнага для вярхоў. Аднак зноў-такі, як выбіраюць! Па якіх крытэрыях!

Гэта, сустрэчнае, пытанне задаў мне доктар Хуберт Штэльцнер, вучоны-сацыёлаг, які займаецца ў «Фёст-Альпінэ» распрацоўкай праграм навучання рабочых і прынцыпаў падбору кіраўнікоў. І я ўспомніў размову рабочых у сортапракатным цэху БМЗ, каго яны хацелі б бачыць начальнікам змены.

— Я — за Заварыкіна. Мы з ім план жартам выканаем. І клопату ведаць не будзем.

— Затое Дакудоўскі мацнейшы як спецыяліст. І за справу хварэе. З ім будзе якасць.

— Ён з людзьмі ладзіць не ўмее. Не тое што Заварыкін. Гэты — чалавек. Ведае псіхалогію.

Перавагу аддалі Заварыкіну. Штэльцнер не здзівіўся. Ён знаёмы з сітуацыяй у Жлобіне. На яго погляд, гэта прыклад перавернутай логікі. Мы спачатку набылі суперсучасны завод, а потым схамянуліся: дзе ўзяць для яго кадры! У тым ліку — кіраўнікоў. Гэта рух задам наперад. Вось і моцныя мы заднім розумам.

У «Фёст-Альпінэ» падыход іншы. Змена структуры вытворчасці пачынаецца з «пілатажнага праекта», што ўлічвае мэту і сродкі вытворчасці, патрэбы рынку, асартымент прадукцыі, палітыку капіталаўкладанняў і сам працэс працы. Але першая справа — персанал. Пра яго думаюць загадзя. Праблема ў тым, адзначыў Штэльцнер, каб зніткаваць агульную мэту з задачамі ўсіх падраздзяленняў фірмы і асабістым інтарэсам кожнага супрацоўніка.

Дык вось куды цягнецца ніточка ад вырабу для сябе з вучэбнай майстэрні!

Вытворчасць — гэта сістэма. Асобна ад яе работніка ў фірме не разглядаюць. Бо спецыяліст раскрываецца, калі дзейнічае сумесна з арганізацыяй. Сапраўдны працоўны калектыў Штэльцнер параўнаў са згулянай футбольнай камандай, дзе кіраўніку зусім не абавязкова быць лепшым ігракам. Ён не форвард, а трэнер. Яго задача забяспечыць гульню іншых.

Трэба было прыехаць у Лінц, каб зразумець, чаму ў Жлобіне ў сяброўскіх футбольных сустрэчах іншаземцы спачатку часцей выйгравалі ў рабочых БМЗ. Але з цягам часу нашы сталі больш арганізаваныя, вынаходлівыя...

Да выбараў кіраўнікоў рабочымі Штэльцнер ставіцца скептычна:

— Дзе гарантыя, што выберуць самага талковага!

І сам адказвае. Вынік залежыць ад ступені сталасці калектыву: ці настроены ён на прадукцыйную працу. Калі арганізацыя дэструктыўная, летаргічная, то напэўна выберуць чалавека зручнага, які ўмее быць «добрым» для нізоў. А з «блізкімі» людзьмі абыходзяцца інакш, чым з чужымі. На рабоце гэта — «карупцыя сяброўствам». Ці справа гэта! Калі заходняя фірма працуе не эфектыўна, то адказнасць, у першую чаргу, нясе дырэктар. Але вось памылковы выбар зрабіў калектыў. Ці будуць адказваць рабочыя! У вас жа заводы не закрываюць...

Паводле думкі заходніх сацыёлагаў, толькі 6 працэнтаў людзей маюць прыроджаны талент кіраваць. Нефармальных лідэраў фірмы расшукваюць яшчэ ў школах. Памагаюць атрымаць адукацыю. Дырэктар аднаго з заводаў «Фёст-Альпінэ» Хуберт Вастл, з якім я сустрэўся ў Кіндбергу, у час вучобы ва універсітэце меў стыпендыю ад фірмы. За што быў абавязаны працаваць у ёй не менш як 5 гадоў. Пачаў з прыступкі асістэнта начальніка цэха.

З начальнікаў цэхаў і службаў у «Фёст-Альпінэ» стварaецца рэзерв на пасады дырэктараў. У гэтым сэнсе канал, што пракапаны ад Дуная да гаража фірмы, можна назваць басейнам, у якім плаваюць «залатыя рыбкі». Іх падкормліваюць. Але ў меру. Каб не тлусцелі. І захоўвалі вострае пачуццё... Якую ж вылавяць, калі вызваліцца вакансія!

Колькасць прэтэндэнтаў на кіруючую пасаду — ад 8 да 19 чалавек. Два дні яны разам удзельнічаюць у дзелавой гульні, што максімальна наближана да канкрэтнай вытворчай задачы. І пакуль адзін у ёй разбіраецца, другі, партнёр і канкурэнт, яго кантралюе. Разам з лепшым рашэннем адбіраюць самага здольнага.

Такім чынам, дырэктара ў фірме назначаюць. Аднак думку калектыву ўлічваюць. Пасля знаёмства з кандыдатам на пасаду і яго праграмай дзеяння падначаленыя запаўняюць ананімныя анкеты. У выпадку перавагі галасоў «супраць» назначэнне не зацвярджаюць. Ці бывае такое ў «Фёст-Альпінэ»!

— Так,— адказаў Штэльцнер.— Але рэдка. І толькі на адной падставе: не задавальняе ўзровень кваліфіка-



● На месцы былой пераправы цераз Дунай, у старым Лінцы, убачыў я гэтую статую. Як мне падалося, сёння яна набыла іншы, сімвалічны сэнс: усе людзі — у адной лодцы.

цыі.

З гэтым «фірменным» падыходам цяжка спрачацца, калі гутарка — пра справу. А як жа быць з тым, што называюць «чыста чалавечымі» якасцямі кіраўніка? Іх жа не вызначыш з першага погляду. Штэльцнер здзівіўся: маўляў, што за праблема? Яе і сапраўды няма. З гэтым я мусіў згадзіцца. Хоць і не адразу. Усім дырэктарам, з якімі сустракаўся, задаваў пытанне: адкуль прыйшлі яны на сваю пасаду? І што ж? Член праўлення «Фёст-Альпінэ Індустрыеанлагенбау» Геральд Фройліх пачаў тут кіраўніком аддзела амаль 30 гадоў назад. У Эрнста Штрасэра, былога канструктара, стаж работы ў фірме яшчэ большы... Наменклатурных «варагаў» не было. А тых, хто расце на вачах, добра ведаюць.

Штэльцнер лічыць, што ў БМЗ ёсць шанс дамагчыся такога ж узроўню прадукцыйнасці, як і на металургічных заводах «Фёст-Альпінэ». Трэба тэрмінова распрацаваць і паслядоўна ажыццявіць адпаведны кадравы праект. А з улікам перспектывы навучанне спецыялістаў мэтазгодна весці сумесна. Добра, дадаў ён, што ў Лінц наязджаюць ужо не толькі нашы «першыя асобы», але і гаспадарчыя кіраўнікі. Выйсці б яшчэ на ўзровень непасрэдных вытворцаў. У канчатковым ліку, на самы вышэйшы. Для справы.

Слухаць доктара, які жвава, вобразна, дасціпна выкладаў «філасофскую гаму» сваёй работы і аднačасова прыгадваў кангрэс па менеджменту ў Заходняй Германіі, адкуль толькі што вярнуўся, было цікава. І сумна. Успаміналіся зусім іншыя начальнікі «па кадрах» на нашых прадпрыемствах. Як правіла, адстаўныя вайскоўцы са стомленымі, абыякавымі тварамі... На развітанне Штэльцнер падкрэсліў, што стварыць новую тэхналагічную структуру наогул, у Жлобіне ў прыватнасці, можна, калі за праблемай не будзе губляцца канкрэтны чалавек — выканаўца праекта. Трэба даць яму шанс для развіцця дзелавых і чалавечых якасцей... Хуткі рух пасляваеннай Аўстрыі пачаўся з адмаўлення ад «вінтоўкі», якая «нараджае ўладу», і адраджэння самога чалавека.

...КАЛІ НАШЫ КІРАЎНІКІ ВЯРТАЮЦЦА з паездак на той бераг, то нярэдка скардзяцца: нам бы такіх работнікаў! Аднак зразумела, што тыя да нас — на нашу зарплату, у нашы ўмовы — не паедуць. Так што пытанне стаіць інакш: як да іх узроўню падняць сваіх? 180 спецыялістаў БМЗ, якія прайшлі кароткатэрміновую стажыроўку ў Лінцы, працуюць значна лепш. Але хіба могуць яны задаваць тон прадпрыемству, дзе 6 тысяч чалавек? А пасылаць на падрыхтоўку за мяжу астатніх заводу не па кішэні. Ці ёсць іншыя, нявыкарыстаныя магчымасці?

Я быў сведкам, як да сакратара парткома БМЗ Анатоля Бурчанава падышоў малады рабочы.

— Хачу папрацаваць за мяжой. Характарыстыку дасце?

— Дам. А куды ты паедзеш?

— А куды можна? Добра б у Аўстрыю. Яны ж да нас прыязджаюць...

Мабыць, у парткоме іншага завода такую просьбу расцанілі б як крамолу і ўчынілі «несвядомаму» праборку. Але Бурчанаў толькі паблажліва ўсміхнуўся: маўляў, наіўны чалавек. А замежны пашпарт? Віза? Хто ж табе іх выдасць? І параіў звярнуцца ў ваенкамат. Можа, пашлюць у савецкую групу войск, скажам, у ГДР.

Запытанне ж, калі задумацца, слушнае. Чалавечае жыццё нельга ўціснуць у дзяржстандарт. І хоць наша канстытуцыйнае права на працу,— хутчэй, абавязак, асноўны закон не забараняе працаваць за межамі СССР. У тым ліку, у краінах, што на стадыі развіцця, і капіталістычных. І жыхары іншых сацыялістычных краін, у якіх я бываў, напрыклад, венгры і балгары такую магчымасць маюць. Дзяржаве гэта не каштуе ні гроша, а пэўны працэнт заробку свайго грамадзяніна ў валюце яна атрымлівае.

Аднак, апрача закона, ёсць «парадак», што вызначаецца цыркулярамі, аб існаванні якіх мы часам і не ведаем. З адным такім сутыкнуўся і я, калі атрымаў запрашэнне «Фёст-Альпінэ». Нібы шлагбаум на пераездзе, дарогу перагарадзіла «квота». У інстанцыях мне растлумачылі, што на праезд туды, у заходнюю краіну, ёсць планавае абмежаванне. Штогод яно вызначаецца ў Маскве. Ліміт на Беларусь ужо вычарпаны.

Людзі ля шлагбаума нібы пра дзяржаву дбаюць: маўляў, няма чаго марна траціць валюту на пустыя замежныя ваяжы. Але я наважваўся ехаць па справе, для якой, уласна кажучы, і валюта не патрабавалася. Праўда, выпадак усё ж нетыповы: журналіста запрасілі «капіталісты»... Нехта павінен быў узняцца над застойнымі правіламі рэгулявання зносін паміж двума берагамі і ўзяць на сябе адказнасць за перавышэнне «квоты». Мая камандзіроўка адбылася толькі дзякуючы рашучай дапамозе сектара замежных сувязей ЦК КПБ.

Ну, а як быць рабочаму? Ён жа хацеў паехаць не траціць, а зарабляць. Каб, як і супрацоўнікі «Фёст-Альпінэ», на свет паглядзець і вярнуцца дадому з самай каштоўнай «валютай» — вопытам і кваліфікацыяй. Аднак у інстанцыях, бадай, яшчэ захоўваецца старая перасцярога: а ці вернецца?

Дарэчы, я спытаў у Міхельмаера, ці быў выпадак, каб супрацоўнік фірмы застаўся, напрыклад, у ЗША, дзе ўзровень жыцця вышэйшы. Не. Як не папрасіў прытулку ў Аўстрыі ніводзін са стажораў БМЗ. Хіба што потым сёй-той з іх адзначыў: нам бы такіх кіраўнікоў!

Родны дом ва ўсіх адзін. Калі ж дом еўрапейскі сапраўды агульны і ўсе ў ім — гаспадары, то павінна быць і роўная для ўсіх магчымасць па яго «калідорах» перасоўвацца. Без «квоты». А «будкі», што замінаюць руханцца — гэта пры сучасным узроўні інфармацыі! — толькі падаграюць цікаўнасць. І падштурхоўваюць іншых нашых суайчыннікаў з'ехаць назаўжды... Па дарозе ў Вену маім суседам па купэ быў аднагодак, шафёр з Чарнаўцоў, з ізраільскай візай на руках і марай асесці ў Аўстрыі альбо ў ЗША — у душы. Падстава для ад'езду падалася мне знаёмай: маўляў, хачу паездзіць на іншай «машыне». Чаму дзеля гэтага спатрэбілася адмовіцца ад свайго грамадзянства, ён так і не зразумеў.

Але не будзем хітраваць. Пакуль што рух па мосце і па берагах уздоўж яго — пытанне палітыкі. Прынамсі, так разумеюць гэта людзі ля шлагбаума. Выяўляецца сіла інерцыі нашага цяжкага ідэалагічнага «паравоза». І пакутуюць не толькі свае. «Капіталісты» таксама. У нататках са Жлобіна я прывёў думку аўстрыйцаў аб забароне для іх перасоўвання за межамі 20-кіламетравай зоны вакол Жлобіна.

Між іншым, пасля той публікацыі адзін мой калега запытаўся:

— Ты што ж, сам пра гэта з «імі» размаўляў?!

«Граніцы» ў нашых галовах — яшчэ на замку. Не забыты той час, калі каралі за «несанкцыяніраваныя кантакты». А тут — размова: у нас абмяжоўваюцца правы чалавека, да таго ж — іншаземцаў.

Якім анахранізмам «халоднай вайны» выглядаюць мясцовыя забароны адсюль, з берага Дуная, ад комплексу будынкаў ААН і «Аўстрыя-цэнтра», дзе быў распрацаваны Венскі Выніковы дакумент. Наша краіна ўзяла на сябе міжнародныя абавязацельствы, паводле якіх «зоны» — па-за законам. Апрача тых раёнаў, што закрыты па меркаваннях бяспекі і павінны быць дакладна вызначаны. У прынцыпе, іншаземцы ў Жлобіне могуць цяпер абскардзіць сваё «зняволенне» праз суд.

Змены, вядома, ідуць. Вось і «вольную» зону вакол кемпінга нядаўна пашырылі на... 10 кіламетраў. Але ў «адкрытыя» для ўсіх іншаземцаў Мінск і Гомель тым, хто працуе ў Жлобіне, па-ранейшаму няможна... Гаспадарчая неабходнасць, як і прадбачыў Ленін, усё-ткі прабівае сабе дарогу. Яна прымусіла змяніць і палажэнне аб сумесных прадпрыемствах. Зараз іх могуць узначальваць іншаземцы. Больш мажлівасцей і для «змешвання» капіталу. Тым не менш, сумеснага прадпрыемства ў Жлобіне яшчэ няма. «Фёст-Альпінэ» падтрымлівае вялікі аб'ём сувязей з нашым бокам, але — традыцыйных. Прагматычныя аўстрыйцы чакаюць, бо ведаюць, што нельга злучаць кровазваротам розныя арганізмы, пакуль адзін з іх — хворы.

Геральду Фройліху я прапанаваў такі паварот размовы: ён, бізнесмен, перяязджае цераз мост на наш бераг і кіруецца... Аднак дырэктар палічыў за лепшае паназіраць за абставінамі са свайго кабінета. Хоць новыя планы кааперацыі з намі ў «Фёст-Альпінэ» ёсць. Не толькі ў прамысловай сферы, але і ў сацыяльнай. У прыватнасці, фірма гатова будаваць і браць на сумесны баланс гасцініцы і рэстараны. Якія перашкоды? «Змешанае» прадпрыемства павінна даваць выгаду абодвум бакам. А на што можна разлічваць цяпер на нашым рынку? На паперкі, якія не забяспечаны ходкім таварам. Гэта не капітал. Развіццё камерцыйных сувязей стрымлівае неканверсаваны рубель. Фройліх гаварыў і пра цяжкасці з набыццём у нас зямлі, з атрыманнем крэдытаў, асабліва ж замінае цяганіна ў саюзных знешнеэканамічных інстанцыях. Зашмат прыступак на гэтай лесвіцы. Пакуль па ёй падымешся — збіваецца дыханне. Як можа працаваць такая сістэма наогул — для аўстрыйцаў загадка.

Фірме было б куды прасцей абысціся без няўклюдаў-пасрэднікаў, якія да таго ж бяруць немалы працэнт за «паслугі». Таму ў Лінцы ў мяне неаднойчы пыталіся аб мажлівасцях, што адкрывае пераход на рэспубліканскі гаспадарчы разлік. Ці зможа «Фёст-Альпінэ» мець справу напрасткі з гаспадарнікамі Беларусі, як робіцца ва ўсіх развітых краінах? Гэта было б і хутчэй, і выгадней для абедзвюх рэспублік, якія па прамысловаму развіццю — у блізкіх вагавых катэгорыях. Тым больш, што ёсць гатовы мост. Дый сама нейтральная Аўстрыя магла б стаць для Беларусі надзейным «мостам» да берагоў Рэйна, Сены, Тэмзы і нават Патомака... Ці правамоцная наша мясцовая ўлада наладзіць больш плённыя сувязі і, дзеля гэтага, устанавіць для фірмы льготны рэжым «руху»? Яснасці пакуль няма.

Недарэчнасць жорсткай цэнтралізацыі ў такім, двухбаковым, супрацоўніцтве кідаецца ў вочы і ў Вене. Літаральна. Ля ўвахода ў прадстаўніцтва БССР на Эрцгерцаг Карл-Штрасэ, 182, ёсць шыльда на беларускай мове, але з памылкай, якая змяняе сэнс слова,— «прадстайніцтва». Шыкоўную, з латуневым бляскам, дошку прывезлі з Масквы.

Абмежаванняў для нармальнай, звычнай на Захадзе, язды ў нас па-ранейшаму зашмат. Як нявесела пажартаваў хтосьці з маіх субяседнікаў, арганізаваць савецка-аўстрыйскі касмічны палёт — ён запланаваны на 1991 год — будзе, бадай, лягчэй, чым наладзіць сумесны рух на зямлі. У гэтым накірунку перабудова пасоўваецца так марудна, нібы і на новым шляху ўкладваюць рэйкі. Як на нядаўняй «будоўлі веку». У чым няма патрэбы. Дырэктар Фройліх ездзіць на «мерседэсе». І выбірае прыдатную дарогу. Асаблівасць сённяшняга моманту ў тым, што фірма і ўся Аўстрыя апынуліся на развілку: Усход — Захад. Апрача нашых перспектыў, адкрываюцца іншыя.

Размова аб магчымым далучэнні да краін ЕЭС, якія з 1992 года ствараюць рынак у поўным сэнсе агульны — пазбаўляюцца ад эканамічных меж. Пазіцыя аўстрыйскага ўрада, дзе ў большасці сацыялістычная партыя, вядомая: ад такога кроку чакаюць станоўчых зрухаў у гаспадарцы. А вось Фройліх глядзіць на гэты паварот з апаскай. Калі «Фёст-Альпінэ» будзе прывязана да заходняга металургічнага рынку, ці не стане яна апрацоўчым станком для іншых краін? Заклапочаны і старшыня заводскага савета Хайнц Рытэншобер. Калі прамысловы капітал аб'яднаецца ва ўсёй Заходняй Еўропе, ці захаваюць прафсаюзы свой уплыў на капітанаў бізнесу? Пакуль аўстрыйскія працоўныя ў лепшым становішчы, чым, напрыклад, англічане або італьянцы.

Хоць абодва распарадчыкі фірмы — члены кіруючай партыі, яны выказалі сваю, асабістую, думку: ёсць іншыя шляхі дзейснага развіцця гаспадаркі Аўстрыі. Сярод іх — мост на наш бераг. І «Фёст-Альпінэ» гатова наладзіць па ім бесперапынны рух. Справа за нашым бокам, дзе рэформы ў эканоміцы — на паўдарозе да моста. «Рулявыя» сказалі А, але ніяк не могуць вымавіць Б. Нібы спадзяюцца, што неабходнасць зробіць гэта «сама». Вось бы дзе скарыстаць нашу «ведавочную» перавагу: магчымасць свядома і мэтанакіравана змяняць эканамічную структуру. Трэба развярнуцца і рушыць насустрач адзін аднаму. Каб гаспадарчыя машыны не раз'ехаліся. Праміну́ць жыццёва важны паварот — значыць апынуцца ў пагібельным тупіку...

Праўда, на мой погляд, замарудзіла на жлобінскім віражы і «Фёст-Альпінэ». Больш паваротлівы ў выкарыстанні мясцовых магчымасцей — малодшы партнёр-субпадрадчык «Хабау Хох унд Тыфбау». З тэхнічным дырэктарам гэтай фірмы Хельмутам Вольфам я выпадкова сустрэўся ў прадмесці Лінца. І той расказаў пра нядаўні кантракт. Аўстрыйцы давеdаліся, на якім узроўні працуе «БелАЗ», і зразумелі, што няма сэнсу перакідваць грузавікі-самазвалы на будпляцоўку 3-й чаргі БМЗ з-за мяжы. Больш выгадна заарандаваць іх у нас. У выніку грабарскія работы выкананы датэрмінова. Вольф высока ацаніў і машыны, і нашых вадзіцеляў.

І яшчэ аб адной нечаканай сустрэчы. Са старым знаёмым, «бургамістрам» кемпінга. Фрыдрых Фрыш ужо вярнуўся дадому. Я памятаў, як яго 5-гадовы сын пры знаёмстве ў Жлобіне бліснуў веданнем новай для сябе мовы:

— Мяне завуць Томас. І я... нежанаты.

Як пажывае зараз «халасцяк»? Фрыш усміхнуўся. І сказаў, што сын часам сумуе па сваіх, такіх жа вольных, аднагодках, дзецях рабочых БМЗ, разам з якімі ўдзельнічаў у фестывалі мастацкай самадзейнасці.

...УСЕ, З КІМ СУСТРАКАЎСЯ я на тым беразе, шчыра жадаюць поспеху нашай перабудове. І лічаць сваім абавязкам ёй памагчы. Здавалася б, навошта гэта «капіталістам»? За час паездкі зразумеў, што нашы змены цесна звязаны з інтарэсамі аўстрыйцаў. І не толькі камерцыйнымі. Жыхары гэтай краіны лічаць за лепшае мець сытага і шчаслівага суседа.

Апроч эканамічных, на абодва берагі накочваюцца прыліўныя хвалі іншых «паралельных» праблем — экалагічных і дэмаграфічных. Скіраваць іх у патрэбнае рэчышча можна толькі супольна. Пакуль гэтаму замінае трафарэт, паводле якога зямля непапраўна раз'яднана на «два светы — дзве сістэмы». Як быццам працаўнікам на розных берагах ад гэтага лягчэй... Ідэалагічныя завіхрэнні бясплённыя. Неабходнасць і здаровы сэнс накіроўваюць ідэі і людзей насустрач адзін аднаму.

На праблемы ўзаемных зносін паміж Аўстрыяй і Беларуссю, вядома, патрэбен погляд «пад мікраскопам». Але, бадай, не менш — «з космасу». Як пры тэлемастах. Тады лепш заўважаецца: берагі розныя — зямля адна. І рэкі на ёй — ці Днепр, ці Дунай — толькі сасуды «кровазвароту» ў адзіным прыродным арганізме. Такімі ж «сасудамі» для гаспадарчага арганізма становяцца масты паміж дзяржавамі і народамі.

Будпляцоўка БМЗ — месца, дзе назапашваецца унікальны вопыт якасна новага міжнароднага супрацоўніцтва. Тут «гарачы мір» пасля «халоднай вайны». Не ручаюся за дакладнасць вызначэння, але яно звязана з тэхналагічным працэсам «ЛД», які выкарыстоўвае «Фёст-Альпінэ». Метал насычаюць кіслародам у гарачым стане. І атрымліваюць трывалую сталь, прыдатную для будаўніцтва новых мастоў. Цяпер яе выплаўляюць і ў Лінцы, і ў Жлобіне. А ў працэсе вытворчасці ўзбагачаюцца «кіслародам» адносіны людзей з розных грамадскіх сістэм.

Мост паміж двума берагамі ўжо дае немалы плён. Яшчэ больш значным ён можа стаць заўтра. Калі будзе ўдасканалена сумесная мадэль гаспадарчага механізма — без канструкцыйных недахопаў, што ёсць у машынах і з аднаго, і з другога боку. Калі ўсе жыхары Еўропы ўцямяць, што агульнага ў іх больш, чым таго, што раз'ядноўвае. Калі падрастуць новыя «вадзіцелі», што пераадолеюць логіку паасобнага руху — «дагнаць і перагнаць» — на сваіх берагах. І павядуць свой «экіпаж» у тым накірунку і з той скорасцю, якой патрабуюць знакі часу.

Тады пачнецца чарговы раздзел тэмы — «сумесны рух». І хоць вызначэнне наперад, як паказвае прыклад класіка,— занятак няўдзячны, памарыць так хочацца... Імчыць новая «птушка-тройка». Але ніхто не касавурыцца, не саступае ўбок. Усе народы — у адной запрэжцы. На адной, як назваў яе М. С. Гарбачоў, «агульначалавечай дарозе». Грукацяць масты. І застаецца ззаду застойнае, дрымотнае жыццё па стандарту, які спусташае душы.

Хто ж не любіць шпаркай язды?!

Заканчэнне.
Пачатак на 6-й стар.

Нікчэмны дармаед, вядома, далёка не заўсёды становіцца забойцам, рабаўніком або гвалтаўніком. І, вядома, не за кошт вечна п'яных абібокаў у нас так узрасла жорсткасць, абвастрыўся цынізм, павялічылася сама колькасць цяжкіх злачынстваў.

Некаторыя юрысты пры размове аб сённяшнім росце злачыннасці сцвярджаюць, што нельга, маўляў, браць «лічбы» за 3 або 5 гадоў і рабіць на іх падставе вывады. Працэсы гэтыя глыбокія, складаныя, працяглыя... Трэба браць статыстыку за 10—15 гадоў. І тады становіцца зразумела: нічога катастрафічнага не адбываецца.

Так, нічога надзвычайнага і на самай справе не назіраецца. А назіраецца ў апошнія гады рост злачыннасці. І вялікі рост у параўнанні з сярэдзінай васьмідзесятых гадоў. А ў параўнанні з некаторымі ранейшымі гадамі (пікам застою) гэты рост зусім нават не рост, а — «паўтарэнне мінулага», «чарговая хваля».

Але давайце возьмем статыстыку нават не за 15, а за 20—21 год. І тады высветліцца наступнае:

— у 1967 годзе наўмысных забойстваў па БССР было зарэгістравана 153, летась — 348,

— цяжкіх калецтваў, якія выклікалі смерць, 21 год назад зарэгістравана 358, летась — 940;

— карыслівых злачынстваў тады было выкрыта 10.000, цяпер — 30.000;

— разбойных нападаў і рабаўніцтваў — адпаведна 635 і 2.250;

— дарожных здарэнняў з ахвярамі і раненнямі — 940 і 2.900.

Прынамсі, усё гэта можна было выказаць і намнога карацей: за 1967 год у рэспубліцы здзейснена 27 тысяч вельмі сур'ёзных злачынстваў, у мінулым годзе — 50 тысяч.

Тысячы асуджаных! І сярод іх — 19 былых супрацоўнікаў міліцыі... Трыццаць пяць працэнтаў усяго «насельніцтва» калоній цяпер — людзі ва ўзросце да 25 гадоў, больш як 20 працэнтаў злачынцаў — жанчыны. У 1984 годзе іх было яшчэ толькі 16 працэнтаў.

1.400 чалавек летась скончылі жыццё самагубствам. Пра іх мы нічога не чуем, нічога не ведаем пра тыповыя матывы іх добраахвотнага развітання з жыццём. А паўтары тысячы чалавек — гэта страшная для нашай дзесяцімільённай рэспублікі колькасць ахвяр.

Нам перыядычна паведамляюць, што людзі топяцца ў вадзе і гінуць у час пажараў. Але хто ведае аб рэальных маштабах гэтых «будзённых» трагедый?

700 людзей патанула, 350 — загінула на пажарах у 1988 годзе.

650 чалавек атруціліся рэчывамі, якія ўтрымліваюць спірт...

Але дастаткова, напэўна, лічбаў, фактаў і каментарыяў.

Скажу толькі ў самым канцы гэтых нататак: магчыма, менш было б у нас цынізму, падманнага аптымізму і ханжаства, калі б грамадства рэгулярна атрымлівала інфармацыю пра тое, як мы ўсе жывём, як часта ломяцца лёсы і як часта грукае некаму ў дзверы заўчасная смерць...

Поўная, зусім **несакрэтная** інфармацыя пра тое, аб чым мы прыvыклі гаварыць толькі на кухнях, павінна станавіцца ўсё больш даступнай, зывыклай, павінна на поўную сілу працаваць на абнаўленне, на прагрэс, на стварэнне прававой дзяржавы.

**Валерый ЛАПІН.**

# ПАЭЗІЯ

**Мая ЛЬВОВІЧ**

## *Памяці В. Бечыка*

Астрашыцкі Гарадок
І Прылукі.
Твой выток і твой грудок.
Ад сустрэчы толькі крок
Да разлукі.
Толькі ясны успамін
Пра світанне.
Караліщавічы... Мінск...
Ад спаткання толькі міг
Да расстання.
Міг ад белага лістка
На мяжы красавіка —
Мая
Да асенняга званка.
Толькі міг, бы звон струмка.
А плыве, плыве рака,
Не мінае.

◘ ◘ ◘

Не падняцца, не ўбачыць прамень.
Ды якісь гарлавы гук
Прабіваецца да мяне.
Віцюг?
Магілёўшчына — блізкі свет,
Блізкі свет — Высокі Барок,
Які птаха з шызым пяром
Віцюгом называе адвек.
Гэта ж мераў якую даль,
Каб я сонца сустрэла,— віцюг!
У Высокім Барку згадаў
Друг.

◘ ◘ ◘

Далёкі погук зноў лаўлю.
Ён знаны, родны ён да краю.
Я пазыўныя пазнаю
Твае, мой ціха-белы краю.
Пачуеш, даляціць прывет —
Усё, што берагу ў душы я,
Табе, расяная шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет.

**Віктар ЯРАЦ**

◘ ◘ ◘

Ад пірамід егіпецкіх, ад Ніла,
ад афрыканскай жоўтай нематы
Радзіма ў шлях пакліча — стане мілым
і холад родных гнёздаў і вады.
Страсаюць крылы пыл заморскі долу.
І хоць смугой спавіты далягляд,
а вырай чуе промняў спеў вясёлы
і радасць пругкіх крылаў птушанят...

◘ ◘ ◘

Два полюсы: сустрэча і расстанне.
Між іх жыву і знаю, што заўжды
ёсць недзе шлях — неразгаданай тайнай,
як рэчак непярройдзеных брады.

Ёсць недзе погляд: ад яго світанне
на ўсе свае вызвоньвае лады.
Два полюсы: сустрэча і расстанне.
І рэчак непярройдзеных брады.

◘ ◘ ◘

За ноч лядком зацягне лужыны,
укрые іней гулкі дол.
І каласком неабцярушаным
прагляне промень-навасёл.
Ахрыплым голасам світальную
абудзіць плынь глыбокіх вод
між берагоў з маўклівай тайнаю
буксірны катэр-цеплаход.
І далячыні — зноў агучаны.
Зямной даручаны красе,
зноў промень коласам над кручамі
надзеі спеліць пакрысе.
Як добра ўсё-ткі слухаць музыку
зямлі і неба ў ранні час,
калі дымок так ціха кружыцца,
нібы баіцца дзень пачаць...

**Антон ПІЛІПЧЫК**

◘ ◘ ◘

Зноў сцежкай роснаю праз жыта
Імчуся ўдалеч, нібы птах,
І што трывожыла — забыта.
Я дома тут, а не ў гасцях.
І п'ю бальзам крыніц гаючы,
Дзіўлюся песні жаўрука.
Прасцягі любай Беларусі
Зіхцяць у сініх васільках.

**Алесь СТАВЕР**

## *У родным краі*

Жыў я надзеяй адзінай,—
Дзе б сваё шчасце спаткаць,—
Стрэціцца з мілай дзяўчынай,
Сэрцам яе пакахаць.

Многа прайшоў я па свеце,
Многа пабачыў людзей,—
Толькі кахання не стрэціў,
Мілай не стрэціў нідзе.

Тут мне здалося ўсё родным,
Нібы я жыў тут і рос.
Сэрца мне кажа лагодна,—
Тут маё шчасце, мой лёс.

## *Дзявочая жартоўная*

Ты цвіці, мая рабіна,
Ды прылужная.
Я вясёлая дзяўчына,
Незамужняя.

Ды ад хлопцаў ледзь не плачу,—
Бессардэчныя.
Харасва майго не бачаць,—
Недарэчныя!

Той, хто стане маім мужам,
Не пакаецца.
Мне Андрэй-механік дужа
Падабаецца.

Я характарам такая,
Не манерная.
Калі сэрцам пакахаю,—
Буду верная.




***экет у рэспубліцы ёсць. Ён ёсць у Мінску. Вядомы выпадак, калі група злачынцаў мела аўтамабіль, радыёстанцыю, форму работнікаў міліцыі і шыбеніцу ў лесе. Рэкеціры «запрашалі» ў машыну сваю ахвяру, везлі чалавека за горад, надзявалі яму на шыю пятлю і прапаноўвалі плаціць за жыццё... Вядома, з рэкетам мы будзем весці рашучую барацьбу.— Вось так нядаўна ў час сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй у Доме літаратара адказаў на маё пытанне аб вытанчанай і новай форме вымагання міністр МУС БССР В. А. Піскароў.***

*З'явіўся рэкет, з'явіліся і «маякі» агіднай «прафесіі запалохвання і кулака». Хто яны? У народзе гавораць — учарашнія спартсмены, людзі з трэніраванымі мышцамі, але атрафіраванымі сумленнем, душой.*

*Спорт, высакародства, фізічная культура і разам з тым «рэкорды» мінскага рэкету сталі тэмай нашай гутаркі з намеснікам начальніка ўпраўлення крымінальнага вышуку сталіцы рэспублікі Валерыем ПЯХОТАЙ. Першае, што мяне цікавіла, было наступнае:*

— Пра рэкет шмат размоў, чутак. А пра судовыя працэсы над вымагальнікамі, якія старанна робяць раніцай зарадку і нарошчваюць стальныя біцэпсы, нешта не чуваць... Чаму?

— Хаця б таму, што тыя, хто падазраецца ў рэкеце, працягваюць, як правіла, заставацца на свабодзе і пацярпеўшыя «легкадумна» адмаўляюцца ад сваіх паказанняў.

— Гэта трэба разумець так: сёння — умоўна — старшыня кааператыва прыходзіць і гаворыць аб пагрозах, аб патрабаваннях нейкіх канкрэтных людзей плаціць ім за «спакойнае жыццё», за «ахову» кафэ, відэабара або майстэрні. Работнікі міліцыі знаходзяць вымагальнікаў, пачынаецца разбор, задаюцца пытанні... Але пасля такіх першых размоў са следчым рэкеціры ўсё роўна ідуць «да суда» на ўсе чатыры бакі, а не пад варту. Толькі куды яны — па логіцы — у першую чаргу накіроўваюцца? Дамоў? Не. Відавочна, што спяшаюцца да таго ж старшыні кааператыва і «настойліва» раяць забраць «паперу». Вось ён (жыццё ж адно) і забірае сваю заяву. Пачынае плаціць, прымае «ўмовы». Ён — згодны, ён зламаны. І — што? Няма следства і няма суда, лепшыя лічбы ў графе «рост злачыннасці». Усім добра? Добра толькі рэкету — ён адчувае беспакаранасць, становіцца больш нахабным, набірае сілу. Я памыляюся?

— Усё правільна. У мінулым годзе ў горадзе былі ўзбуджаны і... спынены чатыры крымінальныя справы «аб рэкеце». Калі мы сталі праводзіць ананімнае анкетаванне старшынь кааператываў па праблеме вымаганняў, то з 386 старшынь 100 наогул адмовіліся браць аўтаручку ў рукі.

— Так страшна напалоханыя?

— Асобныя, без сумнення, напалоханыя. Але і яшчэ — не вельмі, відаць, вераць у магчымасць эфектыўнай барацьбы з рэкетам сіламі міліцыі.

— Вымаганне і рэкет — гэта ж, трэба прызнаць, сёння не сінонімы. Розныя паняцці... А мы да гэтага часу не правялі паміж імі «граніцы»...

— Так, пакуль караем рэкеціраў за вымаганне. Пакаранне можа абмяжоўвацца нават штрафам да 400 рублёў...

— Так усюды па Саюзе?

— Не. У РСФСР, напрыклад, за рэкет злачынца можа атрымаць 10 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. У нашым Крымінальным кодэксе такога артыкула пакуль няма.

— Заканадаўства павінна ўдасканальвацца...

— Вядома. Але не занадта марудна. Ва ўсякім выпадку, даўно ўжо ясна: рэкет развіваецца, ён жорсткі і ў яго страшны апетыт. І яго, як ваўка мышалоўкай, напалохаць штрафам, папраўленчымі работамі да 2 гадоў або нават трыма гадамі пазбаўлення волі немагчыма.

— Не ўпэўнены, што прыйшоў да правільнага вываду, але ў мяне склалася ўражанне: гуманізацыю грамадства, яго прававых інстытутаў многія вашы, Валерый Аляксандравіч, калегі ўспрынялі неяк дзіўна. Пракуроры пачынаюць баяцца самога слова «арышт», афіцэры міліцыі цяпер стараюцца так ветліва і асцярожна абыходзіцца з прадстаўнікамі злачыннага (падкрэсліваю — злачыннага) свету, што ў кааператараў, напрыклад, зацвердзілася перакананне: юстыцыя з рэкетам «павязана», следчыя і ўсе «аператыўнікі» крымінальнага вышуку альбо баяцца «мафіі», альбо самі ў яе ўваходзяць.

— Крыўдна, вядома, такое чуць. Але я ведаю аб гэтых чутках. Нічога падобнага — заяўляю з усёй адказнасцю — няма. А ёсць, сапраўды з'явіліся парасткі зусім не таго «лібералізму», які дапамагае станаўленню і развіццю прававой дзяржавы.

— Існуе гуманнасць і «гуманасць». Ці ж гуманна ў адносінах да ахвяры рэкету з'яўленне ў яго кватэры раз'юшанага пасля сустрэчы з міліцыяй вымагальніка, які «пераконвае» не даводзіць справу да суда і падпарадкавацца «праву моцнага»?

— На Камароўскім рынку арыштавалі аднаго раней судзімага мінчаніна. Ён нідзе не працаваў, займаўся рэкетам. Цяпер будзе суд... Дарэчы, рашэнне аб арышце вымагальніка прыняў новы пракурор Савецкага раёна горада Пётр Іванавіч Іваненка.

— Пачынаеце больш рашуча «ваяваць» з «новай злачыннасцю»?

— Менавіта так.

— У рэкеціры «паступаюць» учарашнія спартсмены...

— Галоўным чынам — яны.

— А хто яшчэ?

— Былыя спартсмены групуюцца з раней судзімымі.

— Рэкеціры размяркоўваюць «сферы ўплыву»?

— Так. Ёсць такая тэндэнцыя. Зрэшты, яна і не магла не з'явіцца, бо злачынцы, як правіла, патрабуюць грошы за «ахову» і гэтую «паслугу» яны заўсёды вымушаны аказваць. Інакш «іх» грошы пачнуць атрымліваць больш моцныя канкурэнты.

— Рэкет сустракае супраціўленне ад тых, на каго накіраваны?

— Вядома. Прыклады патрэбны? Бармен рэстарана «Папараць-кветка» адмовіўся плаціць, вельмі цвёрда адмовіўся.

— Але вам адкуль гэта вядома? Яму адпомсцілі?

— Яму аўтамашыну пашкодзілі...

— Зразумела. А кааператывы звяртаюцца сюды за абаронай?

— Звычайна не прама сюды, ва УКВ, а — у райаддзелы міліцыі. Вось нядаўна старшыня аднаго з кааператываў Савецкага раёна прасіў агарадзіць яго ад вымагальнікаў. Такая работа намі праведзена.

— Цяпер многія аўтааматары займаюцца прыватным возніцтвам. Ведаю, ужо было некалькі забойстваў, вадзіцеляў грабілі...

— Сістэмы рэкету на транспарце няма. Але выпадкі забойстваў, вымаганняў — не адзінкавыя. Праўда, тут трэба шчыра сказаць: пацярпеўшымі часцей за ўсё становяцца тыя гаспадары асабістых «таксі», якія за вялікія грошы гатовы ехаць куды давядзецца і з кім давядзецца, якія прадаюць ноччу гарэлку, аказваюць іншую «дапамогу» выгадным кліентам. Дарэчы, днямі мы правялі рэйд і выявілі 16 выпадкаў спекуляцыі спіртным: «прыватнікі» падхапілі не лепшую традыцыю вадзіцеляў таксі.

— Прасцей кажучы, стаць пацярпеўшым ад рэкеціраў больш верагоднасці ў тых, хто сам не святы перад законам.

— Правільна. Рост рэкету ў рэспубліцы і пачаўся з таго, што некаторыя першыя кааператывы ўсялякімі «левымі» шляхамі сталі «рабіць» вялізныя грошы. А першыя рэкеціры сталі іх шантажыраваць.

— Так, калі тыя ж самыя кафэ, піражковыя, буфеты былі дзяржаўнымі — аб рэкеце і размоў не было. Ніхто да прадаўшчыцы беляшоў і сёння не падыходзіць з прапановай падзяліцца выручкай...

— Я разумею, пра што вы хочаце запытаць. Але гэта ўжо асобная і вялікая размова.

— Згодзен. Дык вось, раней за ўсіх у кааператыўны рух пайшлі дзялкі. Яны хутка сталі асабліва забяспечанымі людзьмі. А там, дзе з'яўляюцца такія вельмі багатыя, але не вельмі сумленныя «дзелавыя людзі»,— там і рэкет атрымлівае прапіску.

— У агульных рысах — правільная «схема».

— Вы можаце даць сацыяльны партрэт мінскага рэкеціра?

— Калі ласка. Узрост — 20—30 гадоў. Хутчэй за ўсё, нідзе не працуе. Натуральны дармаед, але за дармаедства цяпер пакараць практычна немагчыма: ён можа «збіраць бутэлькі» (грамадска карысная справа), можа дапамагаць старым бацькам дома, жыць на спадчыну... Зрэшты, рэкецір часам усё ж недзе працуе. Напрыклад, вартаўніком. У мінулым ён быў цяжкаатлетам або баксёрам, займаўся самба або веславаннем на байдарках — канкрэтны від спорту тут вызначыць нельга. Галоўнае, што ў хлопца былі нейкія поспехі, перспектывы, надзеі на медалі і кубкі. Потым гэтыя надзеі зніклі. Ён не стаў чэмпіёнам, рэкардсменам, проста вядомым майстрам спорту. А быць радавым фізкультурным работнікам (з той зарплатай, якую яны атрымліваюць) гэты моцны, малады, славалюбівы юнак не захацеў. Спорт зрабіў з яго спрытнага і мускулістага чалавека. Але ён не даў тое, дзеля чаго **на самай справе** ён шмат гадоў хадзіў на трэніроўкі: ні матэрыяльнага багацця, ні апладысментаў. І вось гэты юны атлет сустракае «разумнага» новага «сябра», які ласкава ляпае яго па шырокім плячы і пранікнёна гаворыць: стаць чэмпіёнам рэкету, маўляў, нават больш прыемна, чым чэмпіёнам рэспублікі...

— Мы так шмат гаворым аб тым, што спорт ледзь не аўтаматычна робіць людзей высакароднымі, мужнымі, загартоўвае волю... Усё гэта, вядома, правільна. Але нельга не памятаць: спорт толькі **садзейнічае** развіццю і цела, і характару. Прычым цела развівае абавязкова, а вось такія рысы характару, як сумленнасць, душэўнасць або прынцыповасць — неабавязкова. Ужо не здаюцца сенсацыйнымі паведамленні аб выпадках крадзяжоў, п'яных боек, крывадушнасці і разнастайных звадак, падманаў нават на самай вяршыні нашага спартыўнага Алімпа. Кааператары гандлююць фатаграфіямі не нашых «зорак» хакейных пляцовак або тэніса — здымкі невядомых культурыстаў ахвотна купляюць падлеткі. У пачатку дзесяцігоддзя нам давялося — па вядомых прычынах — забараняць заняткі каратэ. Але ці ж гэты старажытны і папулярнейшы ва ўсім свеце від спорту вінаваты ў тым, што днём хлопцы займаліся ў секцыях, а вечарамі «трэніраваліся» ў цёмных дварах, збівалі прахожых, забіралі грошы і рэчы? І ці ж сёння няма дзіцячага рэкету ў нашых школах, дзе больш моцныя прымушаюць аднакласнікаў аддаваць ім грыўні, маркі, значкі?

— Хваробы грамадства — хваробы агульныя і для завода, і для арміі, і для школы, і для спорту...

— Трэба нешта ўмярцвіць у сваёй душы, каб, гледзячы чалавеку ў вочы, пагражаць яму збіццём, гвалтаваннем дачкі, смерцю і патрабаваць «па праву моцнага» яго рэчы, яго грошы. Рэкет прагрэсіруе. Значыць, у нас усё больш цынічных і жорсткіх прыхільнікаў «закону джунгляў».

— Так, наогул жорсткасць і дзёрзкасць злачынстваў становіцца неверагоднай... Гэта якраз тыя «плады», якія завязаліся ў атрутным паветры застою.

— Як абараніцца ад рэкеціраў?

— Некаторыя старшыні кааператываў стараюцца ў адзіночку альбо неяк абараняцца, альбо танней адкупіцца. Іншыя ахвяры рэкету ўжо ўсур'ёз спрабуюць узброіцца, каб даць «апошні і рашучы» бой. У выніку, без сумнення, «бой» яны самі не выйграюць, а вось на лаву падсудных за свае арсеналы трапяць хутка. Ні купіць «індульгенцыю» ў рэкеціраў, ні знішчыць іх у кааператараў не атрымаецца. Проста трэба працаваць у кааператыве так, каб не баяцца звярнуцца ў міліцыю за дапамогай. І звяртацца да нас пры першым «візіце» рэкеціраў. А сваю барацьбу з імі мы будзем весці ўсё больш умела, рашуча і — шырока. Гэта я вам «па сакрэту» кажу.

Дарэчы, літаральна ўчора пяцёра нашых супрацоўнікаў пад камандай старшага оперупаўнаважанага маёра міліцыі Мікалая Васільевіча Гурыновіча і оперупаўнаважанага старшага лейтэнанта Мікалая Сяргеевіча Кутасевіча затрымалі ўзброеную банду рэкеціраў, сярод якіх было трое спартсменаў — каратыстаў. Яны на працягу 15 дзён вымагалі 500 рублёў ва ўладальніка новенькай «Волгі». Гаварылі: «Грошы на машыну знайшоў? Знайшоў. Знойдзеш і для нас». Чалавек своечасова звярнуўся да нас за дапамогай. У злачынцаў былі пісталеты, адна граната, вінтовачны абрэз, некалькі балончыкаў з газам нервова-паралітычнага дзеяння. Але пусціць у ход зброю яны не паспелі...

— Дзякую за гутарку.

# ЧЭМПІЁНЫ РЭКЕТУ

Гутарку вёў Валерый ЮР'ЕЎ.

СЛУЖБА



ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

**МЯНЕ ЗАВУЦЬ АГНЯН**

Так, не здзіўляйцеся гэтаму незвычайнаму для беларусаў імені. Па нацыянальнасці я балгарын. Жыву ва ўласнай кватэры ў цэнтры Сафіі. Мне 30 гадоў. Маю вялікае жаданне пазнаёміцца, пасябраваць з дзяўчынай з Беларусі. У мяне вышэйшая інжынерна-будаўнічая адукацыя, працую ў інстытуце. Я не жанаты. Не куру і не ўжываю алкаголю. У вольны час люблю хадзіць у тэатр ці кіно, на канцэрты. Мне вельмі падабаюцца рок-музыка, а таксама музыка ў стылі «кантры» і «дыска». Люблю спартыўныя танцы, мадэрны балет, аэробіку, тэніс, футбол, валейбол. Цікаўлюся англійскай і славянскімі мовамі, добра валодаю рускай. Што яшчэ сказаць пра сябе? Мой рост 189 см, вага 80 кг, валасы — цёмна-русыя, вочы — пярэстыя. Мне могуць пісаць усе дзяўчаты з Мінска ці іншых гарадоў Беларусі, а таксама з Прыбалтыкі, незалежна ад іх нацыянальнасці, ва ўзросце ад 17 да 24 гадоў, незамужнія, са статнай спартыўнай фігурай, з шырокім колам інтарэсаў, інтэлігентныя, добразычлівыя. Пісьмы чакаю на адрас: Народная Рэспубліка Балгарыя, г. Сафія — 1000, вуліца «Любена Каравелава», № 21, Агняну Георгіеву.

**А Ў НАШЫМ НЕВЯЛІК-ГАРАДКУ**

Дарагая «Узаемадапамога»!

Ты пасяляеш у сэрцах людзей надзею на сустрэчу з добрым сябрам. У вялікім горадзе гэта прасцей. Шмат людзей — шмат знаёмстваў. А ў нашым невялік-гарадку мала людзей і ніякай надзеі. Больш як дзесяць гадоў я — адна. Мары мае зусім не збыліся. І жыць стала нецікава. А можа мне хто са старэйшых ці аднагодкаў напіша? Дапамажыце, сябры!

**Э.,** 43 гады. (203).

**БУДУ НАДЗЕЙНЫМ І ВЕРНЫМ**

Мне 29 гадоў, не п'ю і не куру, маю вышэйшую адукацыю. Так здарылася, што на службе страціў нагу. Быў жанаты, але ў цяжкую хвіліну жонка не стала надзейным сябрам і здрадзіла.

Хачу пазнаёміцца з жанчынай ва ўзросце да 27 гадоў, не супраць, калі яна з дзіцём, з мэтай стварыць моцную сям'ю. Ёсць усе ўмовы для сумеснага жыцця. Буду надзейным і верным. А пакуль чакаю пісьмаў. Адкажу на кожнае з іх. Хацеў бы атрымліваць іх з фатаграфіямі.

220117, г. Мінск,
вул. Бялецкага, д. 4, кв. 8,

**АЛЯКСАНДРУ.**

**ЛЮБЛЮ ДАБРО І НЕНАВІДЖУ ЗЛО**

Звычайнай сціплай жанчыне, якая працуе ў жаночым калектыве, цяжка пазнаёміцца з прыстойным мужчынам да 33 гадоў. Адгукніцеся, дужыя і добрыя мужчыны, якія жадаюць і не маюць пакуль сямейнага ачага. Мне 26 гадоў, рост 160 см, адукацыя вышэйшая. Люблю дабро і ненавіджу зло. (204).

**ЛЮДМІЛА.**

**МЫ ВЕРНЕМСЯ Ў ВАША ЖЫЦЦЕ...**

Піша вам чалавек, які знаходзіцца ў месцах пазбаўлення волі. Я выпісваю часопіс «Беларусь», сачу за яго матэрыяламі, у прыватнасці, за работай «Службы ўзаемадапамогі». Я разумею, што ўсіх аб'яў вы надрукаваць не зможаце, а тым больш ад такіх аўтараў, як я. Але надзеі не страчваю.

Вельмі цяжка цяпер сустрэць чалавека, які б ставіўся да нас з разуменнем. Большасць лічыць, што ў гэтых месцах знаходзяцца не людзі, а нейкія звяры, што нас ужо нішто і ніхто не перайначыць, не выправіць. Але гэта не так. Хаця, канечне, цяжка застацца чалавекам за шчыльным плотам нянавісці і адчужэння. Але ж мы ўсе вернемся да вас, вернемся ў ваша жыццё, і вы, усе, хто на волі, павінны больш дбаць пра тое, якімі мы вернемся.

Цяпер пра нас сталі шмат пісаць, сёе-тое зрушылася ў лепшы бок. Але ўсё роўна ў прапісцы нам часта адмаўляюць, на добрае прадпрыемства нас не бяруць, каб не псавалі маральную атмасферу. Ходзяць, ходзяць людзі, і ўсё безвынікова. Хаця вынік ёсць: новыя злосць і нянавісць. Бо чым я горшы за іншых? Тым, што спатыкнуўся. Дык я ж ужо прыняў за гэта кару. Навошта ж катаваць мяне ўсё жыццё? І нядзіўна, што многія зноў трапляюць сюды.

Быў бы вельмі рады перапісвацца з жанчынамі, якія разумеюць мой унутраны боль, мае пакуты. Няхай нават у іх будуць дзеці. Вельмі хочацца жыць, жыць на волі, ведаць, што ты некаму патрэбен, што цябе нехта чакае. Мне 28 гадоў, беларус. Па прафесіі механізатар, у гаспадарцы магу рабіць усё. «Сядзець» застаўся год. Чакаю і веру... (205).

**МІКАЛАЙ.**

**НАПІШЫ МНЕ ПІСЬМО...**

Вельмі люблю пісаць і атрымліваць пісьмы. Прапаную тым, хто цікавіцца творчасцю Высоцкага, любіць сучасную музыку, захапляецца разгадваннем красвордаў, займаецца спортам, любіць гумар, напісаць мне. Апроч таго, люблю танцаваць, пець, а ў вольную часіну вязаць. Інтарэсы ў мяне самыя разнастайныя, магу пагаварыць з вамі на любую тэму. Чакаю лістоў!

Працую ў бібліятэцы, 19 гадоў. (206).

**АЛЕНА.**

**ЗА ЧЫСЦІНЮ Ў ДУШЫ І ВАКОЛ!**

Маю 48 гадоў. Беларус. Па адукацыі — гуманітарый. Жыве ў маёй душы цяга да ведаў, справядлівасці, прыгажосці, дабрыні. Стаю за чысціню і парадак у душы і вакол. Буду рады пазнаёміцца з жанчынай «маёй арыентацыі», але не старэйшай майго ўзросту. (207).

**М. С.**

**ПАРАІЎ СЫН**

Мой сын выпісаў ваш часопіс і, атрымаўшы свежы нумар, падаў яго мне, паказаў «Службу ўзаемадапамогі». Напішы, кажа з усмешкай. Я крыху падумала і вырашыла прыслухацца да парады сына.

Крыху пра сябе. Разведзеная. Мне 39 гадоў. Адукацыя сярэдняя спецыяльная. Рост 169 см. Буду рада пазнаёміцца з прыстойным мужчынам. Адукацыя і спецыяльнасць значэння не маюць. Жыву ў Мазыры. Асоб без пэўнага месцажыхарства прашу не пісаць. Завуць мяне **НІНА.** (208).

**З ГВАРДЗЕЙСКІМ ПРЫВІТАННЕМ!**

Добрую ты справу робіш, «Узаемадапамога»! Вырашыў звярнуцца да цябе і я. Жыву на Брэстчыне, у вёсцы. Мне 50 гадоў. Працую механізатарам. Жыву разам з бацькам, якому 96 гадоў. Ёсць дом і вялікі сад. Праўда, дому патрабуецца нязначны рамонт. Быў судзімы, адседзеў тры гады. Жонка сышлася з другім і некуды з'ехала. Пяць гадоў я ўжо не п'ю і не куру. Раней было мора сяброў. А як кінуў піць, ніхто з іх не прыходзіць. Затое цяпер я адчуваю сябе чалавекам. Цяжка вось толькі жыць без жонкі, без гаспадыні.

Хочацца знайсці жанчыну адпаведнага ўзросту, каб і мне сябрам была, і дапамагла даглядаць старэнькага бацьку. Ён яшчэ адносна дужы, ходзіць, не хварэе. Дапамажыце, таварышы, я яшчэ бравы чалавек, раней служыў у гвардзейскім экіпажы Балтфлоту, а туды заморкаў не бяруць. (209).

**РЫГОР.**

<u>**Дзякуй за дапамогу**</u>

* * *

Вельмі ўдзячны ўсім, хто адгукнуўся на маю сціплую споведзь. Я атрымаў столькі шчырых лістоў! І вось на адным з іх засяродзіў асаблівую ўвагу. Мы пэўны час перапісваліся, а потым сустрэліся. Я знайшоў сваё вялікае шчасце, шчырае каханне. 4 лютага мы пажаніліся. Не знайду слоў, каб падзякаваць усім супрацоўнікам рэдакцыі. Няхай не крыўдуюць тыя, каму я не адказаў. Не губляйце веры і надзеі. Дзесьці і вас чакаюць шчасце і вялікае каханне. (146).

* * *

Дарагая рэдакцыя! Піша вам абанент з Харкава, чыю заметку «Чалавек — чалавеку» вы надрукавалі пад нумарам 158 у канцы мінулага года. Дазвольце выказаць шчырую падзяку вашай службе і ўсім тым, хто адгукнуўся на мой кліч. Колькі чалавечай цеплыні я зведаў! Я пазнаёміўся з чулай і добрай жанчынай з Віцебска. Мы вырашылі стварыць надзейную, трывалую сям'ю і жыць у яе родным горадзе.

Жадаю далейшых поспехаў у вашай высакароднай і добрай справе.

* * *

Дзякуй вам за працу, за старанне, за лісты. Пішуць у асноўным сумленныя, цікавыя людзі. Але сэрца не падзеліш, як мандарын, на долі. Трэба аддаць сэрца цалкам і аднаму. Яшчэ раз дзякуй за ўсё. (164).

Святлана.

* * *

Маё пісьмо «Узаемадапамога» надрукавала летась («Хоць і сярод добрых людзей», № 107). Я атрымаў вельмі многа пісьмаў ад людзей, якія мяне зразумелі, адказалі шчырасцю сяброўскіх пачуццяў. Словам, усім, хто адгукнуўся, а таксама «Службе ўзаемадапамогі» — мая вялікая ўдзячнасць.

Падрыхтавала **Алена ШАБАЛІНА.**



Фота Андрэя ДЗЕГЦЯРОВА.

# УРОКІ ШАХМАТНАГА КАРАЛЯ



**Пад рэдакцыяй міжнароднага гросмайстра Віктара КУПРЭЙЧЫКА.**

## ДЗІЦЯЧЫ МАТ!

Бадай, усе ўвогуле шахматысты — ад аматара-пачаткоўца да чэмпіёна свету — у свой час атрымоўвалі так званы «дзіцячы мат».

Але гады імчаць... І вось ужо калі за шахматныя столікі садзяцца не дзеці, а ўзмужнелыя юнакі, барацьба на чорна-белых палях распачынаецца, як кажуць, «не на жыццё, а на смерць»... Хочаце прыклады? Калі ласка.

Падаём фрагмент з паядынку паміж Шыравым (белыя) і Паранянам (чорныя). Гульня адбылася ў Івана-Франкоўску ў часе 37-га чэмпіянату СССР сярод юнакоў. Лёшу Шыраву з Рыгі ўсяго 15 гадоў, але, нягледзячы на такі ўзрост, ён ужо «ветэран» — пяты раз гуляе ў чэмпіянаце краіны...




32. Л:e5!? У падобных сітуацыях Лёша дзейнічае па шахматнай завядзёнцы: калі ёсць чым ахвяраваць,— чаму ж не ахвяраваць?..

32. ...Л:b7 33. Л:e8+Кpg7 34. d5! У рэшце рэшт выбіраецца з «засады» і чарнапольны слон.

34. ...f6 35. dc Лc7 36. Cd4 Кpf7 37. Лh8f5 38. Лb1 Кf3 39. h3 К:d4 40. cd? Памылка ў цэйтноце. (Найбольш дакладны ход быў такі — 40. Лh7+).

40. ...Лe7 41. Лb7 Фd1 + 42. Кph2f4 43. Лh7 + Кpf6 44. Лh:e7fg+ 45. Кp:g3 Ф:d4 46. Лf7 + , і чорныя капітулявалі.

Чытачы «Беларусі» з папярэдніх выпускаў «Урокаў шахматнага караля» ведаюць пра творчасць «венгерскага трыо» — сясцёр Жужы, Сафіі і Юдзіт Полгар. Як ім жывецца-гуляецца ў апошні час? Добра. Як і раней. Пазіцыя, якую вы бачыце на дыяграме, склалася на турніры ў Гасцінгсе. Год 1989-ты... Ю. Полгар (белыя) гуляе з Р. Сінгхам (чорныя).

Як працягваць гульню за белых? Пайсці на размены? Можна, канечне. Аднак Юдзіт крочыць сваім шляхам: наносіць даволі трапны тактычны ўдар. 29. C:d5! Ф:d5 (Нельга, зразумела, 29... К:d5 30. Фg7X! або — 29... Ф:c3 30. C:e6 +).




30. Ф:c8 + Кe8 31. Фd7. Усё скончана. Бліскучы фінал! Чорныя здаліся. Падобныя «снайперскія стрэлы» звычайна наносяць шахматныя байцы са стажам. А Юдзіт Полгар усяго толькі 12 гадоў!

...А вы кажаце,— «дзіцячы мат»?

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 8

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 1. Самба. 6. Падарунак. 9. Кайра. 10. «Загай». 13. Яшма. 14. Ваза. 15. Боты. 16. Інза. 19. Скетч. 20. Сэрца. 23. Мадапалам. 24. Тураў. 27. Талаліхін. 30. Песня. 31. Ліміт. 34. Азія. 35. Гама. 36. Указ. 37. Саюз. 40. Валуй. 41. Бабій. 44. «Камунарка». 45. «Даісі».

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 2. Ачаг. 3. Баул. 4. Лаура. 5. Багаж. 7. Касметыка. 8. «Чараўніцы». 11. Вярба. 12. Ранак. 17. Атлас. 18. «Дэман». 21. Харужая. 22. Мазанік. 25. Кашнэ. 26. Фінік. 28. Селіханаў. 29. Гіпатанія. 32. Кавун. 33. Хамза. 38. Гумар. 39. «Чайка». 42. Куба. 43. Шанс.





ЛИНИЯ ОТРЕЗА

Ф СП-1

Министерство связи СССР
«Союзпечать»

АБОНЕМЕНТ журнал | 74820 |
(индекс издания)

Беларусь

| Количество комплектов | 1 |
|---|---|

на 1990 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куда
(почтовый индекс) (адрес)

Кому
(фамилия, инициалы)

| ПВ | место | литер |
|---|---|---|

ДОСТАВОЧНАЯ КАРТОЧКА

журнал | 74820 |
(индекс издания)

Беларусь

| Стоимость | подписки | — руб. — коп. | Количество комплектов | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | переадресовки | — руб. — коп. | | |

на 1990 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куда
(почтовый индекс) (адрес)

Кому
(фамилия, инициалы)

# КРАСВОРД



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 4. Дырыжор, народная артыстка БССР. 7. Беларускі скульптар, адзін з аўтараў Манумента ў гонар савецкай маці-патрыёткі ў Жодзіне. 8. Адзінка магнітнай індукцыі. 9. Раённы цэнтр у Брэсцкай вобласці. 12. Бацькаўшчына. 15. Выдатны рускі акцёр. 17. Нацыя, асноўнае насельніцтва адной з АССР. 18. Беларускі паэт. 19. Балерына, адна з заснавальнікаў беларускага балетнага тэатра. 21. Самы заходні горад БССР. 22. Дзікі часнок. 24. Прыбор для рэгулявання сілы току. 28. Адна са скульптур Мемарыяльнага комплексу Брэсцкая крэпасць-герой. 29. Артыст тэатра імя Я. Купалы, народны артыст СССР. 30. Прыборы для асвятлення сцэны. 31. Водны від спорту.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Горад у ГДР, пабрацім Мінска. 2. Беларускі жывапісец, майстар кніжных экслібрысаў. 3. Прыток Бярэзіны. 5. Хутар на Лагойшчыне, дзе доўгі час жылі маці Я. Купалы і яго сёстры. 6. Беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка. 10. Сумка ў паляўнічага. 11. Абаронца Брэсцкай крэпасці, Герой Савецкага Саюза. 13. Спартыўнае збудаванне. 14. Возера на Віцебшчыне. 15. Беларускі пісьменнік, аўтар аповесці «Пульс жыцця». 16. Умоўнае або сімвалічнае выражэнне якога-небудзь паняцця, ідэі. 20. Шматгадовыя травы сямейства лілейных. 23. Персанаж рамана І. Шамякіна «Сэрца на далоні». 25. Простае рэчыва, якое хімічна не раскладаецца на больш дробныя часткі. 26. Драпежная птушка. 27. Сума збораў, аплаты.

Склаў **Уладзімір ЖДАНКО.**

ЛИНИЯ ОТРЕЗА

## ПРОВЕРЬТЕ ПРАВИЛЬНОСТЬ ОФОРМЛЕНИЯ АБОНЕМЕНТА!

На абонементе должен быть проставлен оттиск кассовой машины.

При оформлении подписки (переадресовки) без кассовой машины на абонементе проставляется оттиск календарного штемпеля отделения связи. В этом случае абонемент выдается подписчику с квитанцией об оплате стоимости подписки (переадресовки).

Для оформления подписки на газету или журнал, а также для переадресования издания бланк абонемента с доставочной карточкой заполняется подписчиком чернилами, разборчиво, без сокращений, в соответствии с условиями, изложенными в каталогах Союзпечати.

Заполнение месячных клеток при переадресовании издания, а также клетки «ПВ — МЕСТО» производится работниками предприятий связи и Союзпечати.



Спрэчкі спецыялістаў і дыскусіі нефармалаў аб неадкладнай дапамозе прыродзе ўспыхваюць сёння бурна і часам нечакана. Як магній над фотакамерамі піянераў часопіснага «святлапісу».

У год, калі фатаграфіі споўнілася паўтара стагоддзя (і з'явіўся востры інтарэс да старых здымкаў), давядзіцца прызнаць: фотарэпарцёры канца мінулага стагоддзя з гэткай жа ўпартасцю шукалі «індустрыяльныя пейзажы», з якой іх сучасныя калегі спрабуюць адшукаць у нашым забруджаным навакольным асяроддзі куткі роднай зямлі, не знявечаныя індустрыялізацыяй. А такіх куткоў у нас усё меней, і ў аб'ектыў усё часцей трапляюць зусім не сімпатычныя сляды нашай працы і, вядома ж, нашага адпачынку...

Мільёны мікразвалак у нашых лясах і гаях. Свежая трава там з цяжкасцю прабіваецца праз паперу, поліэтыленавыя мяхі, бітае шкло... Мы горача падтрымліваем неабходнасць захавання і аднаўлення багаццяў роднай зямлі. Толькі ніяк не можам пачаць займацца гэтым рашуча і сур'ёзна.

Ніхто дакладна не ведае, колькі рознага бруду і смецця сабралася, напрыклад, у рэках і азёрах. Затое вядома: за апошнія гады агульная мінералізацыя вадаёмаў павялічылася ў 1,5—2 разы. Зусім нядаўна, недзе ў 1980—1981 гадах, з прытокаў Прыпяці (як і амаль з усіх нашых рэчак) поўнасцю зніклі язь, еўрапейскі сом, галец, судак... Ракі там зніклі яшчэ раней. Але вось сёлета ў красавіку мінчане мелі магчымасць купіць і зварыць жывога рака. Рака з ікрой. Загадка?

Адзін з невялікіх вадаёмаў, дзе ракі цудам засталіся, трапіў у поле зроку кааператараў. З гаспадарамі унікальнага вадаёма прадпрымальныя дзялкі хутка заключылі «кантракт»:

— У вас ракаў — як нідзе. Яны, праўда, з ікрой, і лавіць іх быццам бы нельга. Але ўсё ж такая магчымасць быццам бы ёсць. Калі прадаваць дзесятак за пяць рублёў...

— Бярыце. А то іх занадта многа развялося. Таму і дробныя.

Любім мы прыроду! Адзін з надзейнай паперай у кішэні займаецца «ўзаконеным» браканьерствам, другі ахвотна бярэ за гэта грошы. Наогул, калі мы бачым нешта смачнае, усе прынцыпы адкідваем убок. Ніхто не абураецца тым, што тавар — з Чырвонай кнігі, няма пікетаў перад прылаўкам вясёлых гандляроў далікатэсамі. Купляй! Можна!

Сёння толькі вяскоўцы сталага веку памятаюць, колькі рознага звяр'я вадзілася ў лесе. Нашы ж дзеці — калі не ўсе, то амаль усе — ведаюць зайца і лісу, лася і дзіка, аленя і казулю выключна па малюнках у кніжках. Ім, вядома, ніхто не будзе тлумачыць, што звяроў у нас... многа. Вельмі многа! І вось таму паляўнічым дазволена адстраляць за сезон амаль 3 тысячы ласёў, 6 тысяч дзікоў, каля 500 аленяў, 300—400 казуль, 60 тысяч зайцоў, больш як 900 лісіц... Летась калгас у Старадарожскім раёне нарабіў столькі кансерваў з мяса ласёў, што яны апынуліся нават у свабодным продажы на праспекце Машэрава ў Мінску ў магазіне «Дары прыроды». З праграмы «Сельская гадзіна» жыхары рэспублікі даведаліся таксама, што, акрамя свініны і ялавічыны, Беларусь пастаўляе на рынак мяса зуброў і аленіну.

Вы не бачылі гэтыя кансервы па тэлевізары? А калі бачылі, то, мусіць, парадаваліся, што з зуброў, занесеных у Чырвоную кнігу БССР, атрымліваюцца цудоўныя кансервы?!

Я звярнуўся за тлумачэннем да буйных спецыялістаў, і яны адказалі:

— Палявання на зуброў няма. А страляюць іх дзеля выбракоўкі. Ашчаджаем генетычную чысціню.

І ўсё ж не пераканалі мяне, што зубр з «няякаснымі» генамі павінен ісці на мяса, а не на аўкцыён, у заапарк, «пераехаць» у лясы, дзе зуброў пакуль няма. Але яны там могуць быць.

Гэта толькі адзінкавыя факты, пра якія павінен ведаць цывілізаваны чалавек. Падумайце над імі, разглядаючы здымкі гэтага фотанарыса.

**Валерый ЛАРЫН.**





**ФОТАНАРЫС**
**Віктара ЖЫЛІНА**




# экалогія і мы




# Беларусь

## 1990

## РУБРЫКІ:

Зямля, адкуль мы родам
Актуальны погляд
Надзённая праблема
Завём родным домам Савецкі Саюз
Палітычны глобус „Беларусі"
З далёкіх і блізкіх дарог
Спадчына
Пульс навукі
Творчасць мільёнаў
Эцюды аб шэдэўрах
Майстры беларускай культуры
Наш вернісаж
Майстэрня
Служба ўзаемадапамогі
Фанаграма
Тэатр
Экран
Урокі шахматнага караля
Суб"ектыўны аб"ектыў
Рэзананс
Люстэрка
Кірмаш
Спорт

